Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 10

КАСТРЫЧНІК






МЕНСК — 1931

**Ю. Сахацкі**

# Соцыял-фашысцкі авангард окупацыі і нацыянальнага прыгнечаньня

## I

### ППС і окупацыя Украіны і Зах. Беларусі

У галіне замацаваньня позыцый польскай буржуазіі на Украіне і Зах. Беларусі, пракладваньня шляху політыцы колёнізацыі і полёнізацыі гэтых земляў ППС, якая *зьяўляецца адным з слупоў польскай окупацыі*, выконвае адказныя задачы. Яшчэ да ўзьнікненьня буржуазнай польскай дзяржавы ППС была яркай прадстаўніцай імпэрыялістычных тэндэнцый польскай буржуазіі, уваскрошвала гістарычныя традыцыі Польшчы „ад мора да мора". Гэтыя захопніцкія імкненьні ППС і адносіны да Беларусі і Украіны праявіліся з асаблівай сілаю ў пэрыод вайны 1914-1918 гг. Орыентуючыся на перамогу цэнтральных дзяржаў, „абвіваючыся як павойнік вакол трону Габсбургаў" (словы Дашынскага), ППС пасьпешна згаджалася на ўключэньне аўтономнай польскай дзяржавы ў дзяржаўны саюз Аўстра-Вэнгерскай монархіі [1]) і ўрачыста адмаўлялася ад усякіх прэтэнзій у адносінах да польскіх земляў былой Прусіі. Але адначасна правадыры ППС патрабавалі пашырэньня „аўтономнай польскай дзяржавы" далёка на Ўсход, на беларускія і ўкраінскія землі.

„Ніводзін цьвярозы політык — пісаў адзін з правадыроў ППС, *Вітольд Іодка Наркевіч* у выданай у 1916 г. брошуры „Дэйтшлянд унд Полен" (Нямеччына і Польшча) — сур'ёзна не чакае з боку Нямеччыны альбо Аўстрыі адмаўленьня ад сваіх уладаньняў на карысьць цалкам незалежнай Польшчы, ва ўсякім выпадку ніхто гэтага вымагаць ня будзе. Але затое Расійская дзяржава яшчэ мае землі, праўда, толькі часткова населеныя палякамі, якія павінны, аднак, увайсьці ў склад Польскай дзяржавы. Да гэтых земляў у першую чаргу належыць Літва".

Іодка прызнае, што „аўтономнай Польшчы" цяжка будзе пераварыць Літву, але затое знаходзіць, што яна лёгка справіцца з беларускімі землямі. Іодка анэктуе на карысьць Польшчы был. губ. Менскую, у якой, на яго думку, палякі складаюць 10,5 проц., Горадзенскую (16,2 проц.) і Віленскую (26,2 проц.); згодна пэпээсаўскай інтэр-

---

1) Марачэўскі. „Польскае пытаньне ў сучаснай вайне". Лозанна. 1916 г.

прэтацыі права на самавызначэньне, вызначае ён будучыя граніцы Польшчы.

„У агульных рысах граніцы польскай дзяржавы павінны быць наступныя: заходняя і паўднёвая граніца цяперашняга Царства Польскага, рэкі: Прыпяць, Дняпро, Дзьвіна і Сьвента аж да Нёману“ (стар. 23).

Польшча аж да Дняпра і Дзьвіны — вось як лёзунг самавызначэньня разумелі ў час імпэрыялістычнай вайны польскія соцыял-шалахвосты.

Захопніцкі пункт гледжаньня ППС у адносінах да беларускіх і украінскіх земляў разьвівае Тэркер, рэдактар Кракаўскай газэты, орган ППС „Напшуд“ у артыкуле ад 20 кастрычніка 1916 г. Палемізуючы з эндэкамі (нацыянал-дэмократамі), якія высоўвалі концэпцыю аб‘яднаньня польскіх земляў шляхам заваяваньня Царскай Расіі, Галіцыі і Пазнані, Тэркер піша:

„Хто ідзе разам з цэнтральнымі дзяржавамі, той можа шукаць здабычы толькі на Ўсходзе. А таму паны эндэкі, згодна свайму прынцыпу, згаджаюцца на „этнографічную Польшчу“, гэта значыць, адмаўляюцца ад Літвы і Валыні і патрабуюць Пазнані.

Мы-ж ідзем на Літву і Валынь, а Пазнань мы выкрасьлілі з програмы нашых дзяржаўных імкненьняў“.

Гэты погляд выказваўся ўсім пэпэасаўскім друкам.

„Вялізныя прасторы, да пінскіх балот і лясоў Беларусі — чытаем у Варшаўскім органе ППС „До чыну“ („Да дзеяньня“) ад жніўня 1915 г. — вырваны ў маскоўскага наезьніка. Вось тэрыторыя, на якой вольны, ні кім ня зьвязаны польскі народ павінен стварыць уласную дзяржаўнасьць.“

Стаўка ППС на перамогу цэнтральных дзяржаў абанкроцілася. Троны Габсбургаў і Гогенцолернаў, апіраючыся на якія правадыры ППС хацелі шукаць на Ўсходзе здабычы, — разбурыліся. ППС не адмовілася, аднак, ад імкненьня заваяваць беларускія і украінскія землі, але толькі цяпер яна схавалася пад крыльлі пераможнай Антанты.

Двурушна дэклямуючы аб праве на самавызначэньне прыгнечаных народаў, ППС пры дапамозе Антанты організавала ў 1918-19 г. *захоп Усходняй Галіцыі польскімі войскамі і разбойніцкі паход на Вільню*.

Каля стырна-ж ураду ў канцы 1918 г. і ў пачатку 1919 г. знаходзіўся „народны ўрад“, пасьля заняпаду якога начальнікам дзяржавы застаўся Пілсудзкі, да якога правадыры ППС мелі тады поўнае давер‘е. Гэта-ж шовіністы з ППС уваходзілі ў склад кадраў „абаронцаў Львову“ і імкнуліся надаць масам самы дзікі нацыяналізм. Гэта-ж тагочасны правадыр ППС і прэм‘ер іхнага ўраду — Марачэўскі — у брошуры „Граніца паміж Польшчай і Украінаю“ даводзіў „правы“ Польшчы на заходня-украінскія землі.

„У памятныя лістападаўскія дні 1918 г. — чытаем у мэморандуме *Украінскай соцыял-дэмократычнай партыі*, адрасаваным зьезду соцыялістычных партый усходняй Эўропы ў сакавіку 1920 г. — організаванае дэпутатам Гаўспэрам баявая дружына польскіх чыгуначнікаў спустошыла памяшканьне сакратарыяту саюзу украінскіх чыгуначнікаў. З прычыны даносу яе і пры актыўным яе ўдзеле былі арыштаваны і загнаны ў концэнтрацыйныя лягеры кіраўнікі украінскага чыгуначнага саюзу. З прычыны даносу пэпэсаўскіх чыгуначнікаў быў арыштаваны правадыр львоўскай

групы украінскіх чыгуначнікаў таварыш Міхал Файфэр, які памёр у вастрозе. У часе прыёму на службу украінскіх чыгуначнікаў, якія падпалі пад лёкаут — польская чыгункавая організацыя ўдзельнічала ў сакрэтных рэабілітацыйных камісіях і прымала ўсе захады, каб перашкодзіць украінцам паступіць на службу".

Аб ганебных адносінах ППС да вызваленчага змаганьня украінскіх мас у 1918-19 г. сьведчыць выданая ў лістападзе 1928 г. брошура кіраўніка ўсходня-галіцыйскай організацыі ППС соймавага дэпутата Артура Гаўспэра. [1]) Характэрна, што з прычыны дзесяцігодзьдзя незалежнасьці Польшчы, якое так шумна сьвяткавалася буржуазіяй і яе „соцыялістычнымі паслугачамі", ППС выдала адну адзіную брошуру Гаўспэра, мэтаю якой зьяўляецца абарона і абаснаваньне польскай окупацыі ў Заходняй Украіне. Занятая Гаўспэрам позыцыя — гэта позыцыя ўсіх польскіх нацыяналістычных партый. Для іх украінскі народ — гэта „цёмная этнографічная сялянская маса", змаганьне за нацыянальнае вызваленьне украінскіх мас, якія ў 1918 г. са збораю ў руках выступілі супроць польскіх наезьнікаў — гэта „інтрыга хціваЙ Аўстрыі, якая, паміраючы, перадала зброю ў рукі гайдамакаў". На думку Гаўспэра, у лістападзе 1918 г. „ўлада ва Ўсходняй Галіцыі перайшла да самых цёмных і дзікіх элемэнтаў" (стар. 23).

„З палардаю я глядзеў на гэты дзікі натоўп" — шчыра прызнаецца гэты „польскі соцыяліст", які ў час імпэрыялістычнай вайны знаходзіўся на ўтрыманьні аўстра-вэнгерскай монархіі, лізаў бот Франца-Юзэфа, пасылаў яму тэлеграму з выражэньнем верна-падданьніцкіх пачуцьцяў.

Окупацыю Ўсходняй Галіцыі польскімі войскамі, якія агнём і мячом пустошылі украінскія землі, Гаўспэр лічыць „благаславеньнем" для украінскага народу, які, апіраючыся на свае ўласныя сілы, ня мог-бы быццам існаваць, як захад, які дае яму магчымасьць выйсьці на дарогу заходняй цывілізацыі.

> „У дзікім шаленстве — піша п. Гаўспэр — украінскія шовіністы забыліся, што бяз моцнай дэмократычнай Польшчы і гутаркі ня можа быць пра вольную і незалежную Украіну. Ня толькі ў тым сэнсе, што бяз Польшчы і дапамогі з яе боку ня змогуць зьдзейсьніцца вызваленчыя імкненьні украінцаў, але і таму, што украінскі народ, пры організацыі дзяржавы, павінен быў-бы наткнуцца на няўхільныя перашкоды ўнутранага характару."

Што-ж гэта за „ўнутраныя цяжкасьці", якія зьяўляюцца прычынаю таго, што „незалежнасьць" Украіны можа быць зьдзейсьнена толькі ў межах польскай дзяржавы? На гэта пытаньне Гаўспэр адказвае параўнаньнем польскага і украінскага народаў.

> „Польскае грамадзтва ў соцыяльных адносінах распластавана; мае моцнае пачуцьцё дзяржаўнасьці," але „гэтых высокіх каштоўнасьцяй пазбаўлена сялянскае украінскае грамадзтва без дзяржаўнай традыцыі".

Ці бачыце, няшчасьцем украінцаў зьяўляецца адсутнасьць дастатковай колькасьці клясы буржуазіі і памешчыкаў, а таму гэтыя „высокія каштоўнасьці" яны павінны пазычаць у вялікадушнай буржуазнай Польшчы, якая, маючы на ўвазе толькі дабро украінскага народу, высылае свае колёнізацыйныя атрады ў глыб украінскіх земляў.

[1]) „Лістапад 1918 году." „У дзесятую гадавіну". Львоў 1928 г. Выданьне праўленьня акруговага саюзу чыгуначнікаў Польскай рэспублікі.

Пасьля заваяваньня Ўсходняй Галіцыі і Вільны ППС прымала самы актыўны ўдзел пры арганізацыі далейшых наезьніцкіх паходаў на беларускія і украінскія вобласьці.

У перамаўленьнях з Пятлюраю, што мелі месца да паходу польскіх войск на Кіеў, прымаў удзел правадыр ППС Дашынскі, які матываваў на пасяджэньні сойму 25 красавіка 1920 г. дагавор з Пятлюраю, з прычыны якога ён „аддаваў" Польшчы Валынь за дапамогу ў заваяваньні Украіны да Дняпра.

Радасьць з прычыны дагавору з пагромнікам Пятлюрай і, што чакаўся, захопу Польшчай новых украінскіх вобласьцяй выражаў таксама цэнтральны орган ППС „Работнік".

> „Урад, нарэшце, зразумеў неабходнасьць саюзу з Пятлюрай, што знайшло сваё конкрэтнае выражэньне ў польска-украінскай згодзе і ў маніфэстах галоўнакамандуючага Пілсудзкага і атамана Пятлюры. Гэтыя маніфэсты мы вітаем з радасьцю і здавальненьнем" —

пісаў „Работнік" 5 мая 1920 г. за два дні да ўваходу ў Кіеў польскіх белых войск.

У буржуазным хоры, які вітаў з прычыны ўзяцьця Кіева „пераможнага правадыра" (Пілсудзкага) і галасьней ад усіх раздаваліся голасы правадыроў ППС, якія захлыналіся ад радасьці, што надыйшоў, нарэшце, час рэалізацыі „фэдэралістычнай" програмы.

Пад магутнымі ўдарамі рабоча-сялянскай Чырвонай арміі польскія белыя войскі змушаны былі выйсьці з Украіны і Беларусі і затрымацца толькі пад сьценамі Варшавы. „Фэдэралістычныя" парываньні і пляны польскай буржуазіі былі сарваны патугамі рабочых і сялян СССР, пры падтрыманьні міжнароднага пролетарыяту. Але ППС не адмовілася ад „фэдэралістычных" плянаў. У працягу 10-ці год, што прайшлі з часу польска-савецкай вайны, яна праводзіла сваю „фэдэралістычную програму", падтрымліваючы колёнізацыйную політыку польскай буржуазіі ў адносінах да Украіны і Заходняй Беларусі.

ППС-аўскія арганізацыі, а таксама соцыял-фашысцкі апарат профсаюзаў на окупаваных украінскіх і беларускіх землях — вось аснова польскай дзяржаўнасьці нараўне з паліцэйскім вучасткам. Між імі самае цеснае супрацоўніцтва. Не адрозьніце, дзе канчаецца агент ахранкі, а дзе пачынаецца дзеяч ППС. Таму зразумела, што правадыры польскай партыі соцыял-шовіністаў, клапоцячыся аб слупох сваіх арганізацый на окупаваных землях, не адзін раз скардзіліся на тое, што недастаткова клапоцяцца аб паліцыі.

> „Як можна гаварыць пра небясьпеку жыхароў ускраін, калі, напрыклад, на 6 паветаў адпускаецца на разьведвальную службу ўсяго толькі... 300 злотых у месяц." [1])

Згодна сваёй паліцэйскай позыцыі ў адносінах да окупаваных земляў правадыры ППС ня толькі прымалі актыўны ўдзел пры правядзеньні колёнізацыйнай політыкі на Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі (галасаваньне за т. зв. статут аб мове ў 1925 г.), але і садзейнічалі програмам украінскага насельніцтва. Крывавы пагром украінцаў у Львове, арганізаваны разьятранымі фашысцкімі бандамі 1-га лістапада 1918 г., ня толькі ня выклікаў протэсту на XXI зьезьдзе ППС, які тады адбываўся, а наадварот, нават апраўдваўся ППС-аўскімі

[1]) „Дзеньнік людовы", № 243, кастрычнік 1924 г. Артыкул „Цяжкае жыцьцё на ўскраінах".

правадырамі. На паседжаньні адміністрацыйнай камісіі сойму ад 14-га сьнежня 1918 г. пэпээсаўскі дэпутат Прагер прапанаваў прыняць да ведама заяву ўраду аб львоўскім пагроме (позыцыя ўраду выражалася ў словах міністра ўнутраных спраў Складкоўскага: „поліцыя была вінавата таму, што была занадта мяккаю“). На пэпээсаўскіх сходах выносіліся рэзолюцыі, якія ганьбілі... „эксцэсы украінцаў“.

Нічога дзіўнага, што калі два гады спусьціўшы ў Заходняй Украіне разгуляліся пацыфікацыйныя орды, катуючы і забіваючы украінскіх сялян, правадыры ППС праявілі поўную солідарнасьць фашысцкай „дзяржаўнай неабходнасьці“.

> „Пацыфікацыя Ўсходняй Галіцыі ў сувязі з саботажам УВО (Украінская Вайсковая Організацыя) — пісаў львоўскі орган ППС „Дзеньнік людовы“ — зьяўляецца бязумоўнай неабходнасьцю. Умешваньне ўлады абавязкова, калі справа тычыцца грамадзкай небясьпекі і маемасьці грамадзян. Гэта дыктуецца як дзяржаўнымі, так і грамадзкімі інтарэсамі. Далейшае мяккае стаўленьне да саботажу прывяло-б да абсурду, выклікала-б поўнае разлажэньне ўзаемаадносін у нашай частцы краіны. Прызнаючы неабходнасьць бязьлітаснай рэакцыі з боку ўлады, трэба канстатаваць, што спосаб пацыфікацыі, які ўжываецца цяпер, выклікае сур'ёзныя сумненьні“.

Выказваючыся, такім чынам, за поліцэйскую пацыфіцацыю рэволюцыйнага руху заходня-украінскіх працоўных мас, правадыры ППС робяць агаворку толькі адносна мэтодаў пацыфікацыі.

Выражаючы небясьпеку, што мэтоды Пілсудчыны немэтазгодныя, правадыры ППС прапаноўвалі свае больш дзейсныя спосабы змаганьня з рэволюцыйным рухам.

> „Трэба ліквідаваць саботажнікаў, а не надаваць ім новай ежы“ — робіць заключэньне „Дзеньнік людовы“.

Для пасьпяховага змаганьня з нацыянальна-вызваленчым рухам украінскіх працоўных мас, які выразіўся ў падпалах памешчыцкіх маёнткаў, правадыры ППС у Заходняй Украіне прапаноўвалі стварэньне адзінага нацыянальнага фронту ад ППС аж да нацыянал-дэмократыі. Львоўскі орган ППС „Дзеньнік людовы“ ў сувязі з змаганьнем у часе выбараў паміж пілсудчыкамі і так званай опозыцыяй, пісаў, што паколькі няма ўжо часу на стварэньне пашыранага блёку (ня толькі з партыямі Цэнтралеву, але і з нацыянал-дэмократыяй), які ахапліваў-бы ўсю дзяржаву, то згода павінна адбыцца хоць-бы на некаторых вучастках. За стварэньне такога блёку, на думку пэпээсаўскага органу, кажуць ня толькі агульныя брэсцкія пакуты пэпээсаўцаў Барвіцкага, Лібэрмана, Прагера і аднаго з правадыроў нацыянал-дэмократыі Алеся Дэмбскага, але і ўздымны анты-окупацыйны рух у Заходняй Украіне:

> *„Пытаньне аб анархічных адносінах у нашай частцы краіны таксама не зьяўляецца другарадным“.* [1])

Згодна двудушнаму характару сваёй політыкі правадыры ППС пасьля таго, як залілі крывёю героічнае змаганьне украінскіх сялян, „протэставалі“ супроць пацыфікацыі. Але бясспрэчныя факты сьцьвярджаюць, што сапраўды ППС як да таго, гэтак і ў часе пацыфікацыі была адным з слупоў окупацыйнай політыкі польскай буржуазіі.

[1]) „Дзеньнік людовы“, 22-га верасьня 1930 г.
Падкрэсьлена рэдакцыяй „Дзеньнік людовы“.

Дванаццаць год нацыянальнай палітыкі ППС выкрылі сапраўдны зьмест „фэдэралістычнай“ фразэолёгіі, задачай якой зьяўляецца абарона мэтодаў колёнізацыйнага паходу польскага імпэрыялізму на беларускія і украінскія землі, а таксама падрыхтоўка глебы для вайны супроць Савецкага Саюзу.

„Шлях да незалежнай Украіны вядзе не праз Усходнюю Галіцыю, а праз расійскую Украіну“ — пісаў пэпээсаўскі „Работнік“ ад 29-га жніўня 1930 г.

Замацоўваючы польскую окупацыю ў Заходняй Украіне, ППС адначасна працуе старанна ў галіне ідэолёгічнай падрыхтоўкі новага разбойніцкага паходу польскага фашызму на Кіеў і Менск.

## II

## „Забесьпячэньне“ Польшчы на Захадзе

Позыцыя ППС у адносінах да прыгнечаных польскай буржуазіяй нямецкіх і яўрэйскіх мас наскрозь нацыяналістычная.

Правадыры ППС, нараўне з іншымі фракцыямі польскай буржуазіі, абараняюць непарушнасьць Вэрсальскага дагавору, які зьяўляецца „ня мірам, а ўмовамі, падрыхтаванымі разбойнікамі з нажом у руках бяспомачнай ахвяры“. У часе нарад аб Вэрсальскім дагаворы правадыры ППС дужа стараліся, каб да Польшчы далучыць Верхнюю Сылезію, Данцыг, Мазурыю, Вармію, імкнуліся нават да адлучэньня Усходняй Прусіі ад Нямеччыны і нэўтралізацыі Кільскага каналу. Для зьдзяйсьненьня гэтых мэт ППС разам з другімі буржуазнымі партыямі організавала банды баявікоў, якія тэрорызавалі працоўнае насельніцтва ў плебісцытных вобласьцях і зьбіралі кадры верхне-сылескіх паўстанцаў.

„Вычарпаўшы сусьветныя сродкі — пісаў пэпээсаўскі „Напшуд“ 14-га чэрвеня 1919 г. — Польшча павінна другім шляхам абараняць свае пільныя правы і інтарэсы. Верхняя Сылезія павінна быць польскай, па згодзе ці бяз згоды Антанты“.

У трох верхня-сылескіх паўстаньнях ППС прымала самы актыўны ўдзел. Ад рукі пэпээсаўскіх баявых дружын загінуў тав. Бруно Бохэнэк, старшыня фабзаўкому заводу Фальва і цэлы рад другіх рабочых, якія адважыліся выступіць супроць нацыяналістычнага цкаваньня і захавалі адданасьць прынцыпам міжнароднай солідарнасьці пролетарыяту.

Правадыры ППС засталіся назаўсёды ў памяці верхне-сылескіх рабочых загадам, які пагражаў рабочым сьмяротнай караю за забастоўкі.

Пасьля плебісцыту, праведзенага ў Верхняй Сылезіі ў 1921 г. на падставе рашэньня і пад контролем пераможных дзяржаў Антанты, верхне-сылескія капіталісты распачалі фронтальную атаку. Пачаліся масавыя звальненьні, рыхтаваўся напад на зарплату. „Комуністычная партыя, — піша т. Рваль у брошуры, выданай з прычыны дзесяцігодзьдзя верхне-сылескага плебісцыту — ня гледзячы на тэрор, баявыя дружыны і окупацыйныя войскі, ня гледзячы на плебісцытны чад і цкаваньне нацыяналістаў, распачала організацыю рашучага адпору пролетарыяту. Комуністы мобілізавалі масы для солідарнага клясавага

змаганьня. Першымі выступілі пад кіраўніцтвам рабочыя заводаў Бісмарка, Пальвы і Байльдона, за імі шахты Касталенго і каралевы Людвікі ў Забржы. Рабочыя рэзка і рашуча патрабавалі адмены прымусовых сьвят, спыненьня наступу на ўмовы працы і зарплаты. Рэволюцыйны клясавы рух, дзякуючы няўтомнаму змаганьню комуністычнай партыі, пачаў ламаць нацыяналістычныя перашкоды. Першыя рэволюцыйныя ўспышкі адбыліся ў канцы красавіка 1921 г. Капіталісты выкінулі на вуліцу некалькі соцен рабочых Глейвіцкай шахты. Па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам комуністаў, што засталіся, рабочыя адказалі солідарнай забастоўкай. Адначасна комуністычная партыя заклікала да організацыі конгрэсу фабзаўкомаў Верхняй Сылезіі для змаганьня на абарону глейвіцкіх рабочых і супроць наступу капіталу, аж да генэральнай забастоўкі. Глейвіцкая забастоўка з стыхійнай сілаю пачала перакідацца і на другія шахты. Гэту акалічнасьць выкарысталі польскія нацыяналісты ў змове з польскім урадам і французкімі окупантамі для таго, каб выклікаць трэцяе паўстаньне, якое даўно падрыхтоўвалася.

Правадыр польскай буржуазіі ў Верхняй Сылезіі—Корфанты і правадыры польскіх профсаюзаў з свайго боку таксама абвясьцілі генэральную забастоўку, але толькі як прыкрыцьце для ваеннага нацыяналістычнага паўстаньня. Уяўную абарону звольненых глейвіцкіх рабочых выставілі яны толькі для таго, каб для мэтаў паўстаньня мобілізаваць шырокія рабочыя масы. Але калі толькі што сьпечаная ваенная дыктатура Корфантага і яго бліжэйшага памочніка графа Менжынскага адчула сваю сілу, п. Корфанты і яго прысьпешнікі затрубілі да адступленьня. Досыць баставаць супроць звальненьняў і супроць зьніжэньня зарплаты. Куля ў лоб за забастоўку. „Прысуд павінен быць выкананы на працягу дзьвёх гадзін з моманту абвяшчэньня"— гаварылася ва „ўказе" катаў польскай паўстанцкай ўлады, так званага Выканаўчага Камітэту, у якім засядалі правадыры польскай соцыялістычнай партыі, нацыянальнай рабочай партыі і хрысьціянскай дэмократыі, пад старшынствам п. Корфантага.

Вось вытрымкі з аднаго з такіх крывавых загадаў гэтага камітэту:

> „Мы заяўляем, што супроць усіх тых, хто не дапусьціць да работы сваіх суграмадзян, агітуе за прапанову забастоўкі, парушаюць правы волі і ўласнасьць сваіх суграмадзян, будуць ужывацца самыя суровыя ваенныя пакараньні. А пакараньне—згодна ваеннага палажэньня—гэта расстрэл".

Пэпэесаўскі цэнтральны профсаюз, нацыянал-рабочае аб'яднаньне профсаюзаў, каталіцкія і клерыкальна-нацыянальныя хрысьціянскія саюзы выпусьцілі адначасна з гэтым катаўскім загадам маленькага верхне-сылескага Мусоліні—наступную адозву да рабочых:

> „У тоне вышэй паданага загаду кіраўніка паўстанцкага руху і выканаўчага камітэту заклікаем вас распачаць зараз-жа работу. Гэтага патрабуюць ад вас ваша шчасьце, шчасьце нашай краіны і шчасьце Польшчы.
>
> Кожны, хто не паслухаецца, будзе выключаны зараз-жа з організацыі і з радоў сьвядомай рабочай клясы".

Значыцца, уся гэта зграя машэньнікаў і здраднікаў верхне-сылезскіх рабочых мас паказала сваё контррэволюцыйнае абліччa. Пан Корфанты, нацыянал-рабочая партыя і польская соцыялістычная партыя пагражалі сьмерцю тым, хто адважыцца парушыць „правы волі і

ўласнасьці сваіх суграмадзян". Пра чыю волю і ўласнасьць ішла тут гаворка? Пра волю і ўласнасьць капіталістычных рабаўнікоў, пра захаваньне ў руках прамысловых магнатаў шахт і заводаў, пра волю рабункаў, эксплёатацыю і прыгнечаньне працоўных мас. Паны Корфанты і К-о абаранялі нямецкіх і польскіх капіталістаў перад солідарным змаганьнем польскіх і нямецкіх рабочых. Мізэрныя здраднікі з ППС і НРП солідарызаваліся адкрыта з сьмяротнаю караю за забастоўку „ў імя шчасьця рабочых,шчасьця нашай краіны і шчасьця Польшчы".

Гэткую-ж нацыяналістычную політыку праводзіла ППС у адносінах да *Тэшынскай Сылезіі.*

> „Вайну з Чэхіяй за Тэшынскую Сылезію—пісаў „Работнік" ад 5 лютага 1919 г.—польская рабочая кляса павінна лічыць сваёй вайной таму, што гэта вайна за зьнішчэньне імпэрыялістычных замераў чэскай буржуазіі, за выратаваньне польскай рабочай клясы Сылезіі ад нацыяльнага прыгнечаньня, а польскай дзяржавы і яе прамысловасьці ад экономічнага зьняволеньня".

Імкнучыся стварыць моцную экономічную базу для польскага імпэрыялізму шляхам захопу ўсёй Верхняй і Тэшынскай Сылезіі, правадыры ППС хацелі адначасна хоць-бы часткова ажыцьцявіць сваю програму „ад мора да мора" шляхам уключэньня *Данцыгу ў склад польскай дзяржавы.* Ведаючы добра пра тое, што Данцыг зьяўляецца нямецкай вобласьцю, польскія соцыял-шовіністы спасылаліся на гістарычныя традыцыі.

> „Цяпер анямечаны Данцыг—пісаў „Напшуд" 20 сьнежня 1918 г.,—у выпадку плебісцыту выказаўся большасьцю галасоў за прыналежнасьць да Прусіі".

На думку ППС-аўскіх соцыял-імпэрыялістаў цяперашнія імкненьні насельніцтва Данцыгу ня маюць значэньня таму, што ранейшыя пакаленьні жыхароў Данцыгу нібы хацелі належыць да Польшчы.

> „Такім чынам—піша „Напшуд"—трэба адзначыць супроцьлежнасьць у пачуцьцях цяперашняга пакаленьня і цэлага раду ранейшых пакаленьняў. Чаму-ж гэта аднаму пакаленьню трэба даць права адмяняць імкненьні ранейшых пакаленьняў і гаварыць ад імя пакаленьняў будучых? Няўжо толькі таму, што яно жыве ў такі час, калі ўзьнікла думка пра самавызначэньне?
>
> Таму нам здаецца, што прынцып самавызначэньня ў шмат якіх няпэўных выпадках ня можа быць прызнаны, бязумоўна, як прывілея вядомага пакаленьня, але павінен быць корыгіраваны з пункту погляду імкненьняў, якія мелі месца ў данай спрэчнай вобласьці ў розныя эпохі". [1])

Кароткі сэнс гэтага доўгага заключэньня зусім зразумелы: імпэрыялістычная Польшча для далейшай экспансіі патрабуе выхаду да мора, а таму Данцыг павінен ёй належаць, а для апраўданьня гэтага імпэрыялістычнага рабунку „соцыялістам" з ППС хопіць хітрасьці.

Апэтыт зьяўляецца ў часе яды, імпэрыялісты і іх памочнікі з II Інтэрнацыяналу ня могуць, як відаць, паскардзіцца на адсутнасьць апэтыту.

Правадыры ППС не абмежаваліся патрабаваньнем Верхняй і Тэшынскай Сылезіі і Данцыгу. Для „забесьпячэньня Польшчы" яны не забыліся і на Усходнюю Прусію.

---

[1]) „Напшуд" ад 20 сьнежня 1918 г.

Вось што пісаў пра гэта адзін з тэорэтыкаў ППС Ул. Гуміловіч у артыкуле пад назваю „Пытаньне аб Усходняй Прусіі“, зьмешчаным у пэпээсаўскай „Трыбуне“.

„У Верхняй Сылезіі зусім дарэмна абвешчаны плебісцыт, бо ні лікавая перавага палякаў, ні іхная нацыянальная сьвядомасьць не падлягаюць сумненьню.

Данцыг з яго тэрыторыяй абернуты ў дробную незалежную дзяржаву, заместа таго, каб стаць ваяводзтвам, з сваім кіраваньнем, нараўне з іншымі польскімі ваяводзтвамі, што зусім забясьпечвала-б нацыянальныя правы немцаў. Кільскі канал, гэта адзіны кароткі і бясьпечны выхад з Балтыцкага мора, пакінуты ў руках Нямеччыны; у Вэрсальскім дагаворы зьмешчаны толькі адзін многаслоўны параграф, згодна якога вольны доступ у канал забясьпечваецца суднам усіх народаў, і, такім чынам, Польшчы там даюцца гэткія-ж правы, як Урагваю і Вэнэцуэлі.

Кажучы пра ўсходня-прускае пытаньне, як пра трэцюю вялікую крыўду, нам зробленую, я ня маю на ўвазе гаварыць пра спосаб правядзеньня плебісцыту ў Мазурыі, альбо ў паўднёвай Варміі“...

Ня ў гэтым сутнасьць справы, пытаньне аб далучэньні Мазурыі і Варміі да Польшчы, гэта—у сучасны момант пытаньне другараднае, бо *галоўнае зло заключаецца ў тым, што ўся тэрыторыя* Усходняй Прусіі ўваходзіць у склад Нямеччыны.

Прынцып вызначэньня дзяржаўных межаў, згодна з межамі этнографічнымі толькі там можа праводзіцца бяз усякіх агаворак і папраўак, дзе народы займаюць суцэльную географічную тэрыторыю... А Кролевецкая (Кенігсбэрская) нізьменасьць з Мальборкам (Марыянбургам) і Данцыгам стварае востраў нямецкай мовы, што ўрэзваецца ў суцэльную тэрыторыю польскай і літоўскай мовы. Жыхары гэтага востраву настолькі могуць патрабаваць захаваньня сваёй нацыяльнай адасобленасьці, паколькі гэта мірыцца з існаваньнем суседніх дзяржаў. З гэтага пункту погляду зусім рознае палажэньне дэльты Віслы з Данцыгам і Марыянбургам і Кенігсбэрскай нізьменасьці. Дэльта Віслы павінна ўвайсьці ў склад Польшчы, як ваяводзтва з сваім кіраваньнем, бо існаваньне Польшчы як самастойнай дзяржавы, бяз аўладаньня вусьцем адзінай яе вялікай ракі, зусім немагчыма. Зусім іначай павінна быць вырашана пытаньне адносна Кенігсбэрскай нізьменасьці. Ні для існаваньня, ні для шчасьця Польшчы ня ёсьць неабходным тое, каб яна ўвайшла ў склад нашай дзяржавы. Але для бясьпечнасьці і спакойнага разьвіцьця Польшчы, бязумоўна, неабходна, каб Кенігсбэрская нізьменасьць ня была провінцыяй, аб‘яднанай Нямеччынай. Пакуль Нямеччына на захад ад нашага Памор‘я будзе валодаць сваёй Помэраніяй, і на Усход ад яго—Кенігсбэрскай нізьменасьцю, Польшча будзе заўсёды адчуваць нож каля свайго горла.

„Такое палажэньне спраў далей цягнуцца ня можа. Калі саюзныя дзяржавы сапраўды зацікаўлены ў наладжаньні моцнага міру, то неабходна выправіць Вэрсальскія хібы. *Кільскі канал неабходна адабраць ад Нямеччыны* і перадаць яго пад загад міжнароднай камісіі, складзенай з прадстаўнікоў усіх Прыбалтыцкіх дзяржаў ад Польшчы да Фінляндыі, ад Даніі да Расіі. *Вольны горад Данцыг з яго тэрыторыяю павінен быць абернуты ў Данцыгскае ваяводзтва*; з *Усходняй-жа Прусіі павінна быць створана незалежная і нэўтральная кролевецкая рэспубліка*“.

Такім чынам, Польшча, якая апіраецца на Кіеў і Менск, „забясьпечаная“ з захаду ўключэньнем усёй Сылезіі і Данцыгу, і „нэўтралізацыяй“, гэта значыць ператварэньнем Усходняй Прусіі ў польскую колёнію—вось нацыянальная програма ППС у момант ліквідацыі вайны і шырокага рэволюцыйнага руху на Захадзе, калі самым яркім чынам выкрыўся *сапраўдны клясавы* твар паасобных партый.

## III

## Соцыял-пагромнікі

Нацыяналізм вядзе правадыроў ППС да апраўданьня і садзейнічаньня ўсякім гвалтам у адносінах да зьняволеных і прыгнечаных нацый. Рукі правадыроў ППС, аблітыя крывёю ўкраінскіх „пабрацімаў“, заплываюць таксама крывёю яўрэйскай беднаты, замучанай у час пагромаў. Яўрэйскія пагромы сыстэматычна апраўдваліся правадырамі ППС. Адказнасьць за пагромы, на думку правадыроў ППС, падае на саміх яўрэяў, якія ў працягу 500 гадоў не зрабіліся палякамі, а таму—пісаў пэпэсаўскі „Напшуд“—„Народ і дзяржава ня могуць мець да іх даверлівасьці, давяраць ім сваіх органічных функцый“. [1])

Пасьля жахлівых пагромаў яўрэйскага насельніцтва ў Львове, Пінску, Кельцах, Уладзіміры-Валынскім і інш. гарадох,—правадыр ППС Дашынскі сказаў у сойме 20 чэрвеня 1919 г. прамову, у якой яскрава абараняў пагромнікаў.

> „Было-б няправільным думаць, што ў нас адбываюцца пагромы, а ня эксцэсы. Я не кажу аб пагромах: на шчасьце Польшча не аганьбіла яшчэ сябе пагромам у сапраўдным значэньні гэтага слова (галасы „брава“). Наадварот, з поўным усьведамленьнем таго, што я кажу з гэтага высокага месца пры сьвятле міжнароднай грамадзкай думкі, якая заўсёды можа праверыць праўдзівасьць маіх слоў, я заяўляю, што нельга называць пагромамі тых сумных падзей, якія адбыліся ў абстаноўцы бою.
>
> Забітага ў вулічнай бойцы нельга называць ахвярай пагрому (галасы: „зусім правільна“, шум сярод дэпутатаў-яўрэяў, званок старшыні). Калі хто-небудзь у вулічнай бойцы, пры ўзяцьці гораду, у гэтых выключных умовах, у якіх апынуліся Львоў, Ліда, Вільна, — ва ўмовах страшэнных боек, выпадкова апынуўся паміж дзьвюма ўзброенымі і крывавымі сіламі, то гэта ніяк нельга назваць пагромам“.

На думку Дашынскага 960 забітых яўрэяў у Львове ў лістападаўскія дні — гэта не ахвяры пагрому, а нявінныя эксцэсы, або выпадковыя ахвяры, якія апынуліся паміж дзьвюма ўзброенымі сіламі.

Другі правадыр ППС, Тадэуш Пагер крыху іначай апраўдвае пагромнікаў. І ён лічыць, што забойства бяззбройнага яўрэйскага насельніцтва — не пагромы. На думку гэтага „соцыяліста“ гэта была толькі расправа згаладаных салдат з ліхвярамі і спэкулянтамі.

> „Галодныя, зьнясіленыя доўгай вайной салдаты вярталіся з фронту. Яны былі дужа абураны супроць ліхвяроў. Таму дзеня-дзе адзначаны рабункі, асабліва ў Галіцыі, якая, будучы населена значнай колькасьцю яўрэяў, дастаўляла з іх асяродку галоўны

[1]) „Напшуд“, 25 кастрычніка 1918 г.

кадр эксплёататараў для ўсяе імпэрыі. Між тым, сіоністы малююць у вочах усяго сьвету гэтыя рабункі, як наўмысныя яўрэйскія пагромы, а не як стыхійны вынік доўгай вайны, ліхвярства і нэндзы. Яны заўсёды крычаць „гвалт“, абражаюць польскі народ, лічачы яго за банду забойцаў. Гэткую ўдзячнасьць атрымала Польшча ад яўрэяў за тое, што ў час панаваньня караля Казіміра, калі па ўсёй Эўропе іх палілі на кастрох, яна прытуліла іх і выратавала ад поўнага зьнішчэньня.“ [1])

Гэтыя выступленьні слупоўп ольскага „соцыялізму“ зусім ня былі мімаходным эпізодам, нацыяналістычным шаленствам. Лепш ад усяго пра гэта сьведчыць той факт, што дзесяць год спусьціўшы аргумэны Дашынскага і Рэгера паўтараюцца ў брошуры пэпээсаўскага дэпутата — А. Гаўспэра. А сваёй брошуры пра польска-украінскую вайну ён стараецца апраўдаць яўрэйскі пагром у Львове, наладжаны польскім войскам у лістападзе 1918 г. Характэрна, што менавіта гэты момант брошуры Гаўспэра асабліва рэклямаваўся пэпээсаўскім друкам. „Работнік“ вітаў з „асаблівым задавальненьнем працу т. Артура Гаўспэра пад назваю „лістапад 1918 г.“, бо ён разьвейваў сумнае для палякаў абвінавачваньне ў так званым львоўскім яўрэйскім пагроме.“ [2])

Львоўскі „Дзеньнік людовы“ спэцыяльна падкрэсьліў, што: „аўтар прыводзіць бясспрэчныя доказы, што віноўнікамі іх (гэта значыць пагромаў) ня былі польскія салдаты, што ніякія другія сьцьверджаньні яўрэйскіх нацыяналістаў ня змогуць устаяць перад гэтымі аргумэнтамі“. [3])

Ня польскія салдаты, а бандыты і падонкі грамадзтва былі віноўнікамі львоўскага пагрому — вось тэзіс Гаўспэра і пэпээсаўскай газэты „Дзеньнік людовы“.

„Менавіта гэтыя злачынныя элемэнты — чытаем у „Дзеньніку людовым“ — разам з злачынцамі, выпушчанымі ўкраінцамі з вастрогаў, наладзілі пагром у яўрэйскім раёне ў той дзень, калі мізэрныя сілы палякаў узялі горад. А таму таварыш Гаўспэр лічыць крыўднымі і несправядлівымі думкі яўрэйскага грамадзтва, што палякі, што польскае войска наладжвала пагромы і абвінавачвае некаторых яўрэйскіх палітыкаў у тым, што яны, ведаючы становішча ў Львове, распаўсюджвалі па ўсім сьвеце, што яўрэйскія пагромы былі справаю палякаў. [4])

Каб закляйміць двудушша і бязьмежны цынізм соцыял-фашысцкіх шалахвостаў, досыць сказаць, што непасрэдна пасьля львоўскага пагрому пісаў цяперашні пэпээсаўскі сэнатар Андрэй Струг.

„Толькі сёньня я даведаўся з пэўнай крыніцы, што ў Львове да гэтага часу пахавана 960 ахвяр пагрому. Астатнія знаходзяцца пад руінамі спаленых дамоў.

Я даведаўся пра шмат падрабязнасьцяй разьні, пра якую мне гаварылі шопатам з абурэньнем, з сорамам і жахам.

І пра гэта я, жыхар сталіцы краіны, які жыве сярод людзей, што чытаюць польскія газэты, даведаўся толькі сёньня.

---

[1]) Артыкул, зьмешч. у газэце „Работнік Сьлёнскі“ ад 23 лістапада 1918 г.
[2]) „Работнік“, 1-га сьнежня 1928 г.
[3]) „Дзеньнік людовы“, 19 лістапада 1928 г.
[4]) „Дзеньнік людовы“, 21 лістапада 1928 г.

Наводзіць жах лік забітых людзей і спаленых разам з людзьмі дамоў.

Але абурае больш ад усяго тое, што польская грамадзкая думка нічога пра гэта ня ведае.

Як-быццам па папярэдняй змове маўчаць тыя, хто мог-бы шмат пра гэта сказаць. Прыежджыя з Львову людзі неахвотна ўспамінаюць аб пагроме. Галіцыйская прэса хавае праўду, Варшаўскі друк маўчыць. І польская грамадзкая думка да гэтага часу ня ведае жахлівай праўды... 960 трупаў — вось аргумэнт, які аглушае мазгі, як удар кія.

Гэта зьнішчальны факт і ня здолеюць нахіснуць яго тысячы апраўдальных акалічнасьцяй. Бандыты? Палачнікі? Нешта занадта шмат гэтых палачнікаў. Крымінальныя, спушчаныя з ланцугу украінцамі? Занадта доўга дазволілі ім буйстваваць"...

Значыцца, ня палачнікі, не крымінальныя, не якіясьці няўлоўныя падонкі грамадзтва, не „злачынцы", выпушчаныя украінцамі з вастрогу — а польскія салдаты, якія кіраваліся сваімі начальнікамі — вось організатары яўрэйскага пагрому.

„Яшчэ да пачатку пагрому — пісаў „Работнік" ад 14 сьнежня 1918 г. — хадзілі чуткі пра тое, што яны ўзгарацца. Ужо напярэдадні эвакуацыі Львову войска, што прышло з Перамышлю, граміла корчмы ў польскай частцы гораду, у якім ужо прадчуваліся надыходзячыя падзеі. Галоўнае камандваньне польскага войска ў Львове, якое мела поўную магчымасьць кіраваць падзеямі і таму несла адказнасьць за іх, ведала добра пра гэты настрой і абавязкам яго было папярэдзіць падзеі своечасовым адданьнем адпаведных загадаў. Між тым, гэтага ня было зроблена. Галоўнае камандваньне зусім спакойна чакала здарэньняў, якія хутка і падыйшлі. Але і пасьля таго, як пагром распачаўся, ня было зроблена ніякіх спроб, каб яго спыніць. Толькі некалькі дзесяткаў гадзін спусьціўшы быў выдадзены адпаведны загад.

Такія паводзіны ўлады зьяўляюцца, па існасьці, маўклівым дазволам пагромаў".

Так змушаны быў пісаць „Работнік" непасрэдна пасьля пагрому, калі фактаў жахлівых гвалтаў не ўдалося захаваць, калі яны зрабіліся вядомымі ўсяму сьвету. Цяпер правадыры ППС разьлічваюць на слабую памяць пра тое, што памершыя ня маюць голасу, што магілы іх даўно зарасьлі травой. Фабрыкуюць яны легенду пра палачнікаў, хочуць змыць з пагромнікаў кроў нявінна замучаных ахвяр.

Патураньне пагромам і пагромнікам зрабілася традыцыяй ППС. І вось, калі ў чэрвені 1929 г. банды корпорацыйнай моладзі організавалі ў Львове напад на яўрэйскія культурныя організацыі, ППС заразжа выступіла на абарону пагромнікаў, адначасна з усім нацыяналістычным друкам распаўсюджваючы провакацыйныя байкі пра „провокаваньні яурэйскай моладзьдзю ўдзельнікаў каталіцкай працэсіі" („Напшуд").

ППС, якая ў 1918—19 г. прымала непасрэдны ўдзел у вайне з украінцамі, організавала верхне-сылезскае паўстаньне і распальвала антысэміцкае цкаваньне, якая была падулеглаю да яўрэйскіх пагромаў — цяпер гаворыць пра „адзіны фронт" з соцыялістамі нацыянальных меншасьцяй, групе пад сваім кіраўніцтвам соцыял-фашыстаў украінскіх, яўрэйскіх, нямецкіх, беларускіх. Ці супярэчыць адно адна-

му, ці маем мы справу з дзьвюма позыцыямі, якія ўзаемна сябе выключаюць? Зусім не.

Гэта толькі прыстасаваньне соцыял-фашызму да зьмененай коньюнктуры. Позыцыя ППС у 1918—19 г. была адлюстраваньнем позыцыі польскай буржуазіі, якая вяла вайну з украінцамі на ўсходняй Галіцыі, організоўвала паходы на Кіеў і Менск, інсцэніравала па кіраўніцтвам Корфантага паўстаньне ў Сылезіі, наладжвала яўрэйскія пагромы. Цяпер польская буржуазія стараецца згрупаваць пад сваім кіраўніцтвам буржуазію іншых нацыянальнасьцяй на глебе змаганьня з рэволюцыйным рухам у Польшчы і соцыялістычным будаўніцтвам у Савецкім Саюзе, узмацняючы тэрор у адносінах да нацыянальна-вызваленчага руху, адначасна карыстаючыся машэньніцкай фразэолёгіяй аб правох для нацменшасьцяй. Згодна гэтага ППС і выконвае сваю ролю ў галіне групаваньня „соцыялістаў“ нацменшасьцяй пад сьцягам польскай дэмократыі.

У артыкуле „Соцыял-шовіністы і інтэрнацыяналісты“, зьмешчаным у „Правде“ 12 мая 1917 г., Ленін пісаў:

> „Соцыял-шовіністы, здрадзіўшы соцыялізму і перайшоўшы на бок „сваіх капіталістаў“, натуральна раскалоліся адпаведна групоўцы капіталістаў у вайне. Таксама натуральна, што гэта — раскол часовы. Пляханаў ня хоча раіцца з Шэйдэманам, але той-жа Пляханаў адстайвае здрадзіўшы соцыялізму „Інтэрнацыянал“ соцыял-шовіністаў. Іншымі словамі: Пляханаў за раскол з Шэйдэманам *на той час*, пакуль тыя капіталісты, агентамі якіх і Пляханаў і Шэйдэман зьяўляюцца, паміж сабою расколаты.
>
> Пляханаў за адзінства з Шэйдэманамі, калі „паны“ (гэта значыць, капіталісты абодвух бакоў) паміраццa. Нельга адмаўляць, што позыцыя Пляханава ёсьць пасьлядоўнасьць — пасьлядоўнасьць *здрады* соцыялізму, пасьлядоўнасьць паслуг капіталістам не за страх, а за сумленьне“. [1])

Польскія соцыял-шовіністы, здраднікі соцыялізму, што стаяць цалкам на баку „сваіх“ капіталістаў, у час імпэрыялістычнай вайны праводзілі таксама, як і Шэйдэманы і Пляханавы — політыку крайняга нацыяналістычнага цкаваньня, выступаючы адкрыта з програмай анэксіі украінскіх і беларускіх земляў. Цяпер правадыры ППС стараюцца ўмацаваць пад сваім кіраўніцтвам блёк соцыял-фашыстаў розных нацыянальнасьцяй польскай дзяржавы, выстаўляюць проект тэрыторыяльнай аўтономіі для украінскіх земляў, выпрацоўваюць проекты організацыі украінскай і беларускай школьнай справы, ствараюць разам з правадырамі яўрэйскага „Бунду“ і нямецкай Соцыялістычнай Партыі Працы — камісіі па справах нацыянальнасьцяй і г. д.

Гэтыя „радыкальныя“ гэсты ўсё-ж не зьмянілі сутнасьці політыкі ППС, як найбольш высунутага ў масы форпосту польскага імпэрыялізму, як передавога атраду польскай буржуазіі ў змаганьні супроць нацыянальна-вызваленчага руху украінскіх і беларускіх мас, а таксама супроць Савецкай Украіны і Беларусі, ваба да якіх сярод шырокіх мас насельніцтва окупаваных польскім імпэрыялізмам земляў усё ўзмацняецца на меры таго, як расьце соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР і паглыбляецца крызіс у фашысцкай Польшчы.

Комуністычная партыя Польшчы выкрывае машэньніцтва соцыял-фашыстаў, паказваючы працоўным масам, што соцыял-фашызм зьяў-

[1]) Артыкул апублікаваны ўпяршыню ў „Правде“ ад 20 мая 1931 году.

ляецца адным з слупоў рэжыму тэрору і окупацыі, што змаганьне з здрадніцкімі правадырамі ППС зьяўляецца непадзельнай складанай часткаю змаганьня супроць окупацыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, за іх права на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад польскай імпэрыялістычнай дзяржавы.

Выхоўваючы, такім чынам, польскіх рабочых і працоўных сялян у духу сапраўднага інтэрнацыяналізму, комуністычная партыя Польшчы злучае адзіны фронт усіх прыгнечаных у змаганьні за зьнішчэньне фашызму і пабудаваньне на руінах яго новага соцыялістычнага ладу.

---

А. Чарнушэвіч

# Задачы марксыцка-ленінскага выхаваньня— на належную вышыню [1])

Галоўнай мэтай, якая пастаўлена ў гэтым артыкуле, усебаковае абмеркаваньне тых адказных задач, якія стаяць перад намі ў галіне марксыцка-ленінскага выхаваньня ў новай абстаноўцы соцыялістычнага будаўніцтва, колькасных і якасных зьмен ў рабочай клясе і яе авангардзе—комуністычнай партыі.

Разам з гэтым мы павінны намеціць конкрэтныя мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі рашучы пералом і значнае палепшаньне гэтай адказьнейшай галіны нашай партыйнай работы; большую ўвязку марксыцка-ленінскай тэорыі з практыкай соцбудаўніцтва; прыстасаваньне марксыцка-ленінскага выхаваньня да чарговых рашаючых задач нашай партыі ва ўсіх галінах соцбудаўніцтва.

Асаблівасьці сучаснага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюць ад партыі, ад усіх яе організацый узьняцьця марксыцка-ленінскага выхаваньня мас на значна вышэйшую ступень. Яны патрабуюць значна большай увагі і гэтаму пытаньню з боку кожнай партыйнай організацыі, з боку кожнага камітэту партыі, з боку партыйных колектываў і ячэек. За марксыцка-ленінскае выхаваньне павінны адказваць партыйныя організацыі ў такой-жа ступені, як і за выкананьне рашаючых гаспадарчых задач соцыялічтычнага будаўніцтва.

Гіганцкія посьпехі ва ўсіх галінах соцбудаўніцтва, вялізарнейшыя тэмпы росту нашай прамысловасьці, соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі, значныя дасягненьні ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва — зьяўляюцца вынікам правільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі нашай партыі, вынікам рашаючай барацьбы супроць правых і „левых“ опортуністаў, якія намагаліся перашкаджаць соцбудаўніцтву, якія імкнуліся зьнізіць бальшавіцкія тэмпы нашага соцбудаўніцтва. Гэтыя посьпехі соцбудаўніцтва стваралі новыя абставіны, новыя ўмовы, у якіх нашай партыі прыходзіцца вырашаць задачу марксыцка-ленінскага выхаваньня.

Аднэй з галоўнейшых задач марксыцка-ленінскага выхаваньня на даным этапе зьяўляецца ўздым яшчэ на больш высокую ступень клясавай пільнасьці членаў партыі, узброеньне іх правільнасьцю зразуменьня сутнасьці генэральнай лініі нашай партыі, выкоўваньне стойкіх барацьбітоў за практычнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі. Марксыцка-ленінскае выхаваньне павінна зьяўляцца вастрэйшай зброяй




[1]) Апрацаваная стэнограма дакладу, зробленага на Культпропнарадзе ЦК КП(б)Б.

нашай партыі ў барацьбе за далейшае пасьпяховае разгортваньне соцбудаўніцтва, у барацьбе супроць правага опортунізму, галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левых“ загібаў, супроць прымірэнцтва да іх.

Задача узьняцьця тэорэтычнага ўзроўню парторганізацыі набывае сур'ёзнае значэньне і таму, што ў нашай краіне ва ўсіх галінах соцбудаўніцтва адбываецца вострая клясавая барацьба, якая зьяўляецца вынікам супраціўленьня клясава-варожых элемэнтаў нашаму разгорнутаму социялістычнаму наступу. „Раз яшчэ ёсьць клясы, раз у краіне яшчэ ідзе клясавая барацьба, значыцца, ёсьць і напор на пролетарыят і яго авангард клясава-варожай ідэолёгіі, значыць, нямінучы ва ўмовах цяжкасьцяй соцыялістычнага будаўніцтва вядомыя хістаньні і ваганьні сярод найменш устойлівых груп сяброў партыі“ (Постышаў).

Марксыцка-ленінскае выхаваньне павінна зьяўляцца вастрэйшай зброяй у руках партыі ў барацьбе за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, у барацьбе супроць усякіх скрыўленьняў у галіне нацполітыкі, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў іншых нацыянальнасьцяй.

Зараз рашаючымі задачамі нашай партыі, рабочае клясы зьяўляецца барацьба з тэхніка-экономічнай адсталасьцю нашай краіны, барацьба за ажыцьцяўленьня лёзунгу „дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-экономічных адносінах“.

Зразумела, што вырашэньне гэтай галоўнейшай і складанейшай задачы магчыма толькі тады, калі нашы партыйныя організацыі на мясцох змогуць больш правільна, больш рацыянальна, больш конкрэтна кіраваць і організоўваць масу і ўздымаць яе на барацьбу з нашай тэхніка-экономічнай адсталасьцю, калі мы зможам яшчэ больш пасьпяхова на кожным прадпрыемстве, саўгасе і колтасе быць начале масы і выклікаць далейшы творчы энтузыязм.

Дзеля таго, каб правільна організоўваць масы, правільна кіраваць масамі, неабходна значна вышэй узьняць тэорэтычны ўзровень нашых партыйных радоў. Сакратар ЦК УсеКП(б) т. Постышаў, выступаючы на ўзесаюзнай Культпропнарадзе, сказаў наступнае:

„Нам неабходна ўзброіць кожнага комуніста разуменьнем асаблівасьцяй і задач сучаснага этапу барацьбы за соцыялізм для таго, каб быць начале мас, для пасьпяховага кіраўніцтва імі ў барацьбе за бліжэйшую ліквідацыю нашай тэхніка-экономічнай адсталасьці. Такі стрыжань марксыцка-ленінскага выхаваньня на сучасным этапе. Ім неабходна прасякнуць увесь зьмест марксыцка-ленінскага выхаваньня, выхоўваючы ў сяброў бальшавіцкай партыі высокі тэорэтычны ўзровень, ідэёвую стойкасьць, уменьне кіраваць масамі ў новых умовах“.

У апошні час адбыліся і адбываюцца вялікія зьмены ў складзе нашай рабочай клясы, якія зьяўляюцца вынікам вялізарнейшага росту нашай прамысловасьці, вынікам прытоку ў нашу прамысловасьць значнай колькасьці новых рабочых, што вышлі з сялянства, з дробна-буржуазнага асяродзьдзя гораду і мястэчка, часткова з дэклясаванай праслойкі, якія яшчэ не прайшлі школы рэволюцыйнай барацьбы і не зьяўляліся ўдзельнікамі грамадзянскай вайны, не прайшлі школы барацьбы на капіталістычных прадпрыемствах. Зразумела, што справа выхаваньня з гэтых маладых слаёў рабочае клясы стойкіх пролетарыяў, якія будуць пасьпяхова выконваць адказьнейшыя задачы нашай партыі, у значнай частцы выпадае на сетку партыйнай асьветы, на маса-

вую політычную работу, якую нашы партыйныя організацыі павінны больш шырока разгарнуць на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах.

На фоне пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва ўсё больш узрастае давер'е да нашай партыі з боку шырачэйшых мас пролетарыяў і асноўных мас працоўнага сялянства нашай краіны, конкрэтным вынікам якога зьяўляецца масавы прыток у партыю (па КП(б)Б толькі за палову 1931 г. прынята каля 7.000 з лішнім кандыдатаў партыі і каля 70.000 новых комсамольцаў).

Гэты прыток у партыю патрабуе асабліва ўпартай работы дзеля таго, каб з моладзі, якая часам зьяўляецца выхадцамі з новых кадраў рабочае клясы, што нядаўна прышлі на прадпрыемствы, выхаваць сапраўды бальшавіцкі стойкіх змагароў за соцыялізм.

Зразумела, што марксыцка-ленінскае выхаваньне нашай партыі ў прыватнасьці партыйная асьвета павінны адыграць вялізарнейшую ролю ў выхаваньні гэтага прыросту, гэтых маладых кандыдатаў партыі.

Вось, коратка кажучы, тыя асаблівасьці сучаснага пэрыоду, якія надзвычайна востра ставяць задачу падняцьця марксыцка-ленінскага выхаваньня на вышэйшую ступень. Яны патрабуюць ад кожнай партыйнай організацыі рашучага палепшаньня ўсёй работы на фронце марксыцка-ленінскага выхаваньня, значна большай энэргіі і настойлівасьці з боку нашых партыйных організацый на гэтым адказьнейшым вучастку партыйнай работы.

Як мы працавалі ў мінулым годзе на гэтым фронце? Чым характарызуецца становішча марксыцка-ленінскага выхаваньня за мінулы год?

Матэрыялы, якія ёсьць у ЦК КП(б)Б, гавораць за тое, што марксыцка-ленінскае выхаваньне значна адстае ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і не адпавядае тым вялізарным задачам, якія стаяць перад партыяй.

Зімою, у самы напружаны час, калі кіруючыя органы КП(б)Б асабліва напіралі на ўзьняцьце марксыцка-ленінскага выхаваньня на вышэйшую ступень, мы мелі ахоп партыйнай вучобай толькі 58 проц. усёй партыйнай організацыі. Прычым па гарадзкіх партыйных організацыях 38 проц. і па вясковых каля 70 проц. Гэта было прыблізна на 1-е сакавіка 1931 году, калі мы правялі рад нарад, калі ЦК прыняў рад пастаноў аб узьняцьці марксыцка-ленінскага выхаваньня. Між іншым трэба адзначыць, што гэты процант, які фігураваў у нашых матэрыялах, зьяўляецца далёка недасканалым, бо нам удалося сабраць больш сталыя матэрыялы толькі па 70 раёнах з былых 100 раёнаў БССР; астатнія 30 раёнаў чамусьці, ня гледзячы на рад прапаноў, не далі нам вестак аб становішчы партыйнай асьветы ў іх раёне. Наведваньне сеткі партыйнай асьветы заставалася вельмі нізкім і ў сярэднім складала ня больш 40—50 проц. таго складу, які лічыўся ў школах і гуртках сыстэмы партыйнай асьветы. Трэба адзначыць, што частка райпарторганізацый, якія больш сур'ёзна падышлі да марксыцка-ленінскага выхаваньня, якія па-бальшавіцку заняліся гэтым пытаньнем, дасягнулі значных посьпехаў у мінулым годзе.

Вазьміце такія раёны—Дрысенскі, дзе ахоп партасьветай зімой дасягнуў 90 проц., Койданаўскі—90 проц., Лепельскі—80 проц., Рагачоўскі—84 проц., Церахаўскі—90 проц., Чарэйскі—80 проц. і г. д. Як бачыце, не адзін раён, а значная колькасьць раённых парторганізацый, дзякуючы бальшавіцкаму падыходу да пытаньня марксыцка-ленінскага выхаваньня, дзякуючы сыстэматычнаму кіраўніцтву гэтым

адказным вучасткам партыйнае работы—дасягнулі значных посьпехаў за мінулы год.

У пераважнай-жа большасьці партыйных організацый, на вялікі жаль, і ў партыйных організацыях буйных пролетарскіх цэнтраў, у якіх партыйная асьвета і работа па падняцьцю тэорэтычнага ўзроўню парторганізацый была далёка не на належнай вышыні, вынікі ахопу сеткай партыйнай асьветы былі зусім нездавальняючымі.

Возьмем Віцебскую парторганізацыю, якая зьяўляецца ў КП(б)Б аднэй з моцных пролетарскіх партыйных організацый і якая ня дрэнна спраўляецца з некаторымі асноўнымі задачамі нашай партыі, там марксыцка-ленінскае выхаваньне на працягу ўсяго мінулага году было пастаўлена зусім нездавальняюча. Гэта ня толькі па Віцебску. Гомельская парторганізацыя—другая буйная пролетарская парторганізацыя ў КП(б)Б,—таксама па проценту ахопу зьяўляецца ня ў ліку першых, а ў ліку тых, што адстаюць.

Трэба адзначыць, што якасьць партасьветы ў гэтым годзе некалькі падвысілася, зьмест партыйнай вучобы некалькі палепшыўся. Але мы маем рад выпадкаў грубага скрыўленьня нашых асноўных прынцыповых установак у практыцы нашых школ і гурткоў партасьветы. Некаторыя кіраўнікі школ і гурткоў зусім няправільна растлумачваюць слухачом асноўныя прынцыпы нашай бальшавіцкай політыкі. Матэрыялы, якія ў нас маюцца, гавораць аб тым, што ў некаторых школах і гуртках меліся сур'ёзныя ідэолёгічныя вывіхі.

Можна прывесьці некалькі прыкладаў.

Кіраўнік партыйнай школы на запытаньне—хто можа быць членам УсеКП(б), адказвае так: „членам партыі можа быць усякі, хто толькі ўдзельнічае ў той ці іншай грамадзкай організацыі, як, напрыклад, МОПР, Прыхільнік Дзяцей і г. д."

У Асьвейскім раёне, у Сухараўскай ячэйцы, кіраўнік, абапіраючыся на аўторытэт т. Калініна, заявіў, „што пасьля ліквідацыі кулацтва, як клясы, у нас застанецца адна кляса", ня тлумачачы, якія клясавыя групоўкі ў нас зараз маюцца, якія будуць надалей і што мы вядзем барацьбу за бясклясавае грамадзтва.

Можна было-б прывесьці цэлы рад фактаў з іншых раёнаў, якія сьведчаць аб тым, што частка нашых кіраўнікоў саўпартшкол, гурткоў вельмі слаба тэорэтычна падрыхтаваныя таварышы, якія яшчэ слаба разьбіраюцца ў асновах марксызму і ленінізму і таму няправільна тлумачаць і, зразумела, дэзорыентуюць слухачоў СПШ і гурткоў.

Аднэй з галоўных баявых задач у справе кіраўніцтва марксыцка-ленінскім выхаваньнем зьяўляецца падвышэньне ідэолёгічнага зьместу вучобы.

Нам трэба забясьпечыць належны марксыцка-вытрыманы зьмест і якасьць ўсёй партасьветы, рашуча змагаючыся з ідэолёгічнымі вывіхамі.

Асноўнай задачай партасьветы, асабліва на сучасным этапе нашага социялістычнага будаўніцтва, застаецца непрымірымая барацьба за генэральную лінію партыі, супроць розных опортуністычных адхіленьняў ад яе як у тэорыі, так і ў практыцы нашай штодзеннай работы. Марксыцка-ленінскае выхаваньне і зьяўляецца тым сапраўдным сродкам, тэй магутнай зброяй узьняцьця на яшчэ больш высокую ступень клясавай пільнасьці членаў партыі, узброеньня і ідэолёгічнага загартаваньня іх. Цэлы рад фактаў зусім бясспрэчна да-

казвае, што роля партыйнае асьветы ў барацьбе за ленінскую лінію нашай партыі значна падвышаецца.

Але разам з гэтым з усёй рашучасьцю трэба падкрэсьліць, што яшчэ і зараз у радзе месц мы маем факты адставаньня, якія мяжуюцца часам з яўным прымірэнцтвам да тых конкрэтных праяўленьняў опортунізму пры вырашэньні асноўных гаспадарчых задач данага пэрыоду.

Вазьміце такія пытаньні як нарыхтоўкі, мобілізацыя сродкаў, альбо рад іншых конкрэтных мерапрыемстваў, пры правядзеньні якіх вельмі часта можна наглядаць, што ў некаторых парторганізацыях няма належнага нажыму на кулацка-заможныя элемэнты. Вы знойдзеце факты невыкананьня кулацка-заможнымі элемэнтамі абавязкаў перад дзяржавай, невыкананьне цьвёрдых заданьняў і г. д. Зразумела, што гэта і ёсьць праявы правага опортунізму на практыцы. Тое самае можна сказаць і адносна „левых“ загібаў, якіх на працягу апошняга году мы мелі значную колькасьць у практычнай рабоце некаторых нашых раённых парторганізацый.

На жаль, ні школа, ні гурток, якія тут пад бокам, у гэтай-жа самай парторганізацыі, не зьявілася ініцыятарамі барацьбы з гэтай правай, альбо „левай“ практыкай. Зразумела, што сетка партыйнай асьветы ні ў якім разе не павінна была прайсьці міма гэтых зьявішч. Сыстэма марксыцка-ленінскага выхаваньня, пад бокам якой працьвітае правая практыка, павінна своечасова, па-першае, выявіць гэтую практыку і, па-другое, рэагаваць на яе праз парторганізацыю, праз парткамітэт, праз партыйную ячэйку.

Неабходна ўвязаць работу па марксыцка-ленінскім выхаваньні з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва так, каб гэтае марксыцка-ленінскае выхаваньне магло зьявіцца сапраўднай зброяй, сапраўдным магутным сродкам у барацьбе за генэральную лінію партыі ва ўсёй практычнай нашай рабоце.

КП(б)Б мае вялізарныя посьпехі ў справе ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі ва ўсіх яе галінах. Вы ведаеце, што ў пытаньнях стварэньня нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу культуры мы значна прасунуліся наперад. Але мы маем і рад памылак з боку паасобных парторганізацый, а ў некаторых галінах мелі рад прарываў у справе практычнага ажыцьцяўленьня нацполітыкі і партвучобы. Наша бальшавіцкае выхаваньне павінна больш актыўна змагацца за правільнае ажыцьцяўленьне нацыянальнай політыкі. У нас, ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі, мае асабліва сур'ёзнае значэньне ўся работа па правядзеньню ленінскай нацыянальнай політыкі, разгортваньня работы сярод нацменшасьцяй, інтэрнацыянальнага выхаваньня і г. д.

Калі ўзяць, напрыклад, такую справу, як беларусізацыя: ня гледзячы на вялікую колькасьць дырэктыў з боку ЦК, з боку раённых камітэтаў, гарадзкіх камітэтаў, ня гледзячы на пастановы пленумаў ЦК, у нас на сёнешні дзень справа з беларусізацыяй у некаторых парторганізацыях застаецца далёка нездавальняючай. Нават ня ўсе члены партыі, нават ня ўвесь партактыў карыстаюцца белмовай. А калі ўзяць нашы бібліотэкі, там беларуская кніжка займае вельмі нязначнае месца. Возьмем культмасавую работу на прадпрыемстве, альбо работу нашых клюбаў, дзе белмова ўжываецца далёка недастаткова.

Тое самае мы ўгледзім у практыцы абслугоўваньня нацменшасьцяй на іх роднай мове. Недастаткова праводзіцца работа ў адносінах

інтэрнацыянальнага выхаваньня сярод рабочай клясы, сярод шырокіх колаў колгасьнікаў і г. д. Нават такія факты як вялікадзяржаўны расійскі шовінізм у некаторых мясцох ня выклікалі часам належнага бальшавіцкага рэагаваньня, сваячасовага асуджэньня і г. д. У нас і зараз яшчэ ёсьць факты, калі паасобныя гаспадарнікі (а мы гэтыя факты, у прыватнасьці, мелі на чыгунцы) тлумачаць невыкананьне прамфінпляну тым, што ўводзіцца белмова, што белмова зьяўляецца прычынай невыкананьня прамфінпляну і г. д. Ёсьць паасобныя факты праяў вялікадзяржаўнага шовінізму на нашым культфронце.

Ці не зразумела, што ўсякае ігнараваньне беларусізацыі, усякія спасылкі на тое, што яна перашкаджае гаспадарчай рабоце, зьяўляецца нічым іншым як вылазкай клясавага ворага ў вобразе гэтага вялікадзяржаўнага шовінізму. Тое самае можна сказаць і адносна контррэволюцыйнага беларускага нацдэмократызму. Праўда, КП(б)Б правяла і праводзіць вялізарную работу, жорсткую барацьбу з контррэволюцыйным нацдэмократызмам. Носьбіты нацдэмократызму некалькі прытаіліся, яны ў сучасны момант адчынена выступаць не асьмельваюцца, але гэта ня значыць, што мы ўжо пакончылі барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, ня значыць, што ліквідаваны прадпасылкі магчымасьці яго актывізацыі. І разважаць, што з контррэволюцыйным нацдэмократызмам мы ўжо пакончылі гэта будзе вельмі шкоднай палітычнай памылкай. Нам неабходна, каб марксыцка-ленінскае выхаваньне, каб уся сыстэма партыйнай асьветы дапамагала партыйным організацыям у ажыцьцяўленьні нацыянальнай політыкі, дапамагала рашуча змагацца з вялікадзяржаўным шовінізмам, з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, антысэмітызмам і шовінізмамі іншых колераў.

Некалькі слоў аб увязцы нашай партыйнай асьветы з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. Мабыць не патрэбна распаўсюджвацца аб тым, якое вялізарнае значэньне мае менавіта гэтая ўвязка. Кожнаму з нас вядома, што тэорыя, калі яна ня будзе ўвязана з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, калі яна будзе адарвана ад гэтага соцыялістычнага будаўніцтва, ператвараецца ў схолястыку. На жаль, і ў сучасны момант далёка ня ўсе адзінкі нашай партасьветы талкова ўвязваюць тэорэтычнае выхаваньне з нашай практычнай працай. Праўда, мы маем ужо рад прыкладаў, калі дзякуючы ўвязцы партыйнай вучобы з практычнай работай, паасобныя параорганізацыі маюць значныя посьпехі ў тым сэнсе, што ўвязка партвучобы з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва значна дапамагае парторганізацыі ў вырашэньні конкрэтных практычных гаспадарча-політычных задач.

Возьмем такія прыклады, як колектывізацыя сельскай гаспадаркі, шмат школ і гурткоў нашай пыртасьветы па Койданаўскаму, Вушацкаму і інш. раёнах, праводзячы тэорэтычную вучобу, цесна ўвязвалі яе з практыкай колгаснага будаўніцтва. Школы і гурткі прымалі непасрэдны організаваны ўдзел у стварэньні колгасаў. Дзякуючы гэтаму, партыйныя ячэйкі маюць досыць значныя посьпехі ў справе колектывізацыі. Тут трэба прадугледзець, каб гэтая ўвязка з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва не ператварала нашы школы і гурткі ў звычайныя сходы парт'ячэйкі, дзе абгаварваюцца ўсякія бягучыя кампаніі, бягучыя справы, а трэба, каб гэтая ўвязка была жывым матэрыялам ілюстрацыяй для тэорэтычнай вучобы.

Дзе былі галоўныя перашкоды марксыцка-ленінскаму выхаваньню да гэтага часу? Асноўнай перашкодай у працы па марксыцка-ленінскаму выхаваньню мас зьяўляецца тое, што некаторыя партыйныя

організацыі не ўдзялялі належнай увагі гэтаму адказьнейшаму фронту нашай працы. Можна было ілюстраваць рад фактаў нясур'ёзных адносін паасобных ячэек, нават асобных раённых камітэтаў партыі ў пытаньнях марксыцка-ленінскага выхаваньня. Ёсьць рад фактаў, якія сьведчаць аб тым, што асобныя кіруючыя працаўнікі ў раёнах проста опортуністычна недаацэньваюць марксыцка-ленінскага выхаваньня. Некаторыя ячэйкі маюць офіцыйныя пастановы аб тым, што раней правядзем загатоўкі, раней закончым асеньнюю пасеўную кампанію, а потым возьмемся за партыйную вучобу.

Не сакрэт і тое, што яшчэ маюць месца сярод часткі раённага актыву размовы такога зьместу — „што за колектывізацыю нас могуць зьняць з работы, за невыкананьне загатовак нас могуць аддаць пад суд, а за ленінскае выхаваньне нам могуць абвясьціць вымову ў горшым выпадку, а ў лепшым выпадку і так сыдзе“.

Я павінен паказаць некалькі прыкладаў такога агіднага опортуністычнага падыходу з боку некаторых работнікаў да партыйнай вучобы. Возьмем Тураўскі раён — там адзін з кіруючых работнікаў пры абгаварэньні пытаньня аб партыйнай вучобе кажа наступнае: „зараз уборачная кампанія і партыйнай вучобай займацца няма часу, калі Поляк хоча сарваць гэту кампанію (Поляк — гэта прозьвішча культпропу Райкому), дык давайце пасадзім ўсіх комуністаў, няхай вывучаюць тэорыю“.

Больш яскравага прыкладу такога неразуменьня, такога падыходу да гэтай сур'ёзнай галіны нашай працы вельмі цяжка знайсьці. Быццам мы процістаўляем марксыцка-ленінскае выхаваньне нашай практычнай працы, выкананьню задач у галіне ўборачнай кампаніі, як-быццам партыйная вучоба павінна перашкаджаць, а не дапамагаць гэтай самай уборачнай кампаніі.

У Чачэрскім раёне адзін з кіраўнікоў парторганізацыі гаворыць: „партыйная вучоба — гэта справа АПА, а людзей зараз няма (гэта значыць, для організацыі сеткі партасьветы), бо ёсьць іншыя кампаніі, як мобілізацыя сродкаў, уборачная кампанія і г. д.“

Адзін з Цераховускіх кіруючых работнікаў заяўляе, што „ў гэтым годзе партыйная вучоба будзе сарвана, калі будуць такія гаспадарчыя кампаніі, як ў мінулым годзе“.

Я лічу, што такія кіраўнікі, якія не разумеюць, што перад намі ў гэтым годзе паўстаюць яшчэ больш напружаныя, складаныя задачы ў галіне нашага гаспадарчага будаўніцтва, і калі яны думаюць, што пры наяўнасьці гэтых задач немагчыма займацца партыйнай вучобай, такія работнікі зараз ня могуць кіраваць парторганізацыямі.

Ёсьць і яшчэ некалькі выпадкаў па другіх раёнах. Але трэба сказаць, што гэтыя выпадкі зьяўляюцца адзінічнымі, што нашы партыйныя організацыі, як правіла, у асноўным разумеюць сур'ёзнасьць гэтага пытаньня. Можна ілюстраваць рад фактаў, калі раённыя партыйныя організацыі зусім сур'ёзна па-бальшавіцку падышлі ў гэтым годзе да разгортваньня партасьветы на асеньня-зімовы пэрыод, калі ў асобных організацыях зараз разгорнута вялізарная масава-палітычная кампанія для больш пасьпяховага комплектаваньня нашай сеткі.

Трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што адной з галоўнейшых задач у гэтым напрамку на сёньнешні дзень зьяўляецца ўзьняцьце марксыцка-ленінскага выхаваньня на большую палітычную вышыню, рашучая барацьба з фактамі недаацэнкі партыйнае асьветы, опэрацыйнае і сыстэматычнае кіраўніцтва партыйнай асьветай як з боку ЦК, так і з боку раённых і гарадзкіх камітэтаў, з боку партколектываў

і ячэек. Нам неабходна актывізаваць нашы партыйныя камітэты, парт-колектывы ў справе марксыцка-ленінскага выхаваньня, трэба, каб кожны кіраўнік партыйнай організацыі, кожны член бюро раённага і гарадзкога камітэту партыі зразумелі не на словах, а на справе, што партыйная організацыя цалкам адказвае за марксыцка-ленінскае выхаваньне таксама, як за рашаючыя гаспадарчыя задачы.

Роля друку ў марксыцка-ленінскім выхаваньні, як і ў іншых галінах нашай работы, зьяўляецца вельмі адказнай. Партыйны і савецкі друк — гэта колектыўны агітатар, пропагандыст, організатар мас — ён павінен адыграць вялізарную ролю ў справе ўзьняцьця марксыцка-ленінскага выхаваньня на большую політычную вышыню, мобілізацыі парторганізацыі на барацьбу з прарывамі ў галіне марксыцка-ленінскага выхаваньня.

Трэба сказаць у парадку самакрытыкі, што да гэтага часу цэнтральныя газэты недастаткова зьвярталі ўвагі марксыцка-ленінскаму выхаваньню. Ня гледзячы на тое, што на працягу апошняга месяца некалькі разоў склікалі працаўнікоў газэт па пытаньню барацьбы за партыйную асьвету, усё-ж сыстэматычнага, паглыбленага ўдзелу друку ў гэтым пытаньні мы яшчэ не адчуваем. Эпізодычныя выпадкі, — якія мы зараз назіраем у нашым друку ў асьвятленьні пытаньняў партасьветы, — нас задаволіць ні ў якім разе ня могуць, і мы настайваем, каб нашы газэты як цэнтральныя, а таксама і раённыя сыстэматычна, штодзенна займаліся пытаньнямі асьвятленьня ходу партасьветы не „наогул“, а конкрэтна, з пункту погляду спэцыфічна-вытворчых задач і ўмоў кожнага раёну, прадпрыемства, саўгасу і колгасу.

Наступнае пытаньне — гэта аб кадрах для партасьветы. Вострасьць гэтага пытаньня, па-мойму, досыць яскрава для кожнага з нас. Кожны непасрэдны кіраўнік партыйнай асьветы адчувае добра вастрату гэтага пытаньня. У нас на сёнешні дзень не хапае значнай колькасьці нават штатных пропагандыстаў. Нам неабходна цэлая армія падрыхтаваных пропагандыстаў няштатных, якія павінны кіраваць школамі і гурткамі, якія павінны выкладаць у гэтых школах і гуртках. Тыя мерапрыемствы, якія ЦК КП(б)Б, ГК і РК КП(б)Б праводзілі на працягу мінулага году ў справе падрыхтоўкі кадраў, нас не задавальняюць. Зараз перад намі неадкладная адказьнейшая задача — забясьпечыць усю сыстэму партыйнай асьветы падрыхтаванымі бальшавіцкімі кадрамі, і гэта трэба зрабіць у самы кароткі тэрмін. Трэба тут асабліва падкрэсьліць той факт, што частка раённых парторганізацый няшчадна разбазарваюць пропагандысцкія кадры.

Тая жменька кадраў штатных пропагандыстаў, якая маецца зараз, літаральна разбазарваецца некаторымі Райкомамі.

Бюро ЦК КП(б)Б у сваіх пастановах, якія апублікаваны ў газэтах, катэгорычна забараняе Райкомам скарыстоўваць пропагандысцкія кадры на іншай рабоце; неабходна біцца за кожнага пропадандыста.

У адносінах да кадраў мы павінны высунуць наступныя конкрэтныя задачы:

а) распачаць масавую падрыхтоўку і перападрыхтоўку пропагандыстаў праз розныя курсы;

б) у значна большых памерах, маштабах скарыстоўваць для пропагандысцкай работы актыў партыйных організацый, асабліва старых комуністаў, старых бальшавікоў;

в) стаць на шлях больш рашучага высоўваньня рабочых пропагандыстаў на прадпрыемствах. Мы маем вялікія магчымасьці ў гэтых адносінах. У нас, асабліва на больш буйных прадпыемствах, ёсьць

кадры старых рабочых бальшавікоў, якія ў дастатковай ступені тэорэтычна падрыхтаваны дзеля таго, каб высунуць іх кіраўнікамі школ і гурткоў на прадпрыемствах;

г) забараніць пасылку пропагандысцкіх кадраў на іншыя галіны работы. Скараціць пасылку пропагандыстаў на розныя кампаніі, прыстасаваўшы пасылку так, каб яна ні ў якім разе ня зрывала заняткаў у школах і гуртках партасьветы.

Неабходна забясьпечыць, каб увесь партыйны актыў, які бывае на вёсцы (а зараз многа актыву як з Менску, так і раёнаў), у дзень партыйнай асьветы прысутнічаў на занятках школ, гурткоў, дапамагаў ім разьбірацца ў розных пытаньнях. Гэта зьяўляецца зусім рэальным і залежыць толькі ад таго, як парткомы падыйдуць да скарыстаньня тых актывістаў з раённых цэнтраў і з Менску, якія знаходзяцца на вёсцы. Аб гэтым зусім яскрава запісана ў пастанове Бюро ЦК;

д) значна палепшыць мэтодычнае кіраўніцтва нашымі пропагандыстамі. Культпроп ЦК пытаньням мэтодкіраўніцтва да гэтага часу не аддаваў дастатковай увагі.

Вазьміце нашы мэтодраспрацоўкі. Яны зьяўляюцца вельмі каштоўным матэрыялам, але ўся бяда ў тым, што яны позна выходзяць. Мы дабіліся зараз таго, што мэтодраспрацоўкі замест 18 дзён друкуюцца ў працягу 3—5 дзён. Але пакуль яны складаюцца, друкуюцца, рассылаюцца—матэрыял устарэе. Перад Кульпропам ЦК стаіць задача значна палепшыць выданьне гэтых мэтодраспрацовак, выданьне нашага падручніка „За Ленінскую вучобу“ і актывізаваць работу мэтодбюро, бо ў нас з програмамі, вучэбнымі плянамі работа пастаўлена нездавальняюча. Зусім зразумела, што тут роля Цэнтральнага Дому Комасьветы павінна быць значна большай. Работу дамоў комасьветы таксама і на раёнах трэба пераключыць на опэрацыйныя формы работы.

Мы кожны год — і зуім правільна — лаемся за тое, што нашы падручнікі партасьветы выходзяць несваячасова. І ў гэтым годзе справа з падручнікамі ў нас таксама кульгае. Дагэтуль выпушчана толькі два новых падручнікі на белмове. БДВ апошнія некалькі дзён працуе сапраўды па-баявому і абяцае скончыць надрукаваньне програмы і падручнікаў у тэрмін.

Наша партыя досыць пасьпяхова разгортвае соцспаборніцтва і ўдарніцтва на заводах, на фабрыках, некаторых колгасах, саўгасах, МТС. Але калі паўстае пытаньне як мы праводзім соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў нізавой сетцы партасьветы, колькі ў нас ударнікаў партыйнай вучобы, хто і з кім спаборнічае па пытаньню марксыцка-ленінскага выхаваньня, мы пабачым, што ў нас альбо няма вестак, альбо соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на гэтым вучастку работы на самой справе, асабліва ў раёнах, яшчэ няма. Мы ўжо ня першы раз гаворым аб гэтым. Усё-ж такі трэба прымусіць раённыя парторганізацыі, ячэйкі, колектывы, каб яны сапраўды пабальшавіцку разгарнулі гэту работу на фронце нашай партасьветы.

Трэба асобна падкрэсьліць задачы вучобы партактыву. Тыя асаблівасьці сёнешняга этапу соцбудаўніцтва, тыя адказныя задачы, якія стаяць перад партыяй, з усёй сур'ёзнасьцю высоўваюць перад намі задачу значнага падвышэньня тэорэтычнага ўзроўню партыйнага актыву. Да рэчы кажучы, наш актыў у некаторых зьвеньнях прадстаўляе сабой таксама моладзь у партыі, якая патрабуе асаблівае ўвагі ў сэнсе партасьветы, у сэнсе падняцьця марксыцка-ленінскага ўзроўню. Тое становішча з вучобай партактыву, якое мы маем на сёнешні дзень, нас задаволіць ні ў якім разе ня можа.

Праўда, мы значна пашыраем контынгент нашых комвузаў, нашых саўпартшкол, мы організоўваем у гэтым годзе дзьве новыя саўпартшколы ў Віцебску і Магілеве. На працягу 1932 г. нам неабходна будзе організаваць яшчэ некалькі новых сталых саўпартшкол. Мы праводзім рад курсаў у Прылуках, пры Комвузе, пры саўпартшколах, 6-ці месячныя курсы, 10-дзённыя і г. д., але яны змаглі ахапіць яшчэ нязначную колькасьць актыву. Асноўная маса нашага актыву, бадай, не ахоплёна партвучобай, бадай не займаецца марксыцка-ленінскай тэорыяй.

У практыцы нашай работы можна сустрэцца з надзвычайна адмоўнымі фактамі, якія характарызуюць нізкі тэорэтычны ўзровень партактыву, які, літаральна, не разьбіраецца ў элемэнтарных рэчах. Мы мелі яскравыя прыклады няпісьменнасьці некаторых нашых актывістаў, якія паступаюць у Комвуз. Як вядома, на іспытах досыць яскрава выяўляецца тэорэтычны ўзровень таго ці іншага комуніста, а ў Комвуз паступаюць ужо больш-менш падрыхтаваныя, ужо прайшоўшыя пэўны партстаж і нізавыя зьвеньні нашай партасьветы.

Вось характэрныя прыклады: запытваюць у таварыша, каб ён растлумачыў конкрэтна, што такое абязьлічка. Зразумела, што аб гэтым павінен ведаць кожны сябра нашай партыі, асабліва на заводзе, у колгасе. Таварыш даў такі адказ: „Гэта барацьба за выкананьне нормы працы і выкананьне прамфінпляну".

„Па якіх пытаньнях змагаліся правыя опортуністы супроць партыі"?—Адказвае—„Ня ведаю".

„Хто стаяў на чале правых опортуністаў"?—Адказвае—„Троцкі і Зіноўеў".

Другі сябр партыі адказвае: „Калінін". А калі ў яго запыталі, якую работу выконвае т. Калінін, ён па сумленнасьці адказаў „Ня ведаю".

Аднаго запыталі: „У чым заключаецца тэорыя пэрманэнтнаў рэволюцыі"?—Адказаў—„У тым, што рэволюцыю можа завяршыць толькі дробная буржуазія, пасьля чаго да яе далучаецца пролетарыят".

Далей: „Ці ёсьць розьніца паміж поглядам трацкістаў і правых опортуністаў"? Адказ—„Няма".

Словам цэлы букет такіх фактаў, якія характарызуюць надзвычайна нізкае, нездавальняючае становішча падрыхтоўкі часткі нізавога партактыву.

Зразумела, прыведзеныя факты даволі анэкдотычнага парадку, аднак, яны павінны зьявіцца сур'ёзьнейшым сыгналам для КП(б)Б, для кожнай асобнай організацыі, яны павінны прымусіць кожнага з нас вельмі сур'ёзна падумаць аб вучобе нашага партыйнага актыву. Нам неабходна ва што-б та ні было забясьпечыць рашучы пералом у справе тэорэтычнай падрыхтоўкі нашага партактыву.

Тут, па-мойму, вялікую ролю павінна адыграць завочнае навучаньне. Праўда, тут яшчэ ёсьць некаторыя перабоі тэхнічнага парадку. Аднак, пры належным жаданьні завочнае навучаньне партактыву можна і неабходна палепшыць, нават, не гаворачы аб радыё. Хаця і з гэтага боку справа хутка палепшыцца. У кастрычніку г. г. мы адчыняем магутную радыё-станцыю ў Менску. Чутнасьць будзе досыць добрая. Гэта ў пэўнай меры дапаможа парторганізацыям скарыстаць радыё, як сродак завочнага навучаньня.

На жаль, нашы раённыя парторганізацыі вельмі нездавальняюча выконваюць тую разьвёрстку, якая дана па завочнаму навучаньню.

Трэба зявярнуць увагу, яшчэ на адзін з важных момантаў нашай работы, гэта на пытаньне аўладаньня тэхнікай і на увязку пытаньня з партвучобай. У гэтым пытаньні ў нас ёсьць рад непаразуменьняў. Ёсьць прыклады, калі некаторыя партыйныя колектывы ўзялі адну крайнасьць — тэхнічную вучобу і больш нічога. Зразумела, што лёзунг партыі „Тэхніка — масам“ зьяўляецца сур'ёзьнейшай дырэктывай для нас. Нам неабходна шырока разгортваць тэхнічную асьвету на прадпрыемствах, колгасах, саўгасах і г. д. Але гэта ні ў якім разе ня значыць, што мы павінны супроцьстаўляць тэхнічную вучобу марксыцкаленінскаму выхаваньню. Мы павінны прасьцейшыя элемэнты тэхнікі ўключаць у сыстэму партасьветы, шырока разгортваць самастойную сетку тэхнічнага навучаньня на прадпрыемствах, саўгасах, МТС і колгасах.

Пытаньне аб вучобе кандыдатаў партыі трэба ставіць асабліва востра. Тое становішча, якое мы маем на сёнешні дзень, нас задавоіць ні ў якім разе ня можа. У нас у сярэднім ахоп партыйнай асьветай кандыдатаў партыі складае 40-50 процантаў, г. зн., што палова кандыдатаў у партыі, якія толькі што ўступаюць у партыю, не прайшлі нават ніжэйшага зьвяна нашай партыйнай асьветы.

Мы лічым, што кандыдат партыі, які не знаёмы з элемэнтарнейшымі відамі нашай бальшавіцкай тэорыі, ня зможа быць членам партыі, ён ня зможа кіраваць масамі, ён ня зможа організаваць масы, узьнімаць масы на выкананьне адказьнейшых задач нашай партыі. Нам неабходна забясьпечыць ва што-б то ні стала 100 проц. ахоп кандыдатаў, новых членаў партыі сыстэмай партасьветы, хоць-бы школай нерасоўкай з 2 месячным тэрмінам навучаньня з вывучэньнем статуту і програмы. Але як мінімум гэтую школу кандыдат партыі абавязкова павінен прайсьці. Хоць гэтым яго марксыцка-ленінскае выхаваньне ня вычэрпваецца.

Разам з партыйнай асьветай мы павінны не забываць, што кандыдат партыі павінен быць уцягнуты ў практычную партыйную работу. Партыйная організацыя павінна кіраваць кандыдатамі партыі, павінна правяраць выкананьне імі партнагрузак, выкананьне імі прасьцейшых абавязкаў членства бальшавіцкай партыі, уплату членскіх узносаў, наведваньне сходаў, выкананьне прасьцейшых заданьняў партыйнай ячэйкі. Неабходна, каб кожная ячэйка, кожны партколектыў мелі-б на ўвазе, што без марксыцка-ленінскага выхававаньня кандыдат партыі ня можа быць карысным членам бальшавіцкай партыі.

Мы зараз знаходзімся ў пэрыодзе масавага комплектаваньня сеткі на асеньня-зімовы пэрыод. Гэта адказьнейшы пэрыод у нашай партыйнай вучобе. Нам неабходна гэты час скарыстаць для масавай палітычнай кампаніі за бальшавіцкую марксыцка-ленінскую вучобу, за 100 проц. ахоп партвучобай у першую чаргу маладых членаў і кандыдатаў партыі.

Нам неабходна ўцягнуць у сетку партасьветы значныя кадры беспартыйнага актыву, значныя кадры комсамолу. Комсамол, які на працягу 1931 г. вырас на 70.000 чалавек, патрабуе значна большай увагі, значна больш сыстэматычнага, больш сталага кіраўніцтва з боку партыйных організацый. Гэта моладзь (у большасьці колгасная моладзь, моладзь на прадпрыемствах), якая ўліваецца ў комсамол, патрабуе сыстэматычнага бальшавіцкага выхаваньня, сталага кіраўніцтва, і партасьвета павінна адыграць тут вялікую ролю.

Мы атрымалі контрольныя лічбы, конкрэтныя заданьні па партасьвеце з боку ЦК УсеКП(б). На падставе гэтых контрольных лічбаў

склалі конкрэтны плян нашай работы па КП(б)Б у раённым разрэзе, намецілі конкрэтныя заданьні для кожнай раённай партогранізацыі ў сэнсе ахопу сыстэмай партасьветы.

Гэтыя контрольныя заданьні — програма нашай практычнай работы.

Задачы досыць сур'ёзныя, якія патрабуюць бальшавіцкай настойлівасьці, бальшавіцкай энэргіі для іх выкананьня. І зразумела, толькі тады, калі раённыя партыйныя організацыі цалкам, партыйныя камітэты і колектывы непасрэдна возьмуцца за кіраўніцтва гэтай галіной нашай партработы, калі культпропы ў першую чаргу праявяць належную ініцыятыву, належную настойлівасьць — пры гэтых умовах мы зможам сапраўды забясьпечыць рашучы пералом, рашучае палепшаньне ў працы па марксыцка-ленінскаму выхаваньню. Толькі тады мы зможам наладзіць дыфэрэнцыяванае кіраўніцтва і прыстасаваньне ўсёй партасьветы да спэцыяльна-вытворчых і бытавых умоў, узросту і ўзроўню мас. У нас ёсьць усе магчымасьці, каб поўнасьцю справіцца з тымі вялізарнымі задачамі максыцка-ленінскага выхаваньня мас, якія паставіла перад намі наша партыя.

Пушчын і Дзіхцяр

# Пытаньні працы і заработнай платы на новым этапе

*„Продукцыйнасьць працы — гэта ў канечным ліку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу."*
*(ЛЕНІН).*

Прамова тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў, прысьвечаная, галоўным чынам, пытаньням працы, прадстаўляе сабой пэўную гістарычную веху, якая вызначае ўсю програму дзеяньняў у новай абстаноўцы нашага гаспадарчага разьвіцьця. Конкрэтныя задачы ў галіне працы пастаўлены партыяй у адпаведных рашэньнях XVI зьезду УсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б і дырэктывах ЦК. Галоўнае, што дыктуецца партыяй па пытаньнях працы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі, заключаецца ў неабходнасьці падначаліць усе астатнія інтарэсы інтарэсам соцыял.стычнай вытворчасьці, падвышэньню і паляпшаньню продукцыйнасьці працы. Тав. Сталін у дакладзе XVI зьезду УсеКП(б) сказаў: „Без сыстэматычнага росту продукцыйнасьці працы як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі, мы ня можам разьвязаць задачы рэконструкцыі, мы ня можам ня толькі дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, але нават абараніць сваё самастойнае існаваньне. Таму проблема росту продукцыйнасьці працы мае для нас першараднае значэньне".

Самым важным пытаньнем працы зьяўляецца таксама пытаньне аб кадрах. XVI зьезд УсеКП(б) па дакладу тав. Куйбышава адзначыў: „Неабходнай прадпасылкай выкананьня пяцігадовага пляну зьяўляецца разьвязаньне проблемы кадраў, што патрабуе рашучага і рэзкага пашырэньня і якаснага паляпшэньня практычнай работы ў галіне падрыхтоўкі і падвышэньня кваліфікацыі кадраў прамысловасьці."

Паданых паказаньняў партыі даволі, каб стала ясна, што па самай сваёй сутнасьці пытаньні працы зусім не зьяўляюцца „ведомственными" пытаньнямі толькі органаў Наркампрацы — яны ў поўнай меры пытаньні, якія маюць рашаючае агульна-гаспадарчае і палітычнае значэньне, і правільнае разьвязаньне іх, згодна дырэктыў партыі і конкрэтных паказаньняў тав. Сталіна, павінна займаць галоўнае месца ў рабоце нашых гаспадарчых організацый, як і органаў працы і профсаюзаў. Другое, больш вузкае разуменьне пытаньняў працы сьведчыла-б аб неразуменьні значэньня пытаньняў працы для пасьпяховага разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва.

Якімі шляхамі павінна ісьці практычнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб падняцьці продукцыйнасьці працы? „Мерапрыемствы партыі па галіне разьвязаньня гэтай проблемы ідуць па трох лініях: па лініі сыстэматычнега паляпшэньня матэрыяльнага становішча працоўных, па лініі стварэньня тварыскай працоўнай дысцыпліны... нарэшце, па лініі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Усё гэта на базе палепшанай тэхнікі і рацыянальнай організацыі працы" (Сталін). Такая партыйная програма дзеяньняў і выкананьне гэтай програмы павінна служыць паказальнікам разуменьня і адданасьці генэральнай лініі партыі. На жаль, на справе ёсьць праяўленьні правага і „левага" опортунізмаў у практыцы вырашэньня пытаньняў працы. Гэтыя праяўленьні ўсе зьяўляюцца вынікам, па існасьці, праваопортуністычнага антыпартыйнага разуменьня сучаснага гаспадарча-політычнага разьвіцьця. Самае існае ў правым опортунізьме—гэта баязьлівасьць высокіх тэмпаў разьвіцьця нашай соцыялістычнай гаспадаркі, баязьлівасьць, якая асноўваецца на тэорыі „роўнавагі", на веры ў разьвіцьцё соцыялізму самацёкам („урастаньне кулака ў соцыялізм") і на нявер'і ў сілы і здольнасьці рабочай клясы. Між тым, „толькі далейшае паскарэньне тэмпаў разьвіцьця нашай прамысловасьці дасьць нам магчымасьць дагнаць у тэхніка-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Людзі, якія гавораць пра неабходнасьць зьніжэньня тэмпаў разьвіцьця нашай прамысловасьці, зьяўляюцца ворагамі соцыялізму, агентамі клясавых ворагаў" (Сталін).

Праяўленьні правага і „левага" опортунізмаў наглядаюцца ва ўсіх трох галінах мерапрыемстваў, паказаных тав. Сталіным. Раней ад усяго дужа шмат хто забываецца, што матэрыяльнае становішча рабочай клясы ў СССР вызначаецца не аднэй заработнай платай. Уся соцыяльная політыка пролетарыяту — у генэральнай лініі партыі, якая заключаецца ў сыстэматычным няспынным палепшаньні і культурна-бытавога становішча рабочых, на глебе пасьпяховага выкананьня пляну соцбудаўніцтва. Павялічэньне колькасьці рабочай клясы, ліквідацыя беспрацоўя, мільярдныя асыгнаваньні на соцыяльнае страхаваньне паляпшэньне быту, ахова працы, ахова здароўя, жыльлёвае будаўніцтва, перавод на сямігадзінны рабочы дзень і бесьперапынку — вось далёка ня поўны пералік мерапрыемстваў у гэтым кірунку (гл. рэзолюцыі сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і КП(б)Б.

Справа, значыць, заключаецца ў неабходнасьці поўнага і дакладнага ажыцьцяўленьня пастаноў партыі ў галіне матэрыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых. Апошнія такія вырашэньня, якія тычацца комунальнага і жыльлёвага будаўніцтва, паляпшэньня грамадзкага харчаваньня, пастанова аб перабудове кооперацыі, аб жывёлагадоўчай проблеме — усё гэта зусім практычныя мерапрыемствы па палепшаньню матэрыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых. Трэба прызнацца, што яшчэ надта часта ня ўлічваецца значэньне гэтых мерапрыемстваў менавіта для продукцыйнасьці працы, для правільнага вырашэньня шмат іншых пытаньняў вытворчасьці. Незабясьпечанасьць жыльлём, антысанітарны стан прадпрыемстваў і комунальных установ, дрэнна організаванае грамадзкае харчаваньне, несваячасова зробленая і малакваліфікаваная мэддапамога зьяўляецца такімі-ж рэальнымі прычынамі невыкананьня прамфінпляну, як і організацыйна-тэхнічныя недахопы, і столькі-ж вінавата ў недахопе і бягучасьць рабочай сілы, як і дрэнная сыстэма зарплаты. Недарма загэтым уся партыя завастрыла сваю ўвагу на такіх пытаньнях, як санмінімум, як упарадкаваньне ясьляй і другіх бытавых установ, як паляпшэньне забесьпячэньня рабочых

і інш.: усё гэта, сапраўды, пытаньні працы, пытаньні, якія вызначаюць проблемы продукцыйнасьці працы, організацыі працы наогул.

Продукцыйнасьць працы вызначаецца складаным комплексам умоў, сярод якіх „чалавечы фактар“ грае ролю побач з тэхнічнымі, экономічнымі і організацыйнымі ўмовамі вытворчасьці. Ужо даўно выкрыта меншавіцкая існасьць супроцьстаўленьня продукцыйнасьці працы — інтэнсыўнасьці працы, аднак, бяссэнсіцай зьяўляецца пры соцыялістычнай рэконструкцыі шукаць сродкі падвышэньня продукцыйнасьці працы выключна ў падняцьці інтэнсыўнасьці яе, як і зусім грэбаваць гэтым фактарам. Наша партыя не адзін раз вуснамі сваіх правадыроў т. т. Леніна і Сталіна паказала на неабходнасьць напружаньня ўсіх сіл, захоўваньня самай цьвёрдай працоўнай дысцыпліны ў мэтах соцыялістычнага будаўніцтва, але нізкім паклёпам зьяўляюцца вымышленьні клясавых ворагаў, быццам цяжкасьці, якія пераджывае і перамагае пролетарыят для дасягненьня посьпеху гэтага будаўніцтва, супярэчаць інтарэсам пролетарыяту, альбо навязаны яму супроць яго волі і жаданьня. Ня варта тут спыняцца на доказах простай няпісьменнасьці і адсутнасьці элемэнтарнай добрасумленнасьці ў аўтараў падобных „інформацый“, якія прыкідваюцца быццам ня бачаць і не разумеюць прынцыповай розьніцы, якая існуе паміж адносінамі рабочага да капіталістычнага прадпрыемства і яго суадносінамі з соцыялістычнай вытворчасьцю, з соцыялістычным працоўным колектывам. Ня варта таксама доўга спыняцца на абвяржэньні „вестак“ аб „прымусовай працы“, якія распаўсюджваюць паслугачы буржуазіі ўсіх рангаў і ўсякага паходжаньня, прыкідваючыся, быццам ня ведаюць пра нявольніцтва ўсіх колераў, якое фактычна існуе як у „цывілізаваных“ краінах, гэтак і ў колёніях.

Значыцца, у справе правільнай організацыі працы і падняцьця яе продукцыйнасьці стан працоўнай дысцыпліны, канешне, зьяўляецца самым важным фактарам. Гэты стан характарызуецца, галоўным чынам, выкарыстаньнем рабочага часу. Па цэнзавай прамысловасьці БССР за 4 месяцы 1931 году (студзень-красавік) усяго працавала ў сярэднім 78.272 чалавек. На аднаго рабочага падае фактычна прапрацаваных 83,3 дня. За гэты-ж час на кожнага рабочага падае нявыхадаў на работу 12,7 дня. Пры пераводзе гэтай колькасьці страчанага для прамысловасьці часу на фізычныя асобы атрымаецца, што за гэты час фактычна не працавала па ўсёй цэнзавай прамысловасьці 12.100 чалавек, з якіх па няўважлівых прычынах штодня на працягу 4-х месяцаў гуляла 925 чалавек. У параўнаньні з такім-жа кавалкам часу 1930 г. гэта дае значнае павялічэньне прагулаў па няўважлівых прычынах — на аднаго рабочага павялічэньне ў 3 разы (0,32—0,96).

Па асобных галінах прамысловасьці стан прагулаў па няўважлівых прычынах выражаецца ў наступных лічбах:

| | Дні прагулаў па няўважлівых прычынах. | Гэта азначае нявыхад на работу штодня. |
|---|---|---|
| Мэталяпрамысловасьць . . | 8.413 дзён | 116 чал. |
| Шкляная прамысловасьць . | 2.105 „ | 29 „ |
| Запалкавая „ . | 2.640 „ | 36 „ |
| Скураная „ . | 1.137 „ | 11 „ |
| Швэйная „ . | 2.877 „ | 44 „ |

Гэткае становішча досыць трывожнае і выклікае тым большую небясьпеку і неабходнасьць сыгналізацыі, што матэрыялы раду абсь-

ледваньняў, якія праводзіліся ў Беларусі Наркапрацы і Інстытутам Аховы Працы, сьведчаць аб нездавальняючым стане і другіх мерапрыемстваў па організацыі працы ў цэлым радзе прадпрыемстваў. Перавод на сямігадзінны рабочы дзень і на бесьперапынку адбываецца без дастатковай організацыйна-тэхнічнай падрыхтоўкі, што вядзе да недапусьціма-слабога выкарыстаньня ўнутраных рэзэрваў, вядзе да абязьлічкі, абсталяваньня поўнасьцю не загружаецца, вышэйшыя формы падзелу працы, дыфэрэнцыяваная праца, няспынны паток ня ўжываюцца, шчыльнасьць рабочага дня недастатковая, мэханізмы і машыны не выкарыстоўваюцца (трактары на лесанарыхтоўках, дарожныя машыны, машыны па торфараспрацоўках).

Паглядзім, нарэшце, як ажыцьцяўляецца трэцяе галоўнейшае мерапрыенства па падняцьцю продукцыйнасьць працы, пра якую кажа тав. Сталін на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) — соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

XIII зьезд КП(б)Б даў зусім ясную ацэнку ролі і значэньня новых соцыялістычных форм працы: „Каб перамагчы цяжкасьці выкананьня пяцігадовага пляну і паскорыць тэмпы будаўніцтва соцыялізму асноўнай крыніцаю і надалей павінна быць разгортваньне соцспаборніцтва, ударніцтва, як фактараў вялізнага працоўнага ўздыму і энтузыязму рабочае клясы“ (з рэзолюцыі XIII зьезду КП(б)Б па дакладу т. т. Бэнэка і Грысевіча). Фактычнае становішча ў БССР у галіне разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва гэткае:

Па 27 прадпрыемствах ВСНГБ, на якіх працуе 12.000 рабочых (28 проц. агульнай колькасьці) у красавіку 1931 г. было ахоплена ўдарніцтвам і соцспаборніцтвам 72,3 проц, а ў маі—28,5 проц.

Цікава таксама прывесьці лічбы ўдарніцтва на 43 прадпрыемствах ВСНГБ за студзень—сакавік 1931 г.:

| | Студзень. | Сакавік. |
|---|---|---|
| Процант ударнікаў да агульнай колькасьці рабочых . | 55,2 | 71,2 |
| Ахоплена жанчын . . . . | 53,8 | 57,8 |
| Ахоплена членаў КП(б)Б . . | 62,9 | 75,9 |
| Ахоплена членаў КСМ . . | 68,4 | 77,4 |
| Ахоплена моладзі . . . . | 46,4 | 66,1 |

Па прамысловасьці Наркамзабесьпячэньня на 1 ліпня 1931 г. мы маем рабочых, якія ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, 73,6 проц.. Па асобных галінах прамысловасьці Наркамзабесьпячэньня мы маем такія лічбы: у Белсельпраме соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам ахоплена 88 проц. рабочых, у Белшчаціне—81,4 проц., у Саюзхлебе—25 проц., у Гомсельхарчпраме—50 проц.

Такім чынам, мы бачым досыць пярэсты малюнак. Гэта пярэстасьць сама па сабе сьведчыць, ва ўсякім выпадку, аб недастатковай рабоце нашых гаспадарчых, профсаюзных організацый і органаў працы па мобілізацыі актыўнасьці, па організацыі энтузыязму рабочых. Іначай нельга растлумачыць хістаньні лічбаў, досыць высокія ў адных выпадках і недапусьціма нізкія ў другіх.

Але справа ня толькі ў колькасным баку пытаньня. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва, якія „адчыняюць новую эпоху ў соцыялістычным будаўніцтве“ (Куйбышаў) павінны быць узьняты на вышэйшую ступень. „Галаўнейшай задачай партыі і профсаюзаў зьяўляецца ўзьняцьце на вышэйшую ступень руху соцспаборніцтва і ўдарніцтва, дзейснае ператварэньне гэтага руху ў школу клясавага выхаваньня рабочых мас, паляпшэньне кіраўніцтва рухам, пагалоўнае ўцягненьне ў самы

кароткі тэрмін у соцспаборніцтва і ўдарніцтва комуністаў і комсамольцаў, якія працуюць на прадпрыемствах, падвышэньне вытворчай кваліфікацыі комуністаў, дзейснае перанясеньне цэнтру вагі партыйнай і профсаюзнай работы ў цэх і брыгады“ (З рэзолюцыі XVI зьезду УсеКП(б) па справаздачы ЦК).

Абуджаныя клясавыя сілы і здольнасьці пролетарыяту, колектыўны творчы энтузыязм рабочых мас штодня даюць нам прыклады росту і разьвіцьця соцыялістычных форм організацыі працы, удзелу рабочых мас у соцыялістычным будаўніцтве. Рознастайнасьць і багацьце гэтых форм выклікае неабходнсьць вывучэньня і рацыяналізацыі іх. Ад асабістага ўдарніцтва праз ударныя брыгады, скразныя брыгады — да вытворчых комун; ад брыгад плянаваньня праз брыгады якасьці да сустрэчнага прамфінпляну і вытворчых манэўраў; ад элемэнтарных форм соцспаборніцтва праз соцспаборніцтва цэлых заводаў — да грамадзкага буксіру, і рад іншых. Гэткія шляхі, якімі ідзе рабочая кляса соцыялістычнай краіны, пад кіраўніцтвам сваёй партыі, да ператварэньня працы „з ганебнага цяжару ў справу гонару, у справу славы, справу адвагі і геройства“ (Сталін).

Вышэйшым формам соцспаборніцтва і ўдарніцтва адпавядае ўжо новы зьмест: об‘ектамі і паказальнікамі іх зьяўляюцца ня толькі колькасьць і тэмпы работы, але і якасьць вырабаў, ня толькі продукцыя, але і ўся вытворчасьць, яе організацыя, работа ўдарнікаў і якія соцспаборнічаюць ня толькі ў адным прадпрыемстве, але і ў другіх прадпрыемствах і галінах прамысловасьці. Ударны завод робіцца прыкладам для саўгасу і колгасу, соцыялістычная прамысловасьць дае прыклад соцыялістычнай сельскай гаспадарцы.

Такім чынам, практыка соцыялістычнага будаўніцтва абвергла опортуністычную трацкісцкую ўстаноўку, быццам чалавек па сваёй прыродзе гультайлівы і імкнецца вызваліцца ад працы. Тое, што зьяўляецца вынікам і абумоўлена соцыяльна-экономічнымі адносінамі ў капіталістычных краінах, опортуністамі прымаецца за „прыроду“. На нашых вачох, дзякуючы зьменам, што адбываюцца ў нашай экономіцы і соцыяльных адносінах, зьмяніліся і адносіны рабочых да працы. „Толькі сьляпыя ня бачаць, што ў псыхолёгіі мас і ў іх стаўленьні да працы адбыўся вялізны пералом, які карэнным чынам зьмяніў выгляд нашых заводаў і фабрык“ (Сталін).

Опортуністы прыкідваюцца „сьляпымі“, а клясавы вораг добра бачыць у новых соцыялістычных формах працы і адзнаку і фактар магутнага росту соцыялізму і таму стараецца ўсімі сродкамі нам перашкаджаць. Таму, опортуністычны „самацёчны“ падыход да соцыялістычных форм організацыі працы грае на руку клясавым ворагам, вядзе да зрыву тэмпаў нашага будаўніцтва. І калі па БССР прамысловасьць мае запазычанасьць па выкананьні прамфінпляну за 5 месяцаў 1931 г. у 24.624.000 рублёў (па ВСНГБ плян выкананы на 85,1 проц., па Наркамзабесьпячэньню—на 77,6 проц.), то гэта, бязумоўна, сьведчыць аб опортунізьме некаторых гаспадарнікаў і асобных работнікаў профэсіянальных організацый і органаў працы, якія не хацелі, альбо ня здолелі па соцыялістычнаму організаваць працу.

На самай справе мы маем матэрыялы пра тое, што на некаторых прадпрыемствах абавязацельствы ўдарнікаў мала конкрэтызаваны, пляны не даведзены да рабочых і брыгад, няма вучоту ўдарніцтва, абмену вопытам; вытворчыя нарады працуюць дрэнна, тэхнонормавая работа, якая мае асноўнае значэньне і для пытаньняў зарплаты, зусім не наладжана і інш. (па матэрыялах НКП аб абсьледваньні раду

прадпрыемстваў: „Дзьвіна“, імя Ланцуцкага, „Сьцяг індустрыялізацыі“, „Спартак“ і інш.).

Трэба памятаць словы тав. Сталіна: „Ці рэальна наша вытворчая праграма? Бязумоўна, так. Рэальнасьць нашага вытворчага пляну, гэта мільёны працоўных, якія твораць новае жыцьцё“. Па БССР ёсьць рад прадпрыемстваў, якія перавыканалі свае пляны: за першую палову 1931 г. Магілеўская друкарня — 118 проц., Якаўлевіцкая суконная фабрыка — на 103 проц., Гомельскі скурзавод — на 107,7 проц., „Бальшавік“ — на 102,8 проц., швэйная фабрыка „Кастрычнік“ — на 105 проц., швэйная фабрыка імя Валадарскага — на 110 проц., Віцебская валасапрадзільная — на 128,89 проц.

Вось чаму адным з асноўных пытаньняў працы на новым этапе зьяўляецца соцыялістычная яго організацыя, якая выклікае неабходнасьць конкрэтнага кіраўніцтва, плянавых конкрэтных заданьняў прадпрыемствам, цэхам, асобным брыгадам, кожнаму рабочаму, неабходнасьць практычнага стварэньня самаконтролю, практычнага ажыцьцяўленьня ўсіх неабходных умоў для соцыялістычнай організацыі працы. Неабходна клясавая дзейнасьць, працоўная таварыская дысцыпліна, аўладаньне тэхнікай, соцыялістычнай рацыяналізацыяй вытворчасьці— адным словам неабходна кіраўніцтва па-новаму працаваць.

Ад усіх зараз патрабуецца, каб зразумелі новую абстаноўку; вывучылі конкрэтныя новыя ўмовы разьвіцьця прамысловасьці, каб кіравалі не „наогул“, „не з паветра“, а конкрэтна, прадметна, каб яны падыходзілі да кожнага пытаньня ня з пункту погляду агульнай тарабаншчыны, а строга сур‘ёзным чынам. „Стварылася новая абстаноўка, якая патрабуе новых прыёмаў кіраўніцува, а некаторыя нашы гаспадарнікі, замест таго, каб зьмяніць прыёмы работы, усё яшчэ працуюць па-старому (Сталін).

Недастаткова шпарка і чотка перабудоўваецца работа па-новаму і ў вырашэньні пытаньня аб кадрах. У пытаньні аб кадрах ёсьць, як вядома, рад анты-марксыцкіх і анты-ленінскіх тэорый і опортуністычная шкодніцкая практыка. Зусім нядаўна опортуністы пад кіраўніцтвам былых правых лідэраў з НКП СССР і трэд-юніоніцкіх прыхільнікаў з УсеЦСПС даводзілі „вечнасьць і непарушнасьць“ беспрацоўя, якое нібыта няспынна нараджаецца самой „прыродай“ сельскай гаспадаркі, якая быццам у аграрным перанасяленьні мае свой „прызначаны закон прыроды“. Гэта „тэорыя“ распрацоўвалася і популярызавалася шкоднікамі „школы“ Громана, Мінца і інш. Гэта „тэорыя“ давяла да такога становішча, што нават год назад на ўтрыманьні дзяржавы знаходзіліся дзесяткі тысяч „беспрацоўных“, гэта тая „практыка“, якую ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 20 кастрычніка 1930 г. кваліфікаваў як права-опортуністычную.

Такая практыка нарадзілася пры дапамозе „тэорый“, у якіх былі забыты асновы Марксавага і Ленінскага вучэньня пра насельніцтва і пра беспрацоўе, якое вызначаецца ня „прыродай“, а соцыяльна-эконамічнай структурай і соцыяльна-гістарычнай існасьцю народнай гаспадаркі і сельскай гаспадаркі ў прыватнасьці. У нас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на глебе тэхнічнай рэконструкцыі гэта структура зьмянілася ў тым кірунку, што мы „ўжо ўвайшлі ў пэрыод соцыялізму“, які перакульвае ўсякія „законы“ беспрацоўя, што маюць месца пры капіталізьме.

Пабудова соцыялізму яшчэ ня скончана, соцыялізм у нас будуецца, пры гэтым — будуецца ў атачэньні клясавых ворагаў, якія ўплы-

ваюць на ўнутры і „каля-партыйных абываталяў“, бліжэйшых прыяцеляў опортуністаў, на самых опортуністаў, агентаў клясавых ворагаў.

Вось чаму калі партыя прывяла краіну да вялічэзных перамог соцыялістычнага будаўніцтва, да ліквідацыі беспрацоўя, да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі панікёры ад опортунізму і агенты ад кулацтва высунулі замест тэорыі беспрацоўя тэорыю „безрабочыя“. Замест разьвязаньня проблемы недахопаў кадраў права-„ляўацкія“ ўхілісты пачалі сквіліць і перашкаджаць пролетарыяту па-бальшавіцку разьвязаць проблему кадраў пад кіраўніцтвам партыі. Вось прыклад „найвялікшай мудрасьці“ права-„лявацкага“ лідэра Сырцова: „Я лічу,—сказаў ён у СНК РСФСР,—што калі мы зьнішчым такія факты, якія часам робяць больш выгодным стаяньне ў чарзе за якім-небудзь таварам у мэтах яго перапродажу, чым работу на прадпрыемстве, калі мы зьнішчым такое становішча, калі рабочаму больш выгадна ехаць у вёску, чым трымацца на заводзе, калі справімся з аслабленьнем стымулу да работы ў значнай частцы сялян, то пытаньне з рабочай сілай будзе разьвязана значна лягчэй“.

Гэта шкодная ўстаноўка і паклёп даўно ўжо партыяй выкрыта і атрымалі належны і рашучы адпор. І справа зараз заключаецца ў далейшым рашучым змаганьні з опортуністычнай практыкай у пытаньнях аб кадрах, практыкай, якая яшчэ досыць шырока распаўсюджана.

Раней ад усяго мы наглядаем няправільнае выкарыстоўваньне рабочай сілы, аб чым сьведчаць зьлішкі яе ў вытворчасьці. Так, па швэйнай прамысловасьці ёсьць на 4,2 проц. больш рабочых у параўнаньні з плянам, па ільнапрадзільнай — на 5,9 проц., па скураной — на 8,8 проц., па запалкавай — на 0,4 проц., па тэкстыльнай — на 21,4 проц. Усяго ў першым квартале 1931 г. зьлішкаў рабочай сілы было 1.953 чал., у другім квартале — 919 (па прамысловасьці ВСНГБ і Наркамзабесьпячэньня).

Але малюнак робіцца значна горшым калі мы параўнаем наяўнасьць рабочай сілы з фактычным выкананьнем вытворчых програм і прамфінпляну.

Выходзіць, што па ўсёй цэнзавай прамысловасьці ёсьць рабочых на 12 проц. больш, чым гэта патрабуецца фактычна выкананымі плянамі, прычым па прамысловасьці ВСНГБ — на 11,4 проц., па Наркамзабесьпячэньня — на 23,1 проц., па мэталёвай прамысловасьці — на 31 проц., у хэмічнай — на 18,8 проц., у керамічнай — на 3 проц., у шкляной — на 8,5 проц., дрэваапрацоўчай — на 16,6 проц., тэкстыльнай — на 55,9 проц., скуранаабутковай—на 14,4 проц., у запалкавай—на 16,3 проц., поліграфічнай — на 9,7 проц., у галянтарэйнай — на 13,7 проц. Зусім зразумела, што такое становішча ня толькі не дапамагае вырашэньню пытаньня, але перашкаджае плянаваму выкарыстоўваньню рабочай сілы, правільнаму яе разьмеркаваньню па асобных галінах вытворчасьці.

Яшчэ горш становішча ў сельскай гаспадарцы: нездавальняючая організацыя працы трымае зьвязанымі вялізныя рэзэрвы рабочай сілы, з прычыны чаго працоўныя рэсурсы на першы погляд здаюцца вычарпанымі ня толькі для прамысловасьці, але нават і для самой сельскай гаспадаркі. Гэта дае повад опортуністычнаму „чаканьню“ і самацёку ў вырашэньні пытаньня аб кадрах, дае повад некаторым гаспадарнікам опортуністычна спасылацца на „об'ектыўныя“ прычыны і замест організаванага набору рабочай сілы супольна з органамі працы гаварыць пра тое, быццам „НКП не дае рабочых“...

Таварыш Сталін у сваёй прамове паказаў тыя конкрэтныя шляхі, па якіх гаспадарчыя організацыі павінны ісьці для задавальненьня вытворчасьці неабходнымі кадрамі. Такія конкрэтныя мерапрыемствы, як правільная організацыя працы ў колгасах, правільнае разьмеркаваньне прыбыткаў і правільная агульна-гаспадарчая політыка ў сельскай гаспадарцы, заключэньне ўмоў на рабочую сілу з колгасамі і аднаасобнікамі, правядзеньне ў жыцьцё закону аб адыходніцтве—зьяўляюцца самымі важнымі сродкамі выяўленьня рэзэрваў рабочай сілы, іх вызваленьня і выкарыстоўваньня для прамысловасьці і будаўніцтва.

Трэба ўсяляк змагацца з некаторымі выяўленымі опортуністычнымі тэндэнцыямі ў гэтых пытаньнях, як „заспакаеньне“ органаў працы на задачах вылічэньня працоўных балянсаў, альбо абмежаваньня гаспадарнікаў надзеямі на організаванае заключэньне ўмоў з „дастаўляемымі“ органамі працы, рабочымі... Ня можа быць і гутаркі аб правільнасьці падобных „установак“ у разуменьні дырэктыў тав. Сталіна аб організаваным наборы рабочай сілы. Па-першае, няма і ня можа быць правільнага плянаваньня працоўных рэсурсаў бяз правільнага вучоту падрабязнасьцяй, гэта азначае, бяз правільнай організацыі працы на вытворчасьці, без мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў; па-другое, ні ў якім разе не дапусьціма ўпускаць, што організаваны набор праводзіцца ва ўмовах клясавага змаганьня і трэба дужа дбайна клапаціцца аб адпаведнай політыка-тлумачальнай рабоце сярод організавана набіраемых колгасьнікаў і аднаасобнікаў, аб іх падрыхтоўцы да ўдзелу ў соцбудаўніцтве ў новых для іх умовах соцыялістычнага прадпрыемства.

У пытаньні аб кадрах ёсьць яшчэ адна дужа хваравітая зьява, на якую таксама паказаў тав. Сталін—гэта бягучасьць рабочай сілы. Па БССР мы маем такія весткі за першую палову 1931 году: прынята рабочых 42,5 проц. і звольнена 41,3 проц. іх агульнага ліку. Гэтыя лічбы больш спрыяючыя, як у мінулым годзе, але і яны значаць аднаўленьне складу рабочых у прамысловасьці на працягу году на 116,4 проц. (па групе „А“—140,6 проц., па групе „Б“—96,7 проц.). Па асобных галінах прамысловасьці становішча яшчэ горшае: так, па керамічнай прамысловасьці звольнена за 5 месяцаў 1931 г.—131,5 проц. рабочых, па шкляной—63,3 проц. па харчовай—59,8 проц. па дрэваапрацоўчай—52,4 проц. На торфараспрацоўках бягучасьць яшчэ большая: на 18 буйных заводах па пляну трэба было 5.095 тарфянікаў, навербавана—6.940, альбо 138 проц. патрэбы, працуе-ж фактычна 3.502, альбо 50,3 проц. навербаваных; мы маем таму агульную забясьпечанасьць тарфянікамі на 68,7 проц. патрэбы і дужа нізкую продукцыйнасьць працы (37,1 проц. выкананьня сутачнага заданьня).

Падобны малюнак наглядаецца і на будаўніцтве. Па Белбудаб'яднаньню пры забясьпечанасьці рабочай сілай на першае чэрвеня на 57,2 проц. плян работ за пяць месяцаў выкананы на 52,6 проц.

Бягучасьць рабочых будаўнікоў на 1.000 рабочых наступная:

| За які час | Прынята рабочых | Кінулі работу |
|---|---|---|
| Студзень | 204 | 75 |
| Люты | 284 | 170 |
| Сакавік | 250 | 99 |
| Красавік | 188 | 106 |
| Май | 565 | 160 |

Прычынамі такога стану, побач з паказанымі вышэй недахопамі матэрыяльна-бытавога і культурнага абслугоўваньня рабочых, зьяўляюцца: наяўнасьць зьлішкаў рабочай сілы і нездавальняючая арганізацыя працы, недастатковае разгортваньне соцыялістычных форм працы, недастатковая мэханізацыя і зусім слабое скарыстоўваньне мэханізмаў і, у асаблівасьці, сыстэма заработнай платы.

Зарплата па асобных галінах прамысловасьці і профэсіях зусім не адпавядае ні соцыяльна-эканамічнаму значэньню, ні кваліфікацыі, ні цяжкасьці работы ў асобных галінах вытворчасьці. Зусім ясна гэта відаць на некаторых будаўніцтвах: на „УНР 41"—у красавіку плотнік пры зьдзельшчыне выпрацоўваў 3 р. 75 к. у дзень, а чорнарабочы—3 р. 70 к.; на пабудове жыльлёвага дому ў Барысаве плотнік зарабляў 3 р. 36 к., чорнарабочы—4 р. 16 к.; „НКР 10" плотнік зарабляў 4 р. 88 к., пільнік—10 р. 18 к., столяр—6 р. 6 к., чорнарабочы—4 р. 8 кап.; на пабудове жыльлёвага дому ў Менску плотнік зарабляў 5 р. 84 к., а чорнарабочы—5 р. 12 к. Па гэтых даных мы бачым і значную рознастайнасьць у зарплаце, нават па аднэй і тэй-жа профэсіі. Падобныя прыклады ёсьць і па другіх профэсіях.

Што тычыцца зьдзельшчыны, то яна ў прамысловасьці ВСНГБ за 4 месяцы 1931 г. зьменшылася ў параўнаньні з 1930 г. на 11,7 проц. у сэнсе ахопу колькасьці рабочых (у першым месяцы на 14 проц., у другім месяцы—на 11,8 проц., у трэцім—на 9,8 проц. і ў чацьвертым—на 9,8 проц.).

Недастатковы ахоп рабочых зьдзельшчынай і другімі відамі прогрэсыўна-прэміяльнай аплаты за падвышэньне продукцыйнасьці працы пры зусім слабой пастаноўцы работы па тэхнічнаму нормаваньню і разгортваньню работы ТНБ на прадпрыемствах, бязумоўна, зьяўляецца асноўнай прычынай разрыву паміж выкананьнем плянаў і зарплатай. Па асобных галінах народнай гаспадаркі гэта характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | Продукцыйнасьць працы | Заработная плата |
|---|---|---|
| Хэмічная прамысловасьць | 80,3 проц. | 100,8 проц. |
| Мэталёвая „ | 84,7 „ | 100,0 „ |
| Галянтарэйная „ | 85,0 „ | 100,6 „ |
| Запалкавая „ | 88,6 „ | 102,3 „ |
| Шкляная „ | 91,6 „ | 98,5 „ |
| Поліграфічная „ | 93,7 „ | 98,8 „ |
| Тэкстыльная гр. „А" | 96,0 „ | 102,9 „ |
| „ гр. „Б" | 97,5 „ | 100,0 „ |

Гэткая, з дазваленьня сказаць, „сыстэма" заработнай платы цалкам адпавядае той ураўнілаўцы, якую жорстка асудзіў т. Сталін, і цалкам супярэчыць таму, што гаварыў Ленін: „Разьмеркаваньне ёсьць мэтод, спосаб, сродак для падвышэньня продукцыйнасьці". Некаторыя „ўхільнікі", якія об'ектыўна служаць клясаваму ворагу, выкарыстоўваюць пытаньне аб заработнай плаце для вядзеньня змаганьня з генэральнай лініяй партыі, для зрыву тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. З аднаго боку, мы ведаем усякія гутаркі на тэму аб зьніжэньні рэальнай заработнай платы, аб пагоршаньні матэрыяльнага становішча рабочых; з другога боку, падаюцца лёзунгі аб ураўнілаўцы, аб зьнішчэньні ўжо зараз розьніцы паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай работай.

Гэтыя правыя і „левыя" гутаркі аднолькава шкодныя: „пойдзеш налева — прыдзеш направа" і ўся справа ў тым, што гэтыя гутаркі

практычна дэзорыентуюць і зьяўляюцца опортуністычнымі па сваёй сутнасьці.

Як паказаў т. Сталін, „Маркс і Ленін кажуць, што розьніца паміж працаю кваліфікаванай і некваліфікаванай будзе існаваць нават і пры соцыялізьме, нават пасьля зьнішчэньня клясаў, што толькі пры комунізьме павінна зьнікнуць гэта розьніца, што з прычыны гэтага зарплата нават пры соцыялізьме павінна выдавацца па рабоце, а не па патрэбе... Хто будуе зараз тарыфную сыстэму па „прынцыпах“ ураўніллаўкі, бяз вучоту розьніцы паміж кваліфікаванай працай і некваліфікаванай, той парывае з марксызмам, парывае з ленінізмам“.

Зьяўляючыся аднэю з адзнак матэрыяльнага становішча рабочых, якое паляпшаецца, ва ўмовах соцыялістычнай рэконструкцыі зарплата зьяўляецца таксама адным з фактараў вытворчасьці, адзін з сродкаў стымуляваньня працы, замацаваньня больш кваліфікаваных рабочых на прадпрыемстве, імкненьня рабочых да падвышэньня сваёй кваліфікацыі, змаганьне з бягучасьцю.

Зьменены соцыяльна-экономічны зьмест зарплаты патрабуе, зразумела, і зьмены яе сыстэмы і форм. Згодна паказаньняў т. Сталіна, асноўная задача зводзіцца да ліквідацыі ўраўнілаўкі, значыць, да распрацоўкі заахвочвальных форм зарплаты замест неадпавядаючых новым умовам соцбудаўніцтва тарыфаў. Аплата паводле вынікаў працы, прогрэсыўна-прэміяльная сыстэма, заахвочвальная аплата вядучых профэсій — гэткія асноўныя прынцыпы, якія павінны быць пакладзены ў аснову перабудовы тарыфікацыі. Гэтыя прынцыпы аднолькава важныя для паляпшэньня работы як вытворчых рабочых, так і работнікаў упраўленцкіх апаратаў.

Няма ніякіх ні тэорэтычных супроцьпаказаньняў, ні практычных перашкод да таго, каб прынцып нормаваньня (па часу, па колькасьці, або па якасьці выконваемай работы) пакласьці ў аснову аплаты і інтэлектуальнай працы. Між тым дагэтуль вялізная маса інтэлектуальных работнікаў, работа якіх адпаведнымі тэмпамі і адпаведнай якасьці мае часта рашаючае значэньне для пасьпяховага выкананьня задач соцыялістычнага будаўніцтва, часта грае ролю тормазу ў разьвіцьці народнай гаспадаркі менавіта з прычыны „бязвучотнасьці“, а таму і абязьлічанасьці іх працы. Зьдзельна-прыміяльная сыстэма аплаты працы хоць-бы фінансава-вучотных работнікаў, бязумоўна, палепшыць пастаноўку сваячасовай справаздачы і вучоту, значыцца, палепшыць і самае пляніваньне работы асобных зьвеньняў нашай народнай гаспадаркі і значна палегчыць вострую патрэбу ў адпаведных кадрах, бо выкліча значна больш рацыянальнае выкарыстоўваньне наяўных кадраў і вызваленьне ўнутраных рэзэрваў.

Разьвязаньне ўсяго пытаньня аб кваліфікаваных кадрах трэба пачынаць з мобілізацыі ўнутраных рэзэрваў. Гэта датычыцца як кваліфікавых рабочых, гэтак і спэцыялістаў. Належнае іх выкарыстоўваньне па прызначэньню і па іх здольнасьцях, стварэньне адпаведных умоў для максымальнай продукцыйнасьці працы (вызваленьне ад неўласьцівай ім, менш кваліфікаванай работы, правільная расстаноўка сіл, задавальненьне матэрыяльна-бытавых патрэб, падняцьце кваліфікацыі і ўдасканаленьня, выкарыстоўваньне для перадачы практыкі і інш.)— гэткія, у агульных рысах, конкрэтныя задачы з пункту погляду мобілізацыі ўнутраных рэзэрваў кваліфікаваных кадраў.

Зусім зразумела, што ў бурныя тэмпы разьвіцьця народнай гаспадаркі соцыялістычная організацыя вытворчай працы высоўвае асобныя запатрабаваньні да падрыхтоўкі новых кадраў спэцыялістаў і кваліфі-

каваных рабочых. Побач з выкарыстоўваньнем старых спэцыялістаў, адданых соцыялістычнаму будаўніцтву, перад намі стаіць найадказная задача стварэньня сваёй пролетарскай інтэлігенцыі. А для новых кадраў кваліфікаваных рабочых аўладаньне тэхнікай павінна стаць гэткім-жа абавязковым, як і аўладаньне тымі соцыялістычнымі культурнымі навыкамі, без якіх немагчымы ні дзейсная таварыская дысцыпліна, ні ўдзел рабочых у вытворчасьці ў якасьці яе організатараў, а не дадаткаў да машыны, як гэта наглядаецца ў капіталістычнай вытворчасьці.

На жаль, ёсьць значныя недалікі і непаладкі і ў гэтай галіне. Навуковыя ўстановы пры прадпрыемствах дрэнна комплектуюцца, дрэнна абсталяваны, працуюць з перабоямі; вытворчая практыка ў навуковых установах ня досыць наладжана; уцягненьне жанчын у навуковыя ўстановы і на прадпрыемствы значна адстае ад намечаных плянаў. Не наладжана плянавае і сыстэматычнае прасоўваньне рабочых на вышэйшыя кваліфікацыі. Усе гэтыя факты служаць пэўным доказам шкоднасьці і хлусьлівасьці опортуністычных установак у пытаньні аб кадрах — доказам таго, што мы павінны і можам перамагчы і пераможам няўхільным выкананьнем дырэктыў партыі і гэту цяжкасьць.

Наша соцыялістычная гаспадарка — уласнасьць самога пролетарыяту; яе рост, разьвіцьцё і ўмацаваньне, ёсьць рост, разьвіцьцё і ўмацаваньне самога пролетарыяту і ізноў — палепшаньне матэрыяльнага і культурна-бытавога становішча пролетарыяту і ёсьць вынік і фактар соцыялістычнага будаўніцтва. Таму пролетарыят нашага Саюзу непасрэдна зацікаўлены ў соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасьці; таму організацыі пролетарыяту — профсаюзы—ва ўмовах соцыялістычнай рэконструкцыі ня могуць мець за сваю мэту выключна абарончыя функцыі, як іх ня могуць мець і органы пролетарскай дыктатуры — органы Наркампрацы; таму опортуністычным было старое кіраўніцтва ЎсеЦСПС з яго выключна трэд'юніёнісцкімі ўстаноўкамі і старое кіраўніцтва НКП СССР з яго выключна „абарончым“ законадаўствам. У той-жа час „левым“ ухілам, які мае сваёю крыніцаю контррэволюцыйны трацкізм, зьяўляецца лёзунг аб адмаўленьні профзаюзаў ад абарончых функцый ужо зараз, на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Дырэктывам партыі адпавядае толькі дыялектычнае адзінства абарончых і вытворчых задач профсаюзаў у соцыялістычнай вытворчасьці на даным этапе.

Новы этап разгортваецца ў новай абстаноўцы, якая патрабуе і работы па-новаму, але і зараз усё гэткай-жа пераважнай задачай зьяўляецца змаганьне на два фронты, супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, супроць „левых“ загібаў і права-„левых“ беспрынцыповых падгалоскаў усё таго-ж опортунізму. Новы этап патрабуе раней за ўсё выпрабаванай клясавай дбайнасьці пры вырашэньні вузлавых пытаньняў працы.

Правільнае вырашэньне гэтых пытаньняў згодна партыйным дырэктывам цалкам забясьпечыць далейшае стварэньне соцыялістычных адносін з боку рабочых да працы. Гэтыя адносіны ўжо выліваюцца ў пэўную форму, яны ўжо прадстаўляюць сабой элемэнты новай соцыяльна-эконамічнай, соцыялістычнай прыроды грамадзкіх суадносін. Таму, што разьвіваецца, соцыялістычнае працоўнае законадаўства павінна даваць і прававое выражэньне фактычна складзеным адносінам у вытворчасьці ў выніку дзейснага гаспадарча-палітычнага разьвіцьця на новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Л. Рудзіцкі

# Аб масавай рабоце саветаў

Ажыцьцяўленьне павароту саветаў тварам да вытворчасьці, да колгаснага будаўніцтва можа быць выканана толькі пры ўмове перабудовы масавай працы саветаў. Пасьпяхова вырашыць усе вялізарнейшыя і адказьнейшыя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду змогуць толькі тыя саветы, якія сапраўды па-бальшавіцку ўцягнуць у сваю працу шырокія колы рабочых, колгасьнікаў і пролетарскай інтэлігенцыі.

Як-жа неабходна конкрэтна паставіць пытаньне аб працы саветаў на даным этапе?

Застановімся на задачах перабудовы гарадзкіх саветаў, кіруючая роля якіх набывае зараз асаблівае значэньне. Гістарычная пастанова сьнежаньскага Пленуму ЦК УсеКП(б) падкрэсьліла адставаньне ў перабудове працы саветаў, „дапасоўваючы да патрабаваньняў пэрыоду соцыялістычнай рэконструкцыі". Гэтае адставаньне ў значнай ступені знайшло адбітак і ў працы гарадзкіх саветаў БССР. На прыкладзе працы Менскага Гарадзкога Савету старога складу можна ўбачыць сутнасьць такога адставаньня.

Зьяўляючыся кіраўніком асноўнага пролетарскага цэнтру БССР, Менскі Гарадзкі Савет ня змог стаць на чале ўзросшай актыўнасьці рабочае масы, у яго працы не знайшлі адбітку тыя формы масавага ахопу працоўных, якія больш шчыльна зьвязалі-б яго з ходам соцыялістычнага будаўніцтва. Дастаткова адзначыць, што на прадпрыемствах Менску ня было організавана *ніводнай* савецкай групы. Вельмі марудна праходзіла праца сэкцый савету; наглядаліся выпадкі, што яны зусім ня скліkaліся, альбо займаліся выпадковымі пытаньнямі. Надзвычайна слаба пастаўленая масавая праца прывяла да таго, што савет заставаўся ў баку ад барацьбы за выкананьне прамфінпляну на прадпрыемствах гор. Менску; нездавальняючай была праца і па раду іншых галін: жыльлёвае будаўніцтва адставала ад тэмпаў росту прамысловасьці. Савет дрэнна кіраваў працай коопэрацыі і справай рабочага забясьпечаньня, таксама нездавальняюча праходзіла праца па палепшаньню гарадзкога дабрабыту.

Гэта становішча працы Менскага Гарадзкога Савету знайшло бальшавіцкую ацэнку з боку ЦК КП(б)Б. У пастанове Бюро ЦК было падкрэсьлена, што „аднэй з важнейшых задач Гарсавету зьяўляецца разгортваньне масавай работы на прадпрыемствах і ўзмацненьне сувязі з шырокімі рабочымі масамі". І на сёнешні дзень гэта пастанова цалкам адыгрывае вялікае значэньне. Усякае разважаньне аб працы саветаў, якое *выключае* пытаньне аб організацыі *масавай савецкай ра-*

*боты,* па сутнасьці сваёй зьяўляецца опортуністычным. Ніводная задача соцыялістычнага будаўніцтва ня можа быць пасьпяхова вырашана па-за ўдзелам шырокіх мас, таму пытаньне аб *арганізацыйным ахопе* працоўных савецкай работай, пытаньне аб *формах* гэтага ахопу — зьяўляюцца першачарговымі пры вырашэньні і ажыцьцяўленьні тэй задачы, якая завецца паваротам саветаў тварам да вытворчасьці.

Асноўнай організацыйнай формай масавай савецкай работы на прадпрыемстве зьяўляецца *дэпутацкая група* (больш правільна называць яе *савецкай групай,* бо яна павінна аб'яднаць ня толькі дэпутатаў савету, але і савецкі актыў: нарзасядацеляў, членаў камсоду, членаў сэкцый і інш.). Савецкая група павінна зьявіцца тым галоўным зьвяном, за якое неабходна ўхапіцца пры перабудове масавай работы гарадзкіх саветаў.

Да апошняга часу ў многіх гарсаветах пытаньне стаяла такім чынам, што ўсю працу па ўцягненьню мас у савецкае будаўніцтва імкнуліся праводзіць выключна праз сэкцыі саветаў. Дзейнасьць сэкцый абмяжоўвалася выкананьнем рознага характару эпізодычных абсьледваньняў, у якіх прымалі ўдзел члены сэкцый, дэпутаты савету і нязначная колькасьць добраахвотнага актыву. Ахапіць сыстэматычным уплывам прадпрыемствы гораду, устанавіць правільныя ўзаемаадносіны паміж апошнімі і гарадзкім саветам, яго прэзыдыумам, аддзеламі і часткамі, дабіцца таго, каб савет на кожным заводзе і фабрыцы меў сваё організаванае ядро — сэкцыі не змаглі. Гэта не выпадкова: адыгрываючы значную ролю ў правядзеньні масавай працы, сэкцыі самі па сабе непасрэдна не змаглі прасякнуць сваім уплывам *усе* прадпрыемствы гораду і ўцягнуць у савецкую працу пераважную колькасьць перадавых рабочых. Гэта магчыма ажыцьцявіць толькі праз савецкія групы, якія, аб'яднаючы дэпутатаў савету і савецкі актыў кожнага прадпрыемства, павінны мобілізаваць *усіх рабочых* заводу, фабрыкі на выкананьне адказьнейшых задач рэконструкцыйнага пэрыоду.

Яшчэ да гэтага часу сустракаюцца „любомудры“, якія пярэчаць неабходнасьці організацыі савецкіх груп, мотывуючы гэта тым, што завадзкі камітэт сам правядзе ўсю масавую працу і, наогул, няма ніякай патрэбы мець на заводзе „лішні“ орган. У якасьці-ж самага „грунтоўнага“ аргумэнту, якім мотывуецца тэорыя непатрэбнасьці савецкіх груп, зьяўляецца ідэя так званага паралелізму, які абавязкова ўтворыцца на заводзе пры наяўнасьці заўкому і савецкай групы.

„А як будзе з кіраўніцтвам соцыялістычным спаборніцтва і ўдарніцтвам? А пытаньне шэфства над дзяржаўным апаратам, а контроль над зачыненым разьмеркавальнікам, ясьлямі?“ і г. д. і г. д. Шмат пытаньняў высоўваюцца, называецца рад галін працы, якімі „монопольна“ загадвае заўком на заводзе, дзе надзвычай слаба, альбо зусім няма ніякай масавай савецкай работы, дзе з боку кіраўніцтва, на жаль, сустракаецца самая адкрытая недаацэнка працы савецкай групы, прыкрываемая тэорыяй паралелізму, які нібы створыць „новы“ орган на заводзе.

Гэтыя таварышы не заўважаюць, па-першае, галоўнай чарваточынкі ў іх аргумэнтах з пералікам дзесяткаў галін працы, якімі заняты заўком; сапраўды, тут адразу і адчуваецца нейкае ненормальнае разбуханьне. Завадзкі камітэт заняты ўсім: ён заслухоўвае даклады аб выніках соцспаборніцтва і ўдарніцтва, аб падрыхтоўцы справаздачнай кампаніі гарсавету, аб працы камісіі садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту, аб працы ашчадкасы заводу, аб вытворча-таварыскім суду;

ён разглядае пытаньне аб жыльлёвых умовах рабочых, аб перабоях у забясьпечаньні зачыненага разьмеркавальніка гароднінай, аб вылучэньні брыгады для праверкі ўмоў працы соцыялістычных намесьнікаў у падшэфным наркамаце і г. д., і г. д. Якімі толькі пытаньнямі не перагружаны завадзкі камітэт. А члены і кандыдаты гарадзкога савету не арганізаваны, савецкая група фактычна не працуе; яна альбо перажывае зацяжны арганізацыйны пэрыод, альбо існуе... на паперы. Гэткае становішча зьяўляецца для многіх заводаў пройдзеным этапам, але трэба рашуча констатаваць, што значная колькасьць прадпрыемстваў БССР перажывае становішча, якое, мякка кажучы, не падобна да *ажыўленьня* масавай савецкай работы.

Вось некаторыя даныя з матэрыялаў Сакратарыяту Менскага Гарадзкога Савету аб становішчы работы савецкіх груп.

Друкарня „Сталіна". Было 3 паседжаньні саўгрупы. Партячэйка і заўком не ўдзяляюць дастатковай увагі ў дапамозе групе.

На Хлебзаводзе было 2 паседжаньні. Праца наладжваецца. (У чым конкрэтна — даных няма).

Фабрыка „Комунарка". Саўгрупа складзена першага мая. За ўвесь час было 2 паседжаньні, працуе слаба.

Завод „Комунар". Пад некаторым... нажымам інструктара ЦВК праца пачала разгортвацца, але недастаткова.

Завод „Полымя Рэволюцыі". Група не адчуваецца. Створана яна 25-га ліпня, да гэтага часу ня мае пляну работ.

Завод „Беларусь" (піваварны). Савецкая група ёсьць, але... яна нават не рэагуе на прарыў.

Дэпо таварнай. Было адно арганізацыйнае паседжаньне групы.

Завод „Чырвоны Хэмік". Было два паседжаньні — арганізацыйных.

На фабрыцы „Кастрычнік" на працягу двух месяцаў ня могуць вызначыць дзень для сходу групы, або назначаюць сход і адмяняюць яго.

Некалькі ілюстрацый аб цяжкасьцях арганізацыі савецкіх груп. На некаторых прадпрыемствах пры пастаноўцы інструктарамі гарсавету пытаньня аб неабходнасьці арганізацыі савецкай групы даваліся наступныя адказы: „гэта работа гарадзкога савету, у нас дзён для дэпутацкай групы няма". „Мы заняты прамфінплянам і няма часу займацца нейкай дэпутацкай групай".

Пералічаныя факты зьяўляюцца апошнімі данымі аб становішчы масавай савецкай работы на прадпрыемствах Менску, якія атрыманы намі 15-га верасьня г. г.

Па гэтых прыкладах дастаткова ўпэўніцца ў неабходнасьці шырокай сыстэматычнай пропаганды задач работы савецкіх груп, якія павінны стаць ударнымі масавымі органамі гарадзкіх саветаў на заводах і фабрыках БССР.

* * *

„Над разьвіцьцём арганізацыі саветаў і савецкай улады даводзіцца неаслабна працаваць", пісаў Ленін у 1918 годзе. „Ёсьць, казаў ён, дробна-буржуазная тэндэнцыя даператварэньня членаў саветаў у „парлямантарыяў", альбо, з другога боку, у бюрократаў. Змагацца з гэтым трэба, прыцягваючы *усіх членаў саветаў* да практычнага ўдзелу ў кіраўніцтве" [1]).

[1]) Ленін. Збор твораў, том 15, стар. 205.

Актуальнасьць і жыцьцёвасьць гэтай думкі правадыра не патрабуе асаблівых тлумачэньняў і ў сучасны пэрыод, калі мы вядзем работу па ўзмацненьню ролі саветаў і іх органаў, па перабудове старых форм масавай працы і адшуканьня новых.

Выступаючы 13 год таму назад супроць „дробна-буржуазных тэндэнцый“ у працы саветаў, Ленін заклікаў да наступнага: „Мэтай нашай зьяўляецца *пагалоўнае* прыцягненьне *бедныты* (падкрэсьлена Леніным) да практычнага ўдзелу ў кіраўніцтве, і ўсякія крокі да ажыцьцяўленьня гэтага—чым больш разнастайны, тым лепш—*павінны дакладна рэгістравацца, вывучацца, сыстэматызывацца, правярацца больш шырокім вопытам* (падкрэсьлена мною—Л. Р.).

Пастаноўка пытаньня аб ролі і месцы савецкай групы ў працы заводу сёньня зьяўляецца ўжо больш лёгкай чымся 8—10 месяцаў таму назад, калі задаваліся пытаньні накшталт: „а дзе мяжа паміж працай заўкому і савецкай групы“. І тады мы казалі і сёньня мы кажам: „ня шукайце нейкай спэцыяльнай мяжы,—перад заўкомамі і савецкімі групамі стаяць дзьве аднолькавыя *асноўныя* задачы—выкананьне прамфінпляну, прыцягненьне рабочых „да практычнага ўдзелу ў кіраўніцтве“ (Ленін), (не выключаючы іншых адказных абавязкаў заўкому, як нізавой профэсійнай ячэйкі).

Гэта самае палажэньне застаецца і на сёнешні дзень з тэй толькі розьніцай, што ў масавай працы саветаў зараз можна наглядаць „больш шырокі вопыт“, можна больш лёгка „праверыць“ *асаблівасьці* напрамку працы савецкіх груп.

Перад савецкай групай, як ужо адзначана, стаяць тыя-ж *асноўныя* задачы, што і перад усімі арганізацыямі заводу. Там, дзе група сапраўды ўключаецца ў барацьбу за прамфінплян, яна дабіваецца пэўных вынікаў, выкарыстоўваючы для гэтага *такія* магчымасьці, якія *маюцца* ў яе, як масавага органу гарадзкога савету.

Нам добра вядома, што склад гарадзкіх саветаў апошніх перавыбараў ахапіў значную частку лепшых ударнікаў з вытворчасьці, к таму вельмі дзіўным зьявілася-б запатрабаваньне, каб іх ініцыятыва па лініі соцспаборніцтва і ўдарніцтва залічаліся-б як абавязкова ідучая па лініі заўкому, альбо савецкай групы. Справа, бязумоўна, ня ў гэтым. *Справа ў рэальных дасягненьнях,* за якія адказвае ўвесь завод. А за працу кожнага заводу, які знаходзіцца на тэрыторыі гораду, абавязаны несьці адказнасьць і Савет Рабочых, Чырвонаармейскіх і Сялянскіх Дэпутатаў, бо ён тут зьяўляецца вышэйшым органам пролетарскай улады.

Якія магчымасьці мае савецкая група, як масавы орган гарадзкога савету пры правядзеньні таго альбо іншага мерапрыемства? Яна можа мобілізаваць праз савет для дапамогі свайму заводу другія прадпрыемствы і арганізацыі *ўсяго* гораду. Вось прыклад.

Улетку гэтага году Менскі шкляны завод „Пролетары“ стаяў пад пагрозай астаноўкі з прычыны недахопу бітага шкла, якое неабходна як сыравіна для вырабу новай продукцыі. Са дня на дзень чакалі прыбыцьця вагону шклянога бою. Вагон не прыбываў, патрэбны былі рашучыя мерапрыемствы. І вось завадзкія арганізацыі кінулі заклік рабочым, каб яны ў вольны час хадзілі па гораду і зьбіралі шкляны бой. Рабочыя актыўна адклікнуліся, збор быў праведзены, але вынікі гэтай працы былі-б *больш значнымі,* калі-б бітае шкло зьбіралі не распыленымі сіламі з выпадковым абходам двароў і заводаў. Замест гэткага саматужнага правядзеньня збору савецкая група заводу магла паставіць пытаньне аб недахопе сыравіны на прамысловай

сэкцыі Гарсавету і вельмі лёгка дабіцца *арганізаванай* здачы *усімі* прадпрыемствамі Менску непатрэбнага бітага шкла, якое было вельмі неабходна ў той час заводу „Пролетары". Савецкая група гуты павінна была і *магла* праявіць такую ініцыятыву, якая, бязумоўна, значна палегчыла-б становішча заводу, паскорыўшы ліквідацыю прарыву. Але, на жаль, дэпутаты Гарсавету, савецкі актыў гэтай ініцыятывы не праявілі, бо яны ня былі яшчэ арганізаваны як ударная брыгада Гарадзкога савету: на шкляным заводзе „Пролетары" ў той час не існавала савецкай групы.

На гэтым прыкладзе зусім відавочна, што так званая небясьпека паралелізму ў працы заўкому і савецкай групы, які нібы ўтворыцца ў час правядзеньня ўдарнай барацьбы за выкананьне прамфінпляну, ня мае пад сабою ніякіх падстаў. Наадварот, узаемны і цесны контакт у працы заводзкага камітэту і савецкай групы толькі дапаможа выкананьню прамфінпляну на заводзе. Неабходна, аднак, заўважыць аб магчымасьцях арганізацыйнай блітаніны ў працы завадзкога камітэту і савецкай групы; гэта, напрыклад, можа здарыцца ў выпадку ўмяшацельства апошняй у функцыі заўкому. Палажэньнем аб савецкіх групах прадугледжана такая магчымасьць і аб ёй маецца зусім яснае нядвухсэнсоўнае тлумачэньне:

„Дэпутацкія групы ўвязваюць сваю работу з мясцовымі грамадзкімі організацыямі (фабзаўмясцкомы, дабрахвотныя таварыствы) *шляхаў узгадненьня сваіх плянаў, ня ўмешваючыся ў непасрэдныя функцыі гэтых організацый* і падпарадкуючы сваю ўсю работу ажыцьцяўленьню задач, стаячых перад організацыямі данага заводу" (падкрэсьлена мною — Л. Р.).

Такім чынам, зусім не падмяняючы ў сваёй дзейнасьці іншыя органы заводу, савецкая група можа і павінна прымаць актыўны ўдзел у вытворчым жыцьці, у выкананьні якасных і колькасных паказчыкаў прамфінпляну, мобілізуючы вакол ударных задач усіх рабочых свайго заводу і прыцягваючы таксама праз гарадзкі савет для дапамогі і другія прадпрыемствы.

Гэтая новая форма сувязі заводаў, фабрык — тых вытворчых адзінак, якія цэмантуюць нашу пролетарскую дзяржаву, павінна — „дакладна рэгістравацца, вывучацца, сыстэматызавацпа, правяраццa больш шырокім вопытам, узаканяцца", як аб гэтым 13 год таму назад пісаў Ленін.

І вельмі цікава і надзвычай храктэрна адзначыць, што тыя геніяльныя думкі, якія ён выказаў у кароткіх тэзах, зараз з захапленьнем „рэгіструюцца і вывучаюцца" ня толькі людзьмі, якія спэцыяльна займаюцца савецкім будаўніцтвам, а таксама і пісьменьнікам, мастакамі слова.

13 год таму назад у „10-ці тэзах аб савецкай уладзе" Лінін пісаў, што саветы дадуць „цесную сувязь (і непасрэдную) з профэсіямі і з вытворчымі экономічнымі адзінкамі... гэтая цесная сувязь дасьць магчымасьць ажыцьцяўляць глыбокія соцыялістычныяператварэньні" [1]). Ён падкрэсьліваў там, што савецкія органы дадуць „магчымасьць адхіліць бюрократыю, абыйсьціся без яе", яны пакладуць „пачатак рэалізацыі гэтай магчымасьці" [2]).

Ленін прадбачыў гэта ў 1918 годзе, а вось у 1931 годзе пісьменьніца Марыэтта Шагінян у мастацка.напісаным нарысе дае малюнак

[1]) Ленін. Збор твораў, том 15, стар. 149.
[2]) Ленін. Збор твораў, том XV, стар. 159.

таго, як яна „адхіліла бюрократыю“, „абыйшлася без яе“ пры непасрэднай дапамозе дэпутацкай групы. Нарыс апісвае — „справу, якая была ў Харкаве“ (гл. газэту „Известия ЦИК СССР“ ад 13.VI-г. г.).

Ў чым заключалася гэта справа?

Для двух буйных, гідроцэнтраляй Каўказу—Дзорагэсу і Гізэль-Дону неабходна было дабіцца ад Харкаўскага электра-мэханічняга заводу (ХЭМЗ) выкананьня заказу на генэратары: ад іх залежаў лёс электрастанцыі: без генэратараў апошнія не маглі быць пушчаны ў тэрмін. Надзвычай прыгожа і вобразна апісвае Шагінян як яна ажыцьцявіла гэту справу. Дамо ёй слова, бо вытрымкі з яе апавяданьня зьяўляюцца лепшай яскравай ілюстрацыяй для вышэйпаказаных палажэньняў Леніна аб ролі саветаў і яго органаў.

У Маскве ў ВЭО (Усесаюзнае Электрааб‘яднаньне) тав. Шагінян катэгорычна адмовілі ў дапамозе.

„В Москве,—піша Шагінян,—говоря грубо, просто плюнули на это дело. ХЭМЗ имел обязательства поважнее, шла кампания по ускорению сдачи заказов двум великанам нашей пятилетки — Магнитострою Кузнецкострою. На заказы помельче в такую минуту крайнего напряжэния и заминки с оборудованием смотрели приблизительно как на щенят под ногами: „вы то еще чего путаетесь“.

Шагінян разумее, што ёй няма чаго чакаць дапамогі ад ВЭО, „трагически заткнувшего уши“. „Надо было действовать как-то помимо ВЭО, возглавляющего все наши электрозаводы в том чосле и ХЭМЗ“.

Шагінян рашуча „адхіляе бюрократыю“, якая выставіла перад ёю рад „непераможных“ довадаў; тут былі — і „формализм“, і „отписка“, і „об‘ективность“. Яна едзе ў Харкаў, зьвяртаецца за дапамогай у Гарадзкі Савет.

„В Горсовете с ответом не канючили. Вопрос сам по себе ясный: если для сдачи генераторов не приходится наносит ущерб ударным заказчикам Магнитострою и Кузнецкострою, а можно ускорить дело попутно, так пожалуйста. Решить-же, можно или нельзя, должен завод, и еще конкретнее — цех“.

Разам з інструктарам Гарсавету па дэпутацкіх групах Харкаву тав. Шагінян накіроўваецца на завод ХЭМЗ.

„В свем путешествии за генераторами я как бы спускалась с высокой лестницы, вниз, от главков, завов и замов — к расходяшимся, растворяющимся в масе низовым работникам: и как в детской игре, когда ищешь спрятанную вещь и тебе говорят „холодно“, если далека вещь, а потом, по мере поисков, „тепло“, „еще теплее“, „горячо“— характер и метод работы, интерес к ней и отношение к вам становилось все жарче и все действеннее, словно и впрямь приближалась я к искому предмету. Но и больше того *знание,* подлинное знание сути дела и обстоятельств, имеющихся вокруг дела, и реальных возможностей, и та степень бесстрашия и решительности, которая вызвана знанием и пониманием условий, все это усиливалось в людях по мере моего продвижения от главков к низовым работникам. Наверху ничего не детализовали; отказывали—без реального участия, резали по живому, как по бумаге; наверху очень многого попросту не знали, потому что верх сидит, сидит буквально и фигурально, статически и методологически, — выводы и цифры подводятся к нему готовыми. Но чем дальше вниз, тем больше *движения* входит в обязанность и характер работы. Инструктор — величина постоянно движущаяся; *инструктор по депутатским группам знает заводы, знает каждого депутата,*

*а з секретарями групп периодически совещается*"... (курсіў мой — Л. Р.).

Разам з інструктарам „спустившись" на завод праз сакратара дэпутацкай групы тав. Шыгінян даведалася аб тым, чаго *ня ведалі* „на версе" ў Электрааб'яднаньні. „Унізе" вырабам генэратараў для Дзорагэсу і Гізэль-Дону былі зацікаўлены даўно і менавіта па тэй прычыне, якая перапалохала „верх". ХЭМЗ ніколі раней не вырабляў генэратараў і таму *справай гонару* яго ўдарнага колектыву было выпусьціць першы генэратар. У цэху заказ затрымаўся з прычыны неабходнасьці асадзіць прыбыўшыя з Ленінграду балванкі вагаю ў 100 тон. Завод ХЭМЗ ня меў падыходзячай для гэтай справы печы.

„В цехе, — піша Шагінян, — нам сказали: „взялись бы ребята из паровозостоительного, там у них можно, осадили бы нам болванки — тогда плевое дело выпустить генератор".

Але кіраўніцтва паравозабудаўнічага заводу адмовіла — яны самі не пасьпявалі з сваёй працай, і тут апошнюю дапамогу т. Шагінян зноў аказаў масавы орган Гарадзкога Савету — дэпутацкая група. Аб гэтым органе ў апошніх радкох свайго нарысу Шагінян піша:

„Появление этого нового отростка власти на заводах вызывает к жизни и новую огромной важности общественную функцыю: *возможность двум и трем и нескольким заводам, в лице своих секретарей депутатских групп организовано сообщаться друг с другом*"... (падкрэсьлена Шагінян — Л. Р.)

Кузьнечны цэх паравозабудаўнічага заводу праз сакратара сваёй дэпутацкай групы згадзіўся асадзіць балванку, і заказ на генэратары быў выкананы

„Так, — канчае тав. Шагінян, — переходя от инстанции к инстанции, от связанных, нерешительных, малоосведомленных главков учреждений до веселых, сильных, до мелочи знающих суть своего дела рабочих — учитесь вы, в сущности не по книжке, а на фактах тому, кто есть хозяин страны нашей. А за таким хозяином и дело не пропадет!"

Вось як на справе можна яшчэ і яшчэ раз упэўніцца ў геніяльнай праўдзівасьці ленінскіх тэзаў аб тым, што саветы дадуць *„цесную сувязь"* (і нэпасрэдную) з профэсіямі і з вытвочымі экономічнымі адзінкамі"... Дадуць „магчымасьць адхіліць бюрократыю, абыйсьціся без яе; *пачатак рэалізацыі гэтай магчымасьці*".

* * *

Апошнія месяцы даюць шмат прыкладаў значнага павялічэньня ролі савецкіх груп у выкананьні прамфінпляну фабрык і заводаў. Замест ранейшых бесканцовых абсьледваньняў па даручэньню гарсавету; замест сыстэматычнага заслухоўваньня дакладаў ад розных організацый на розныя тэмы — многія савецкія групы сталі на шлях *непасрэднай організацыі* ўдарніцтва і конкрэтнай барацьбы з рознымі недахопамі.

Вось прыклады. Савецкая група Верхісецкага заводу ў гор. Сьвярдлоўску організавала вопытнае спальваньне апалу; у выніку гэтага вопыту атрымалася скарачэньне тэрміну абпальваньня з 21 дня да 17. Організаваўшы сыстэматычны контроль за сваячасовым выкананьнем заказаў для Магнітабуду, савецкая група дабілася таго, што заказы пачалі выконвацца на тыдзень раней тэрміну. Неабмяжоўваючы сваю працу выключна непасрэдным удзелам у вытворчым процэсе, група праводзіць на гэтым заводзе і інш. актуальныя мерапрыемствы. Так,

для забясьпечаньня заводу рабочай сілай ёю арганізавана 20 брыгад, якія праводзяць работу сярод жонак рабочых па ўцягненьню іх на вытворчасьць; для гэтай мэты організуюцца спэцыяльныя жаночыя сходы і індывідуальная вярбоўка.

Савецкія групы становяцца прыкладам у правядзеньні розных гаспадарчых і політычных мерапрыемстваў.

На сьвярдлоўскім чыгуначным вузьле кіраўнік савецкай групы службы цягі зьнізіў у сваёй брыгадзе расцэнку на 10 проц. і дабіўся поўнай ліквідацыі прарываў.

Савецкія групы на гэтым-жа вузьле, па-ўдарнаму ўключыўшыся ў дапамогу пасеўнай кампаніі, правялі наступнае: былі створаны сталыя контрольныя пасты, якія наглядалі на сваячасовай адпраўкай пасеўных грузаў. Праца гэтых пастоў выявіла рад фактаў несваячасовай адпраўкі грузаў на пасеўную і злачынных прастояў.

Савецкая група менскага заводу імя Варашылава выявіла надзвычай дрэннае становішча працы бюро рацыяналізацыі, якое затрымлівала прапановы рабочх месяцамі бяз усякай спробы іх рэалізацыі. Група дабілася зьняцьця кіраўніцтва бюро рацыяналізацыі і організавала брыгаду сьлесароў па афармленьню рабочых прапаноў. У выніку гэтай работы ў дзейнасьці бюро рацыяналізацыі заводу быў зроблен карэнны пералом. (З матэрыялаў сакратарыяту Менгарсавету.).

Вышэйпрыведзеныя намі прыклады работы савецкіх груп зьвязаны з кругам пытаньняў, якія ў асноўным могуць быць ахарактарызаваны назвай — вытворчыя пытаньні. Палажэньне аб савецкіх групах, пералічаючы задачы працы груп, гэтай галіне іх дзейнасьці аддае значную ўвагу.

„У задачы дэпутацкіх груп, гаворыцца ў палажэньні, уваходзіць: садзейнічаньне выкананьню вытворчых плянаў прадпрыемстваў і прыняцьце мер да больш хуткага правядзеньня іх у жыцьцё, а таксама павышэньне ролі савецкага актыву ў жыцьці вытворчасьці шляхам:

1. Прапрацоўкі прамфінпляну і мобілізацыі ўвагі савецкага актыву вакол яго выкананьня як у колькасных, так і якасных адносінах.

2. Павышэньне адказнасьці за якасьць выпускаемай продукцыі, за беражлівыя і акуратныя адносіны да машын, інструмантаў і за захаваньне працоўнай дысцыпліны.

3. Разгортваньне комуністычных форм працы“... і г. д. (гл. палажэньне аб савецкіх групах) [1]).

Акрамя гэтай адказнай і вялікай галіны працы савецкіх груп неабходна закрануць тыя пытаньні, якія могуць быць ахарактарызаваны, як пытаньні пераважна зьвязаныя з організацыйна-масавай работай па савецкаму будаўніцтву,

Возьмем некалькі прыкладаў. Як у нас часам праходзіць справаздачная кампанія гарадзкіх саветаў?, як вядзецца падрыхтоўка да гэтай кампаніі на заводах?, ці ажыцьцяўляецца контроль за выкананьнем наказу, ці ставіцца пытаньне аб адкліканьні такіх дэпутатаў савету, якія зьяўляюцца дэпутатамі на паперы, або, як гаворыць крылатае рабочае слаўцо „для трамваю“? (карыстаецца мандатам... выключна для бясплатнай язды, а як дэпутат нічога карыснага ня робіць).

У мінулую справаздачна-перавыбарчую кампанію па Менску за 6 дзён правядзеньня кампаніі сарвалася 28 сходаў.

---

[1]) „Палажэньне аб дэпутацкіх групах на прадпрыемствах гор. Менску“. Выд. Менгарсавету.

Што зьявілася аднэй з асноўных прычын гэтага зрыву? Амаль поўная адсутнасьць арганізацыйна-масавай работы па савецкаму будаўніцтву на заводах і фабрыках Менску.

Вось малюнак аднаго сходу па вытрымцы з артыкулу, зьмешчанага ў газэце „Зьвязда“ (№ 7 за 1931 г.).

„Сход рабочых будаўнікоў па справаздачы Менскага Гарадзкога Савету пачаўся позна. З 270 чал. сабралася ўсяго 160. Але-ж сход адкрылі. Слова атрымаў член Прэзыдыму Гарсавету тав. Кавалёў. Дакладчыку далі адну гадзіну. За гэты час дакладчык шмат гаварыў „наогул“, толькі не аб практычнай рабоце Савету. Па адным, а потым групамі пачынаюць кідаць сход... паўтары гадзіны гаварыў дакладчык аб тым, што мы маем дасягненьні вялізарных разьмераў, а што зроблена нічога не сказаў... у спрэчках выказваліся мала...“

Прыклады работы лепшых ударных заводаў паказваюць, чаго можна дабіцца пры добра пастаўленай працы савецкіх груп у час правядзеньня справаздачнай кампаніі савету.

Не гаворачы аб дакладнай падрыхтоўцы ўсіх так званых „дробязяй“, своячасовае паведамленьне рабочых аб месцы і часе справаздачнага сходу, падрыхтоўка выпуску насьценгазэты з артыкуламі аб працы дэпутатаў ад заводу і інш.— савецкія групы дабіваліся сапраўднага масавага ўдзелу ўсяго заводу ў кампаніі, дзякуючы сваёй мобілізаванасьці і ініцыятыве.

Як мы адзначылі, тут адыгрывала значэньне ўсё: і абвестка аб сходзе, якую піонэр своячасова ад імя групы прыносіў рабочаму на дом, а галоўнае — добрае разуменьне *палітычнага* сэнсу кампаніі. Справаздачны даклад падрыхтоўваўся „не наогул“, а з улікам усіх пытаньняў працы Гарсавету, якія цікавяць рабочых заводу. Савецкая група яшчэ да справаздачнага сходу праводзіла ў часе абедзеннага перапынку гутаркі з рабочымі аб працы Гарсавету. Тут ставіліся конкрэтныя пытаньні — і аб працы гарадзкога ЦРК, і аб не паладках з кватэрамі, і аб уцягненьні новых таварышоў у працу прамысловай сэкцыі і інш.

Савецкая група *павінна ведаць,* якія пытаньні больш усяго цікавяць рабочых, а на сход яе актыў павінен прыйсьці з конкрэтнымі вынікамі аб выкананьні наказу і дадаткаў да яго; неабходна таксама загадзя падрыхтаваць кароткія справаздачы дэпутатаў Савету ад заводу. Прадуманыя выступленьні членаў савецкай групы адыгрываюць вялікае значэньне ў час сходу, а добра праведзеная праверка выкананьня наказу з асьвятленьнем у дакладзе ўсіх конкрэтных дасягненьняў і недахопаў у працы савету садзейнічаць актыўнаму дзелавому прахаджэньню кампаніі пры масавым удзеле рабочых.

Згодна палажэньня, абавязкам савецкай групы зьяўляецца — „пастаноўка пытаньня перад выбаршчыкамі аб адкліканьні непрацаздольных дэпутатаў і членаў сэкцый“.

Трэба констатаваць, што выпадкі пасыўнага знаходжаньня ў складзе гарадзкога савету ня сталі яшчэ об'ектам сыстэматычнай барацьбы з гэтым адмоўным зьявішчам.

Яшчэ ў 1918 г. у „10 тэзах аб савецкай уладзе“ Ленін пісаў: „далейшае разьвіцьцё савецкай арганізацыі дзяржавы павінна састаяць у тым, каб *кожны член савету абавязкова нёс сталую работу па кіраваньню дзяржавай,* побач з удзелам у сходах савету“... [1]) Ленін

[1]) Ленін. Збор твораў, стар. 149

зазначаў — „Больш поўны дэмократызм (савецкай сыстэмы—Л. Р.) у сілу меншай формальнасьці, *большай лёгкасьці выбару і водзыву*“ [1]) (падкрэсьлена мной—Л. Р.).

Выкананьне адказьнейшай функцыі дэпутата гарадзкога савета патрабуе актыўнай работы як у савеце, так і на сваім прадпрыемстве. Вельмі часта сустракаюцца выпадкі загрузкі дэпутата іншай працай, якая фактычна зводзіць да нічога яго асноўны абавязак. Савецкая група, праводзячы сыстэматычны контроль за работай дэпутата, павінна дабівацца адпаведных умоў для ажыцьцяўленьня гэтай работы; за пасыўнасьць і непрацаздольнасьць дэпутата адказнасьць нясе ня толькі ён, а ўвесь склад савецкай групы.

Вельмі своечасова і сыстэматычна праводзімая праверка працы дэпутатаў, як асноўнай часткі савецкага актыву, зможа папярэдзіць адрыў іх ад выбаршчыкаў і дрэннае выкананьне імі сваіх абавязкаў, якое даволі часта залежыць не ад іх „злой волі“.

У абавязак савецкіх груп павінна ўвайсьці і дапамога ў рабоце раду нізавых завадзкіх організацый, як, напрыклад, касе ашчаднасьці, камісіі садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту, тварыска-вытворчаму суду і інш. Пры сталай і сыстэматычнай сувязі, якая будзе створана савецкай групай, паміж гэтымі організацыямі і адпаведнымі сэкцыямі савету (фінансавай, адміністрацыйна-прававой і інш.), магчыма будзе дабіцца яшчэ большага ўцягненьня рабочых мас у савецкае будаўніцтва.

Пачынаючы з вопыту працы ў нізавой ячэйцы ад вырашэньня пытаньняў жыцьця колектыву заводу, сыстэматычна выконваючы пасобныя заданьні сэкцый гарсавету, члены савецкай групы складуць значную частку таго пролетарскага ядра, якое замяняе і павінна яшчэ больш хутка замяніць бюрократаў і так званых „чыноўнікаў па профэсіі“.

Нам добра вядома, што формы бюрократычнага і проста шкодніцкага супраціўленьня клясава-варожых элемэнтаў, якія яшчэ маюцца ў нашым савецкім апараце, вельмі рознастайны. Шкоднік, нэпман у горадзе таксама шалёна змагаецца за месца для сваіх людзішак у савецкім апараце, як кулак на вёсцы—за склад сельсавету [2]). Таму, менавіта, і набывае надзвычай актуальны характар працы масавых органаў саветаў—сэкцый і дэпутацкіх груп—па аздараўленьню нашага дзяржаўнага апарату, за арабочаньне яго людзкога складу.

Яшчэ ў 1923 годзе, ставячы пытаньне аб тым: „якія элемэнты маюцца ў нас для стварэньня... сапраўды новага апарату, сапраўды заслугоўваючага назвы соцыялістычнага“, тав. Ленін даў адказ:— Толькі два. Па-першае, *рабочыя захопленыя барацьбой за соцыялізм...* Па-другое, элемэнты ведаў, асьветы, навучаньня, якіх у нас да сьмешнага мала па параўнаньню з усімі другімі дзяржавамі“ [3]) (падкрэсьлена мною—Л. Р.).

Больш 8-мі год прайшло з таго часу (4-га сакавіка 1923 году), як была выказана гэтая думка. Рабочая кляса Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, ідучы па ленінскаму шляху, дабілася значных посьпехаў у справе пабудовы новага савецкага апарату. Але *ня ўсё* яшчэ зроблена ў гэтай галіне, таму і сёньня, уздымаючы пытаньне аб працы саветаў, неабходна напомніць наступнае

---

[1]) Ленін. Збор твораў, том 15, стар. 148.

[2]) Аб формах клясавай барацьбы за склад сельсаветаў гл. наш артыкул у часопісу „Бальшавік Беларусі“, № 3 за 1931 г. пад назвай „Саветы і соцыялістычнае наступленьне.

[3]) Ленін. Збор твораў, том XVIII, стар. 117.

палажэньне, выказанае тады Ленінам: „Нам трэба ва што-б та ні стала паставіць сабе задачай для абнаўленьне нашага дзяржапарату: па-першае—вучыцца, па-другое—вучыцца і па-трэцяе—вучыцца і потым правяраць тое, каб навука ў нас не заставалася мёртвай літарай, альбо модным сказам".

Лепшай школай па ажыцьцяўленьню выказанай задачы павінны быць саветы і іх масавыя органы.

Прывядзем некаторыя факты з працы Харкаўскага Гарадзкога Савету, якія яскрава сьведчаць аб яго посьпехах, дасягнутых пры сапраўды бальшавіцкім правядзеньні пастаноў ЦК аб перабудове масавай работы савету.

Дэпутацкія брыгады і савецкі актыў на працягу аднаго месяца спагналі 1,5 мільёна нявыплачаных падаткаў з прыватнага сэктару; забясьпечана кватэрамі 1.100 рабочых сямей, дзякуючы аслабаненьню 24.000 квадратных мэтраў жыльлёвай плошчы ад непрацоўнага элемэнту, жыўшага ў коопэратыўных дамох; дэпутатамі выканана больш 20 тыс. розных індывідуальных заданьняў; брыгадамі савету сыстэматычна правяралася справа грамадзкага харчаваньня, праца зачыненых разьмеркавальнікаў, сталовых, складаў і інш.

Вельмі цікавымі зьяўляюцца некаторыя даныя аб зьменах у апараце самога Гарадзкога Савету. Так, тав. Сідараў у газэце „Известия ЦИК" № 113 за 31 г. піша:

„Составляя минимум платных консультантов в аппарате (весь платный аппарат сокращен до 40 проц.), секции используют для консультаций специалистов из депутатов совета и прикрепленных к секциям и бригадам студентов индустриальных, экономических, социально-культурных и прочих Вуз'ов и техникумов. *В настоящее время свыше 100 человек уже выделено ВУЗ'ами для работы в порядке основной общественной нагрузкі.* Эта нагрузка будет являться для них школой советского строительства".

Такімі зьяўляюцца прыклады з дасягненьняў работы Харкаўскага Гарадзкога Савету; на яго вопыце трэба вучыцца справе перабудовы масавай савецкай работы [1]).

* * *

Намі закрануты толькі *некаторыя* асноўныя пытаньні масавай работы саветаў. Спэцыяльнага вывучэньня і асьвятленьня зараз патрабуюць вялізарнейшыя задачы працы гарадзкіх саветаў па рэконструкцыі комунальнай гаспадаркі.

„Гарадзкія саветы, як органы пролетарскай улады ў гарадох, павінны перабудаваць сваю работу такім чынам, каб у кожную галіну гарадзкой гаспадаркі былі прыцягнуты да актыўнага ўдзелу ў рабоце ў першую чаргу дэпутаты... Партыйныя камітэты павінны аддаць больш увагі і дапамогі рабоце гарадзкіх саветаў... Рост гарадзкой гаспадаркі, новыя вялікія задачы, якія стаяць у гэтай галіне, патрабуюць узмацненьня гарадзкога савету як гаспадара, які адказвае за ўсе галіны гарадзкой гаспадаркі".

Гэтыя пастановы чэрвеньскага Пленуму ЦК нашай партыі будуць выкананы пры яшчэ большай консолідацыі сіл рабочае клясы і рашучай барацьбе пад кіраўніцтвам партыі з праявамі права-опортуністычнага самацёку і рознымі „лявацкімі" загібамі.

[1]) Глядзі газэту „Известия ЦИК СССР" № 113 за 1931 г., артыкул тав. Сідарава „Депутатская бригада в совете, депутатская группа на производстве".

**П. Пасюкевіч**

# Дысцыпліна — асноўны абавязак комуніста

„XVI Зьезд лічыць, што ЦК нашай партыі, сплачаючы рады ленінцаў для новых гістарычных боек, і надалей павінен даваць бязьлітасны адпор усім спробам хістаць і падрываць стальную партыйную дысцыпліну і адзінства ленінскай партыі".

Генэральная чыстка і праверка партыі значна аздаравіла і ўзмацніла рады партыі, садзейнічала росту ідэёвай згуртаванасьці і падвышэньню пачуцьця адказнасьці кожнага комуніста. Чыстка завастрыла ўвагу ўсіх сяброў партыі на тым, што патрабуе партыя ад кожнай парторганізацыі, ад кожнага члена партыі. Партыя дабілася вялізарных посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва, дзякуючы цьвёрдаму правядзеньню генэральнай лініі партыі, дзякуючы „бязьлітаснай і рашучай барацьбе на два фронты, супроць трацкістаў і прымірэнцаў да іх, супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і прымірэнцтва да правага ўхілу". У выніку чысткі партыя значна аслабанілася ад правых і „левых" опортуністаў і такім шляхам склала ўмовы для больш здаровай працы ў партыі, узмацніла партдысцыпліну, якую расхіствалі рознага роду опозыянэры.

Пытаньні рэконструкцыі і перабудовы сельскай гаспадаркі, падвышэньне опэрацыйнасьці і конкрэтнасьці ў партыйным і савецкім кіраўніцтве нізавымі зьвеньнямі савецкага апарату ў вёсцы выклікалі неабходнасьць зьліквідаваньня акруговых апаратаў і большага ўмацаваньня раённага (асноўнага) зьвяна савецкай сыстэмы. На ўмацаваньне раёнаў і сельсаветаў быў перакінуты акруговы актыў, былі праведзены спэцыяльныя мобілізацыі партыйнага і рабочага актыву для пасылкі ў вёскі, у колгасы, саўгасы, выклікаваны ў гэтым напрамку рух добраахвотніцтва (25-тысячнікі і г. д.). Процэс умацаваньня працаўнікамі і адпаведнымі кадрамі нізавых савецкіх зьвеньняў, колгасаў, саўгасаў, МТС будзе праходзіць і надалей,—гэта адзін з баявых participation участкаў, куды партыя пасылае комуністаў, гэта вучастак, дзе вядзецца жорстрая клясавая барацьба, фронт соцыялістычнага наступленьня на рэшткі капіталізму, перабудовы сельскай гаспадаркі ў напрамку суцэльнай колектывізацыі і на базе гэтага — ліквідацыя кулацтва, як клясы.

Мы зараз перажываем пэрыод соцыялістычнага наступленьня, пэрыод завяршэньня фундаманту соцыялістычнай экононікі, калі адбываецца перабудова ўсяе сельскае гаспадаркі на зусім новай соцыя-

лістычнай аснове і таму мэтоды нашай працы павінны быць адпаведна перабудаваны зусім па-новаму ва ўсіх партыйных, профэсіянальных і інш. арганізацыях.

Але перабудаваўшыся, мы павінны паставіць перад сабою пытаньне: якое асноўнае патрабаваньне мы прад'яўляем у сучасны момант кожнаму комуністу. У пэрыод грамадзянскай вайны комуніст правяраўся тым, ці ішоў ён са зброяй на фронт абараняць заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі. Зараз-жа ад члена партыі мы павінны патрабаваць вялізарнай *дысцыплінаванасьці*, ісьці працаваць на той вучастак, на які пасылае партыя. Тав. Яраслаўскі ў сваім дакладзе аб рабоце Партколегіі яскрава формуляваў гэтую думку: „пэрыод соцыялістычнага наступленьня, выклікаўшы перабудову ўсіх партыйных, профсаюзных і інш. організацый, патрабуе некаторай перабудовы і ў рабоце КК. Гэта перабудова павінна ісьці па лініі барацьбы за тэмпы, за якасьць працы ўсіх членаў партыі. Як у пэрыод грамадзянскай вайны—адданасьць комуніста справе партыі вымяралася яго гатоўнасьцю ва ўсякі час па прызыву партыі выступіць на фронт са зброяй у руках, дык зараз, у пэрыод соцыялістычнага наступленьня, неабходна патрабаваць ад кожнага члена партыі вялізарнай дысцыплінаванасьці, гатоўнасьці па прызыву партыі накіравацца ў любы раён на пасеўную, уборачную, сплаўную кампаніі, на ўмацаваньне транспорту, вугальнага фронту, хлеба-жывёла-хлопка-ільна-нарыхтоўкі, на ўмацаваньне раёнаў, на працу ў колгасе, саўгасе і г. д."

Вось гэтыя задачы выпускаюцца з увагі паасобнымі комуністамі. На падставе матэрыялу Партколегіі ЦКК КП(б)Б мы маем у сучасны момант рад фактаў парушэньняў партдысцыпліны паасобнымі членамі партыі, прычым факты парушэньня партдысцыпліны адбываюцца ў значнай меры па лініі адмаўленьня ці нежаданьня ехаць на работу ў раён, с/савет, саўгас, колгас, ці самавольна, бяз згоды парторганаў, пад тым ці іншым прадлогам комуністы пакідаюць работу.

Усё гэта выклікала неабходнасьць прыняцьця Партколегіяй ЦКК КП(б)Б спэцыяльнай пастановы „аб паасобных фактах парушэньня партдысцыпліны, зьвязаных з правядзеньнем мерапрыемстваў партыі па рабоце ў вёсцы". У большасьці такія факты парушэньня партыйнай дысцыпліны комуністамі прыводзяць да таго, што мясцовыя парторганы выключаюць іх з радоў партыі.

Якія мотывы прыводзяць т. т. у сваё апраўданьне, калі справы іх разглядаюцца ў ЦКК КП(б)Б. Мотывы гэтыя носяць розны характар, то па хваробе, то няўменьне працаваць, то непадыходзячая праца і г. д. У значнай меры гэтыя мотывы зьяўляюцца нягрунтоўнымі. Так, тав. Новікаў, пасланы на працу ў раён, проста ўцёк у горад і адтуль прыслаў ліст, што ў яго вялікая сям'я хворая і г. д. Замест таго, каб паставіць у РК пытаньне, скажам, аб матэрыяльнай дапамозе, ці наогул на абгаварэньне гэта пытаньне, ён бяз усякай згоды выехаў з раёну.

Круглікаў, з Клімавіцкага раёну, адмовіўся ехаць на працу ў раён, мотывуючы тым, што нібыта ён ня справіцца з данай яму работай і быў выключаны з партыі. Ён у ПК прызнаў свае памылкі, згадзіўся ехаць на працу ў раён. Ёсьць т. т., якія лічаць, што як-быццам на іх нейкае ганеньне, калі пасылаюць іх на нізавую працу.

Бірыла—Шацкай яч.—адмовіўся ехаць на працу ў колгас, прычым піша ў заяве: „чакаў, што яго выключаць і каб гэтым паказаць няправільныя адносіны да мяне"—у чым гэта няправільнасьць абгрунтаваць ніяк нельга. Ёсьць паасобныя рабочыя вылучэнцы-комуністы,

якія на прадпрыемстве ішлі ў першых радох ударнікаў, а на вёсцы адмовіліся працаваць—Голубева з Віцебскай парторганізацыі, Сьвярдлінскі—Бабруйскай організацыі і інш.

Бясспрэчна, умовы працы на вёсцы маюць сваю асаблівасьць і больш цяжкія. Аднак, партыя ня можа адмовіцца ад таго, каб не пасылаць на вёску перадавых пролетарыяў-комуністаў, каб яны мэтоды організацыі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, уцямленыя імі на практыцы на прадпрыемстве, не пераносілі ў саўгасы, колгасы і МТС. Партыя ў мэтах узмацненьня пролетарскага ўплыву і кіраўніцтва перабудовай сельскай гаспадаркай будзе пасылаць рабочых-ударнікаў комуністаў у якасьці кіраўнікоў саўгасаў, колгасаў і МТС. І дзіўна, калі т. т. пішуць у сваіх апэляцыях у ЦКК, што яны сваёй працай на прадпрыемстве дакажуць адданасьць партыі. Правільна, што на прадпрыемстве кожнаму члену партыі мы павінны прад'яўляць павышаныя патрабаваньні.

Нельга дапусьціць такіх выпадкаў, калі комуністы ва ўдарных брыгадах працуюць горш беспартыйных і зусім адвільваюць ад ударніцтва. Барацьба з гэткімі комуністамі таксама будзе жорсткая. Але адданасьць членаў партыі, іх дысцыплінавасьць павінны быць на ўсіх вучастках работы без выключэньня.

Тое-ж самае і ў даносінах колгасьнікаў-комуністаў. Раней мы падыходзілі да гэтага пытаньня ўмоўна, паколькі колгасны рух быў не такім шырокім. Зараз ад комуністаў, жывучых на вёсцы, патрабуецца ня толькі ўступленьне ў колгас, а актыўны ўдзел у колгасным будаўніцтве, быць застрэльшчыкам, знаходзіцца ў першых радох ударнікаў—зьяўляецца найпершым, і ў гэтых адносінах мы павінны быць патрабавальнымі.

Вось таму Партколегія ЦКК у сваёй пастанове „катэгорычна папярэджвае ўсіх членаў партыі, што выпадкі адмаўленьня ад паездкі на ўзмацненьне работы ў раёне, сельсавеце, колгасе, саўгасе і г. д., ці самавольныя выезды адтуль будуць разглядацца, як самае цяжкае партыйнае злачынства і пры выяўленьні злосных фактаў віноўныя будуць прыцягвацца да суровай партыйнай адказнасьці аж да выключэньня з партыі“.

Аднак, і ў гэтай справе мы не павінны станавіцца на шлях фармальнага вырашэньня пытаньня. Могуць быць мотывы, якія прымусіць тэй ці іншы таварыш, грунтоўнымі і яны заслугоўваюць увагі, а гэта вельмі часта забываюць паасобныя парторганы на мясцох (РК, РКК, ячэйкі). Формалізм і бюрократычны падыход часта выпірае пры разьвязваньні гэтых пытаньняў. Есьць факты, калі таварыша нават не выклікаюць, не пагутараць з ім, не падрыхтуюць яго, а так проста выносяць пастанову і кончана. А досыць часта сапраўды паасобныя таварышы пападаюць у цяжкае становішча і трэба толькі ўважліва выслухаць яго, каб даць яму савет, невялікую дапамогу і мы можам пазбыцца фактаў, якія прыводзяць да выключэньня з партыі. Пры такім падыходзе можна бачыць сапраўды мотывы, якія заслугоўваюць увагі ад простага адлыньваньня таго ці іншага таварыша працаваць.

Пры тэй клясавай барацьбе, якая зараз адбываецца ў вёсцы, асабліва пры правядзеньні раскулачваньня, часта паасобныя таварышы, пасланыя на працу ў вёску за сваю правільную лінію падвяргаюцца ўсякага роду кулацкім і падкулацкім агаворам, і калі парторганізацыі ня возьмуць пад абарону такіх таварышоў, не агародзяць іх ад такога роду нагавораў,—у іх складаецца думка, што іх ніхто не падтрымоўвае і гэта часта канчаецца тым, што таварышы пакідаюць сваю працу.

Асабліва неабходна патрабаваць ад *раённых контрольных камісій* чулага падыходу і мер папярэджваючых паступкі таго ці іншага камуніста. Контрольныя камісіі досыць часта называюць „совестью партии“. Але, калі чакаць пакуль той ці іншы таварыш не загіне (палітычна, як член партыі), дык якая-ж гэта будзе совесьць. Гонар мундзіру, гонар ні для кога не патрэбнага аўторытэту не дае магчымасьці часта адмяніць самім яўна няправільныя пастановы ў адносінах да таго ці іншага таварыша.

Праяўляючы вялізарную няўстойлівасьць, не дапускаючы расхлябанасьці ў організацыі, яе размагнічваньня, калі член партыі адлыньвае ад баявога заданьня, адначасова Парткомы і РайКК павінны прымяняць акрамя голага *адміністраваньня* і рэпрэсій перш за ўсё і выхаваўчыя меры. Асабліва папярэдняя падрыхтоўка і растлумачальная праца неабходна пры масавай пасылцы людзей. У такіх выпадках трэба так паставіць працу, каб выклікаць пэўны энтузыязм, рух добраахвотніцтва і шчырае жаданьне працаваць на баявых вучастках. Ды і кожная індывідуальная пасылка патрабуе поўнай падрыхтоўкі з боку РК і парт. ячэек. Партколегія ЦКК у сваёй пастанове „папярэджвае РК і РКК аб недапушчальнасьці формальна-бюрократычнага падыходу да справы т. т., што працуюць у вёсцы, праводзячы пры кожнай масавай пасылцы на работу ў вёску суадпаведную растлумачальную работу, самым уважлівым чынам падбіраць суадпаведна падыходзячых т. т., разглядаць мотывы адмаўленьня таго ці іншага таварыша ад паездкі ў раён (сяло, саўгас, колгас і інш.)“.

Асабліва неабходна рашуча выказацца супроць агіднага зачастую падыходу да рабочых-вылучэнцаў, 25-тысячнікаў, маладых кіраўнікоў колгасаў, МТС. Досыць часта, калі таварыш дапусьціў у сваёй працы якую-небудзь памылку, яго без дасканалага разгляду зьнімаюць з працы, пасылаюць назад на прадпрыемства, а іншы раз нават аддаюць пад суд. Такія выпадкі адбіваюць ахвоту ў другіх працаваць і запужваць іх. За такія факты ЦКК будзе сурова караць віноўных, зьнімаць з працы, ня гледзячы на асобы і на займаемыя пасады. У гэтых адносінах неабходна рашуча змагацца за ажыцьцяўленьне пастановы ЦКК УсеКП(б) па рабоце Партколегіі, у якой гаворыцца: „Садзейнічаць работай Партколегіі падняцьцю пачуцьця адказнасьці ў кіруючага складу працаўнікоў прамысловых і гаспадарчых прадпрыемстваў, маладых спэцыялістаў, кіраўнікоў колгасаў, саўгасаў і забясьпечыць ім умовы хутчэйшага аўладаньня імі тэхнікай вытворчасьці, правядзеньня адзінаначальля і пры разглядзе іх спраў дасканала правяраць у кожным асобным выпадку абвінаваўчыя матэрыялы, памятуючы, што адным з першых нашых абавязкаў у даны пэрыод зьяўляецца стварэньне і ўмацаваньне комуністычных кадраў“.

Пастанова Партколегіі ЦКК КП(б)Б мае на ўвазе, што як матэрыялы вынікаў чысткі партыі, так і практыка разгляду пэрсональных партыйных спраў у Партколегіі ЦКК пасьля чысткі, сьведчаць, што факты парушэньня партыйнай дысцыпліны і на сёнешні дзень складаюць адзін з найбольшых відаў партпраступкаў, ЦКК КП(б)Б лічыць гэта зусім недапушчальным зьявішчам і зварочвае асаблівую ўвагу РК, РКК, партячэек на неабходнасьць прыняцьця суадпаведных організацыйна-партыйных і выхаваўчых мер да ўзмацненьня партдысцыпліны ў парторганізацыі наогул, і на дакладнае і хуткае выкананьне даручэньняў і заданьняў парторганаў кожным комуністам у паасобку.

Толькі падпарадкуючы мэтам соцыялістычнага наступленьня ўсю сваю працу з тым, каб „забясьпечыць у далейшым баявыя бальша-

віцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва", вядучы рашучую барацьбу супроць усякага роду опортуністычных і нац-опортуністычных ухілаў і прымірэнцтва да іх, што падрываюць адзінства партыі і расхістваюць жалезную партыйную дысцыпліну, партыйныя організацыі на мясцох, падвышаючы партыйную дысцыпліну комуністаў на дзелавой працы сваіх організацый і пры сьмелым разгортваньні бальшавіцкай самакрытыкі, яшчэ ў большай меры згуртуюць і замацуюць сталёвае адзінства радоў партыі, для больш пасьпяховага разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва.

# МАТЭРЫЯЛЫ і ДОКУМЭНТЫ.

## Пастанова Савету Народных Камісарау БССР і ЦК КП(б)Б

### Аб комунальнай гаспадарцы.

Працоўныя гор. Менску, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дасягнулі раду посьпехаў у галіне паляпшэньня комунальнай гаспадаркі і дабрабыту гораду (пабудован трамвай, каналізацыя, рад вялікіх дамоў, пашырана электрычная сетка і вадазабесьпячэньне і г. д.), але сучаснае становішча комунальнай гаспадаркі і дабрабыту гор. Менску адстае ад шпаркіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і зьвязанага з гэтым росту культурных і матэрыяльных запатрабаваньняў працоўных мас.

На падставе пастановы чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) і выходзячы з таго, што паляпшэньне комунальнай гаспадаркі г. Менску—сталіцы БССР—патрабуе значна большай да сябе ўвагі, для зьнішчэньня недахопаў і рашучага паляпшэньня асобных галін яе ў адпаведнасьці з буйным ростам народнай гаспадаркі і насельніцтва гораду, Савет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць:

1. Абавязаць Менскі гарадзкі савет, Менскі гарком КП(б)Б і ўсе ведамствы закончыць на працягу 1931 г. вызначаную на гэты год програму жыльлёвага будаўніцтва.

2. Прапанаваць Менскаму гарадзкому савету і ўсім ведамствам на працягу аднэй дэкады вызначыць крыніцы фінансаваньня па кожным будаўніцтве, а Дзяржпляну ў той-жа тэрмін вызначыць патрэбныя матэрыялы для забесьпячэньня гэтага будаўніцтва.

Вызначыць на 1932 год пабудаваньне ў г. Менску 2.000 кватэр, з іх 50 проц. лёгкага стандартнага тыпу. Даручыць Менскаму гарадзкому савету НК Комунальнай Гаспадаркі і Дзяржпляну скласьці плян гэтага будаўніцтва, прадугледзеўшы яго фінансаваньне і забесьпячэньня матэрыяламі.

Лічыць мэтазгодным ужываньне практыкі надбудаваньня паверхаў дамоў. Даручыць гарсавету высьветліць тэхнічную магчымасьць надбудаваньня паверху асобна для кожнага дому і ўключыць гэта будаўніцтва ў плян.

3. Пры адводзе месц для новых пабудоў максымальна захоўваць жыльлёвы фонд. Знос жылых будынкаў рабіць кожны раз ня інакш, як па пастанове Менскага гарадзкога савету пры ўмове адводу ці адбудаваньня адпаведнай жылой плошчы.

4. Лічыць патрэбным організаваць у сыстэме Белжылсаюзу да 1 сьнежня 1931 году завод для вырабу стандартных дрыўляных дамоў. Прапанаваць Дзяржпляну разгледзець вытворчую програму гэтага

заводу, цалкам забясьпечыўшы яго абсталяваньнем і будаўнічымі матэрыяламі.

5. Даручыць ВСНГ арганізаваць (у першую чаргу праз сампрам-коопэрацыю) выраб скабяных і іншых частак для жыльлёвага будаўніцтва.

6. Абавязаць Менскі гарком КП(б)Б і Менскі гарадзкі савет да 1 лістапада г. г. скласьці і падаць у Дзяржплян праз НК Комунальнай Гаспадаркі рэальную програму пашырэньня існуючых прадпрыемстваў па вырабе мясцовых будаўнічых матэрыялаў (цэгла, кахля, плїткі, дрыўляныя і інш. часткі) і павялічэньне іх вытворчых програм, а таксама плян будаваньня і арганізацыі новых прадпрыемстваў, якія поўнасьцю і ў тэрмін забясьпечылі-б комунальнае і жыльлёвае будаўніцтва будаўнічымі матэрыялами і абсталяваньнем.

7. Абавязаць Менскі гарадзкі савет арганізаваць работы па рамонце старых дамоў з тым, каб на працягу двух год адрамантаваць увесь жыльлёвы фонд.

Даручыць Беллеспраму і Белжылсаюзу ўстанавіць такі парадак лесазагатовак для забесьпячэньня жыльлёвага будаўніцтва і рамонтных работ, каб даць магчымасьць жыльлёвай коопэрацыі весьці самалезагатоўкі.

8. Даручыць Менскаму гаркому КП(б)Б гарсавету і гарадзкому саюзу жыльлёвай коопэрацыі ўзмацніць працу жактаў г. Менску, наблізіць іх працу да жыхароў і ўстанавіць сапраўдную адказнасьць жактаў за захаваньне і рамонт жылой плошчы, за сваячасовае спагнаньне кватэрнай платы і разгортваньне коопэраваньня працоўных.

9. Прызнаць мэтазгодным арганізаваць у г. Менску асобны жыльлёвы трэст для кіраваньня дамамі комунальнага фонду.

10. Адзначаючы дрэннае гаспадарчае ўтрыманьне жыльлёвага фонду, які знаходзіцца пад загадам ведамстваў, абавязаць Менскі гарсавет устанавіць большы контроль за гаспадарчым утрыманьнем ведамствамі дамоў.

11. Абавязаць НК Комунальнай Гаспадаркі, Менскі гарсавет і Гарком КП(б)Б распрацаваць бюджэт жыльлёвай гаспадаркі з тым, каб забясьпечыць рамонт дамоў і да 1-га сьнежня г. г. падаць праз Дзяржплян на зацьвярджэньне СНК.

Даручыць Менскаму гарсавету на працягу 1932 году пабудаваць у гор. Менску адну гасьцініцу з абслугоўваючымі прадпрыемствамі ня менш як на 300 нумароў і да 1 студзеня 1932 году правесьці мерапрыемствы паказаныя ў арт. 13 пастановы СНК за 8 верасьня 1931 г. „Пра комунальную гаспадарку“ ў адносінах да існуючых гасьцініц.

13. Для большага ахопу абслугоўваньня працоўных г. Менску трамваем вызначыць на 1932 і 1933 гады пабудаваньне новых трамвайных ліній ня менш як на 15 клм. і ў паасобку, лініі на Ляхаўку, Сэрабранку і Кальварыю і другой лініі да Выстаўкі, для чаго:

а) Менскаму гарадзкому савету распрацаваць проекты пабудоў асобных маршрутаў; б) НК Комунальнай Гаспадаркі ўжыць захады да атрыманьня для г. Менску ў 1932 годзе ня менш 20 моторных вагонаў, 20 прычапных, 20 грузавых пляцформ, электравоз і 2 сьнегаачысьціцелі.

14. Для забесьпячэньня пабудовы трамваю патрэбнай колькасьцю рэек, слупоў, шпал даручыць Дзяржпляну і НК Комунальнае гаспадаркі прадугледзець у сваіх плянах на 1932 і 1933 г. задаволеньне заявак Менскага гарсавету на гэтыя матэрыялы.

15. Абавязаць Менскі гарсавет закончыць абсталяваньнем майстэрні і трамвайны парк, пачаць і пабудаваць да канца 1932 г. новы корпус трамвайнага парку.

16. Для пракладкі трамвайнай лініі на Козырава даручыць Упаўнаважанаму НК Шляхоў пры СНК БССР распрацаваць разам з Менскім гарсаветам проект пуцяправоду праз чыгунку на Сьвярдлоўскай вул. і пачаць ажыцьцяўленьне яго ў 1932 г.

17. Прапанаваць Дзяржпляну, Менскаму гаркому КП(б)Б і Гарсавету павялічыць аўтотранспорт г. Менску на працягу 1931-32 г. на 15 аўтобусаў, 40 грузавых машын, 15 легкавых, 3 лесавозы і 3 машыны для асэнізацыйнага абозу, а да канца 1932 г. пабудаваць гараж на 100 машын і давесьці колькасьць коняй гарадзкога транспорту да 300 адзінак.

18. Даручыць Галоўдартрансу і Аўторамснабу організаваць у г. Менску майстэрні для поўнага ахопу капітальным рамонтам аўтомашын і забесьпячэньня іх запаснымі часткамі.

19. Абавязаць Менскі гарсавет да 1932 году давесьці снабжэньне вадой гор. Менску да 10.000 кбм. у сярэднім у суткі, для чаго работы па пабудове Навінкаўскай станцыі праводзіць такім тэмпам, каб яны былі скончаны ў 1931 годзе.

20. Адзначыць, што Лесбелам ня выканана пастанова Эканомічнага Савету за 28-VII—31 г. аб організацыі вырабу дрыўляных труб на адным з сваіх заводаў, што пагражае зрывам пляну дабрабыту як г. Менску, так і іншых гарадоў.

Абавязаць Лесбел неадкладна выканаць гэту пастанову Экономсавету.

21. Даручыць НК Комунальнай Гаспадаркі дабіцца выкананьня адпаведнымі саюзнымі органамі заявак на абсталяваньне для новай помпавай станцыі.

22. Даручыць Менскаму гарсавету і Гаркому КП(б)Б распрацаваць плян каналізацыі для 1932-33 г. г. з такім разьлікам, каб ахапіць на 100 проц. дамаўладаньні і прамысловыя прадпрыемствы каналізацыйнай сеткай і ў першую чаргу каналізаваць Барысаўскі шлях і Ляхаўку.

23. Прапанаваць Дзяржпляну і НК Комунальнай гаспадаркі забясьпечыць каналізацыйныя работы ў г. Менску матэрыяламі, керамічнымі і чыгуначнымі трубамі, а ВСНГ організаваць выраб фасонных частак, патрэбных для пракладкі дрыўляных вадаправодных труб.

24. Выходзячы з таго, што пабудова новай цеплаэлектрацэнтралі ў г. Менску набывае выключнае значэньне і што вызначаны тэрмін для яе пабудаваньня да канца 1932 г. зьяўляецца баявой задачай Менскага гарсавету і гаспадарчых органаў, абавязаць Дзяржплян, ВСНГ, НК Працы і Менскі гарсавет узмацніць сваю ўвагу на будаўніцтва ЦЭЦ.

Даручыць Белэнэрга фарсаваць распрацоўку пляну спажыўцоў электраэнэргіі і цяпла, распрацаваць сетку для праводу колектараў электраэнэргіі і цяпла як у горадзе, так і для абслугоўваньня сельскай гаспадаркі, увязаўшы работы па пабудове ЦЭЦ з новым проектам плянаваньня гораду Менску і работамі па дабрабыце гораду.

Лічыць неабходным узьняць перад СНК СССР пытаньне аб уключэньні Менскай ЦЭЦ у сетку раённых станцый Саюзнага значэньня.

25. Прызнаць, што Менскі гарсавет праводзіць брукаваньне вуліц недапушчальна марруднымі тэмпамі.

Абавязаць Менскі гарсавет скласьці і падаць у Дзяржплян праз НК Комунальнай Гаспадаркі да 1 студзеня 1932 г. адзіны для г. Менску плян дарожнага будаўніцтва і рэконструкцыі маставых, праду-

глэдзіўшы плянам на 1932 і 1933 г. г. давядзеньня брукаваных вуліц у горадзе да 70 проц., для чаго прыступіць у 1931 г. да пабудовы клінкернага заводу магутнатьцю да 5 млн. клінкеру ў год і закончыць яго да другой палозы 1932 году.

26. Даручыць НК Комунальнай Гаспадаркі паставіць перад адпаведнымі саюзнымі органамі пытаньне аб завозе ў г. Менск асфальту ў 1932 і 1933 г. ня менш як на 4 клм. вуліц і тротуараў.

27. Прапанаваць Менскаму гарсавету ўжыць усе захады па заключэньні дагавароў з організацыямі, якія выробляюць брушчатку, на выраб і водпуск адпаведнай колькасьці брушчаткі.

Прапанаваць ВСНГ прыступіць да распрацоўкі Оўруцкіх масываў з тым, каб у 1932 і 1933 г. г. забясьпечыць выкананьне пляну брукаваньня брушчаткай вуліц ня менш 3 клм.

28. Даручыць Менскаму гарсавету ўзмацніць загатоўку булыжнага каменьня для маставых г. Менску, а Галоўдартрансу забясьпечыць дарожныя работы ў г. Менску мэханізацыяй. Даручыць Дзяржпляну ўстанавіць месца загатоўкі каменьня.

29. Прапанаваць Менскаму гарсавету скласьці і падаць у Дзяржплян праз НК Комунальнай Гаспадаркі проект пабудаваньня новых мастоў праз раку Сьвіслач, у паасобку ўключыць у плян 1932 г. пабудову жалезабэтоннага маста на Комунальнай вуліцы з тым, каб на ім быў і трамвайны рух.

30. Даручыць Менскаму гарсавету скласьці і падаць у Дзяржплян праз НК Комунальнай Гаспадаркі плян падземнай гаспадаркі г. Менску і абавязаць усе організацыі, якія маюць падземную гаспадарку і праводзяць падземныя работы, неадкладна прыводзіць у належны парадак раскапаныя вучасткі вуліц і тротуараў.

31. Для прывядзеньня р. Сьвіслач у санітарнае становішча, а таксама для папярэджаньня ад страт ад паводкі, даручыць Менскаму Гарсавету, Гаркому КП(б)Б і НК Зямляробства прыступіць да складаньня проекту рэгуляваньня р. Сьвіслач, прадугледзеўшы ў проекце пабудову ўзьбярэжнай выпрамленьня і ачыстку рэчышча, стварэньне рыбных сажалак (на поўдні ад Менску), абвадненьне палёў гародных гаспадарак і пабудову плацін для адводу вады ў часе паводкі. Складаньне проекту закончыць да 1 лютага 1932 г. з тым, каб вясною 1932 г. распачаць работы.

32. Адзначыць, што пастанова СНК „Аб санітарным становішчы г. Менску“ выконваецца дрэнна. Даручыць Прокурору Рэспублікі прыцягнуць вінаватых да адказнасьці.

33. Прапанаваць Менскаму гарсавету павялічыць асэнізацыйны абоз да 100 параконных бочак, абсталяваць для асэнізацыйнага абозу 3 аўтомашыны, пабудаваць да 1 лістапада г. г. 2 зьліўных пункты для нячыстот, распрацаваць проект пабудовы зьліўной станцыі па тыпе г. Масквы і пабудаваць у 1932 сьмецьцяспальваючую станцыю.

34. Прапанаваць Менскаму гарсавету закончыць у 1931 г. пабудаваньне мэханізаванай пральні, а таксама распрацаваць проект сеткі пральняў па жактах.

35. Прапанаваць Менскаму гарсавету закончыць на працягу 1932 г. распачатае будаўніцтва новай лазьні і павялічыць прапускную здольнасьць існуючых лазьняў і пральняў, забясьпечыўшы бесьперабойнае іх снабжэньне апалам і належным абсталяваньнем.

36. Даручыць Менскаму гарсавету і Беларускай Акадэміі Навук скласьці проект пабудовы парку па Барысаўскім шляху з такім разь-

лікам, каб будаўніцтва яго пачаць вясной 1932 г., правёўшы за зімовы час неабходныя падрыхтоўчыя работы.

Прапанаваць Менскаму гарсавету скласьці за зімовы час плян новага парку ў раёне Весялоўкі.

37. Катэгорычна забараніць вырубку зялёных насаджэньняў у г. Менску і яго ваколіцах.

Прапанаваць Менскаму гарсавету закласьці ў 1931 г. гадавальнік дрэў для зялёных насаджэньняў, распрацаваць плян пашырэньня сквэраў, садоў, зялёных зон у адпаведнасьці з новым плянам плянаваньня гораду.

38. Прапанаваць НК Комунальнай Гаспадаркі і Менскаму гарсавету ўжыць захады да таго, каб асноўны проект плянаваньня г. Менску быў скончан да тэрміну, вызначанага пастановай СНК і быў-бы забясьпечан усебаковай навуковай консультацыяй і абгаварэньнем проекту плянаваньня на рабочых сходах з удзелам інжынэраў і архітэктараў.

39. Прапанаваць Менскаму гарсавету пры адводзе вучасткаў пад будаўніцтва і зялёныя насаджэньні пры пераплянаваньні вуліц і пляцоў, правядзеньні каналізацыі, вадаправодных работ і інш. увязаць гэтыя мерапрыемствы з проектам новага плянаваньня г. Менску.

40. Даручыць Менскаму гарсавету правесьці падлік усяго дачнага фонду ў прыгарадным раёне, устанавіць і абвесьці дачныя зоны, вызначыць плян дачнага будаўніцтва з тым, каб да дачнага сэзону 1932 г. пабудаваць ня менш 300 дачных пакояў, прыцягнуўшы для гэтага сродкі органаў аховы здароўя, страхаваньня, а таксама прыцягваючы сродкі працоўных гораду для організацыі дачнага фонду на правох забудоўкі.

Даручыць Менскаму гарсавету і Гаркому КП(б)Б скончыць да другой паловы 1932 г. пабудовы Дому Ударніка.

41. Абавязаць Менскі гарсавет і Гарком на працягу 1932 г. пабудаваць 3 памяшканьні пад сямігодку, аслабаніць усе школьныя памяшканьні ад прыватных жыхароў, забясьпечыўшы санітарнае ўтрыманьне школьных будынкаў і нормальную работу школ, пашырыць сетку дзіцячых установ, пабудаваць памяшканьне для дзіцячага саду. Пры новым жыльлёвым будаўніцтве прадугледжваць абавязковую пабудову памяшканьня для ясьляй і дзіцячых дамоў.

Даручыць НК Асьветы прыступіць да пабудовы Дзяржаўнага тэатру ў г. Менску, а Белдзяржкіно—да пабудовы двух кінотэатраў.

42. Даручыць НК Аховы здароўя разам з Менскім гарсаветам распрацаваць плян новага будаўніцтва лекавых установ (больніц, амбуляторый, дыспансэраў і інш.), пабудовы ў першую чаргу тубэркулёзнага дыспансэра, рабочай амбуляторыі і двух ясьляй у рабочых раёнах, закончыўшы распачатае будаўніцтва дзіцячых ясьляй на прадпрыемствах.

43. Даручыць НК Снабжэньня і Белкоопсаюзу форсаваць работы па заканчэньні пабудовы фабрыкі кухні, раённай сталоўкі на Ляхаўцы, а таксама пабудаваць у 1932 г. адзін хлебазавод.

44. Абавязаць Менскі гарсавет узмацніць мэханізацыю пажарнай аховы ў горадзе, прыступіць да пабудовы ў г. г. аднаго пажарнага дэпо, вызначыўшы на мерапрыемствы па мэханізацыі пажарнай аховы і пабудове дэпо 300.000 рублёў, а таксама ўжыць захады да паляпшэньня ўмоў працы пажарных часьцей гораду.

45. Абавязаць упаўнаважанага НК Пошты і Тэлеграфу пры СНК БССР закончыць у 1931 г. пабудову і абсталяваньне аўтоматычнай тэлефоннай станцыі, Менскага радыёвузла і ўстанавіць тэлефонную

сувязь сельсаветаў гарадзкой мяжы з горадам, а таксама організаваць у 1932 годзе 6 раённых агенцтваў для лепшага абслугоўваньня працоўных гораду паштовай сувязьзю.

46. Улічваючы неабходнасьць укладаньня значных грашовых сродкаў для ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, прадугледжаных гэтай пастановай, даручыць Менскаму гаркому КП(б)Б і гарсавету неадкладна распрацаваць мерапрыемствы па ўзмацненьні фінансавай гаспадаркі г. Менску і ў паасобку па мобілізацыі ўнутраных грашовых рэсурсаў для гэтай мэты.

47. Даручыць Менскаму гарсавету і Дзяржпляну пры распрацоўцы другой пяцігодкі намеціць рад мерапрыемстваў па ўзмацненьні разьвіцьця ўсёй гаспадаркі г. Менску, асабліва прамысловасьці і абавязаць Менскі гарком КП(б)Б і гарсавет узмацніць сваю дзейнасьць у галіне прамысловага будаўніцтва.

48. ЦК КП(б)Б і СНК лічаць, што выкананьне ўсіх задач, прадугледжаных гэтаю пастановаю, патрабуе карэннага паляпшэньня работы ўсіх гарадзкіх організацый у галіне гарадзкой гаспадаркі і што ўся менская парторганізацыя і савецкія органы павінны мобілізаваць максымум сваёй увагі на выкананьне задач, пастаўленых пастановаю ЦК і СНК.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Шаранговіч.**

# Соцыялістычнае сумяшчэньне — вышэйшая форма шэфства рабочых над дзяржапаратам

**Ліст ЦК, ЦКК КП(б)Б і ЦСПСБ аб чарговых задачах па прыцягненьні рабочых мас да ўдзелу ў рабоце савецкага апарату, не адрываючы іх ад вытворчасьці**

*Усім гаркомам, райкомам і ячэйкам КП(б)Б, усім гарадзкім і раённым КК-РСІ, усім ЦП саюзаў, райпрофсаветам і ФЗМК*

1. Рашаючыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, на аснове генэральнай лініі партыі, і ў зьвязку з гэтым узросшая палітычная актыўнасьць працоўных, павышэньне іх культурнага ўзроўню, пераход на 7-мі гадзінны рабочы дзень — усё гэта стварае неабходныя ўмовы для рэалізацыі аднаго з важнейшых пунктаў програмы УсеКП(б)— „аб паступовым уцягненьні ўсяго працоўнага насельніцтва пагалоўна ў работу па кіраўніцтве дзяржавай“.

Разьвіцьцё шэфства над савецкім апаратам і асабліва соцсумяшчальнасьці, як вышэйшай ступені шэфства, разгорнутая работа сэкцый саветаў, організацыя дэпутацкіх груп, пераход ад чыста контрольных функцый шэфбрыгад да функцый кіраўнічых — усё гэта зьяўляецца буйнейшым крокам па шляху выкананьня ўказаньняў У. .. Леніна аб тым, што „мэтай нашай зьяўляецца дармовае выкананьне дзяржаўных абавязкаў кожным працоўным пасьля сканчэньня ім 8-мі гадзіннага ўроку вытворчай работы“.

XVI зьезд УсеКП(б) па дакладзе ЦКК НК-РСІ паказаў, што „аднэй з буйнейшых заваёў у галіне барацьбы з бюрократызмам зьяўляецца новая масавая форма рабочага контролю зьнізу — шэфства заводаў над савецкім апаратам і перадача рабочым выкананьня паасобных функцый дзяржапарату“.

ЦК, ЦКК КП(б)Б і ЦСПСБ надаюць вялізарнейшае палітычнае і практычнае значэньне таму масаваму руху рабочых, які разгарнуўся за апошні час у БССР, пад кіраўніцтвам органаў КК-РСІ, па ўзмацненьні штодзеннага пролетарскага контролю над работай савецкага апарату і непасрэдным выконваньні рабочымі раду дзяржаўных функцый ў якасьці соцнамесьнікаў, грамадзкіх інспэктароў, членаў сэкцый саветаў, не адрываючы іх ад вытворчасьці.

2. Адзначаючы наяўнасьць у БССР раду посьпехаў у справе ўцягненьня рабочых мас у работу дзяржапарату і барацьбу з бюрократызмам, як-та: удзел да 400 тысяч працоўных у чыстцы і праверцы савецкага апарату, стварэньне рабочага актыву вакол работы органаў Наркамснабу, НКФ, коопэрацыі, Наркам'юсту, удзел рабочых брыгадзіраў ва ўсіх важнейшых палітычна-гаспадарчых кампаніях,

унясеньне шэфскімі брыгадамі раду рацыяналізатарскіх прапаноў, шырокі ўдзел працоўных у штодзеннай рабоце органаў КК-РСІ,— адначасова з гэтым неабходна констатаваць, што пастанова ЦК і ЦКК УсеКП(б) ад 15 сакавіка 1930 г. „Аб організацыі контролю зьнізу і рабочым шэфстве“ ў БССР да гэтага часу яшчэ поўнасьцю ня выканана. Справе наладжваньня шэфскай работы, разгортваньня соцсумяшчальнасьці і масавай рабоце саветаў дагэтуль яшчэ аддаецца недапушчальна мала ўвагі з боку большасьці партыйных, комсамольскіх, профэсіянальных організацый, а таксама некаторых органаў КК-РСІ.

У выніку гэтага ў значнай колькасьці выпадкаў шэфства заводаў і фабрык над савецкімі ўстановамі ня рухаецца далей ўрачыстых вечароў, абяцаньняў і пасяджэньняў; само шэфства застаецца вядомым толькі вузкаму колу рабочых і не дае ніякіх практычных вынікаў (фабрыка „Кастрычнік“, завод „Комунар“, — Менск, акулярная фабрыка—Віцебск і г. д.).

3. Друк як цэнтральны, так асабліва і мясцовы (насьценгазэты, шматтыражкі) дагэтуль не аддае яшчэ выстарчальнай увагі пытаньню наладжваньня шэфства, соцсумяшчальнасьці, масавай рабоце саветаў, організацыі дэпутацкіх груп. Газэты ў сваёй большасьці яшчэ не мобілізавалі ўвагі рабселькораўскай масы на барацьбу за выкананьне гэтых важнейшых партыйных дырэктыў (за выключэньнем газэты „Рабочий“, якая правяла значную работу па масавым аглядзе і організацыі соцсумяшчальнасьці).

4. Практыка разгортваньня соцсумяшчальнасьці ў БССР паказвае, што на тых прадпрыемствах і ўстановах, дзе да організацыі гэтай справы падыйшлі досыць сур'ёзна і падрыхтавана (дакладнае вылучэньне пасад і кандыдатур для соцсумяшчэньня, аслабаненьне вылучаных ад іншых грамадзкіх нагрузак, складаньне каляндарных плянаў работы і г. д.)—там ужо першыя крокі соцсумяшчальнасьці далі зусім конкрэтныя і станоўчыя вынікі. Так, 7 сумяшчальнікаў—рабочых гуты „Пролетары“, якія ўжо самастойна працуюць у Наркамюсьце, даюць заключэньні па судовых справах, прымаюць наведвальнікаў, організуюць контроль за выкананьнем. Соцсумяшчальнікі гарбарні імя Лекерта ў Віцебскім гарсавеце правялі масавы агляд падрыхтоўкі школ да навучальнага году. Завод імя Варашылава—Менск—паслаў 10 лепшых ударнікаў у якасьці соцсумяшчальнікаў у апарат Белкоопсаюзу, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у перабудове коопэрацыі. У Гомелі рабочыя заводу імя Ланцуцкага значна дапамаглі ліквідацыі прарываў у выкананьні фінпляну ў падшэфным гарфінаддзеле.

ЦК, ЦКК КП(б)Б і ЦСПСБ лічаць неабходным праз друк, спэцыяльныя нарады-зьлёты і пераклічкі шырока распаўсюджваць той станоўчы вопыт, які ёсьць па соцсумяшчэньні як у БССР, так і ў іншых пролетарскіх цэнтрах Саюзу.

5. Гэта новая хваля рабочага контролю зьнізу над савецкім апаратам сустрэла ўпартае супраціўленьне клясавага ворага, бюрократа, чыноўніка, опортуніста, якія ня могуць мірыцца з прыходам у апарат новых атрадаў ударнікаў. Вынікам гэтага супраціўленьня зьяўляюцца факты скажэньня і апашленьня ідэі соцсумяшчэньня, даручэньне соцсумяшчальнікам тэхнічнай работы, або наадварот, запалохваньне іх адразу празьмернай адказнасьцю, загрузкай іх цыркулярамі, лічбамі, дыскрэдытацыі іх з першых-жа дзён работы, як нягодных работнікаў і г. д. (Менск—НКФ, Гомель—гарфа, Віцебск—гарсавет).

Замест організаванага моцнага адпору гэтым клясава-варожым вылазкам, некаторыя кіраўнікі ўстаноў, партыйных і профэсіянальных

організацый на мясцох недаацэньваюць політычнае значэньне гэтага пытаньня, пакідаюць справу соцсумяшчэньня і шэфства бяз усякага кіраўніцтва і спадзяюцца на самацёк.

6. Гарадзкія і сельскія саветы, зьяўляючыся аднымі з асноўнейшых каналаў, праз якія павінны быць уцягнуты дзесяткі і сотні тысяч рабочых, колгасьнікаў, служачых, жонак і дзяцей рабочых у справу непасрэднага ўдзелу ў рабоце савецкага апарату — да гэтага часу яшчэ не перабудавалі формы і мэтоды сваёй масавай работы, не прыстасавалі ўсёй сваёй організацыйнай структуры да забесьпячэньня выкананьня паказанай вышэй задачы—стаць організатарам мас.

Таксама дэпутацкія групы, як непасрэдныя прадстаўнікі савету на прадпрыемствах, у колгасе, саўгасе — дагэтуль яшчэ далёка ня ўсюды організаваны, а там, дзе яны ёсьць, не змаглі наладзіць работы, працуючы часта паралельна з іншымі організацыямі па адных і тых-жа пытаньнях.

Выходзячы з усяго гэтага, ЦК, ЦКК КП(б)Б і ЦСПСБ прапануюць усім партыйным і профэсіянальным організацыям узмацніць сваё штодзеннае кіраўніцтва работай па ўцягненьні шырокіх працоўных мас для непасрэднага ўдзелу ў рабоце савецкага апарату, не адрываючы іх ад вытворчасьці, пабудаваўшы гэту работу ў наступным напрамку:

### Шэфства над савецкім апаратам

Шэфства фабрык і заводаў над савецкімі ўстановамі павінна быць перабудавана ў напрамку: 1) узмацненьня пролетарскага контролю над усімі часткамі апарату і організацыі сыстэматычнага контролю над выкананьнем асноўных дырэктыў партыі і ўраду і 2) непасрэднага ўдзелу і дапамогі з боку рабочых у ліквідацыі тых прарываў, якія маюць месца ў падшэфнай ўстанове (па выкананьні фінпляну, пляну загатовак і г. д.).

Організацыйная форма шэфработы павінна быць перабудавана ў напрамку прымацаваньня паасобных цэхаў прадпрыемстваў да паасобных сэктароў установы, з аб'яднаньнем усёй работы ў цэнтральным штабе па шэфстве і ў сэктарох шэфства, якія павінны быць організаваны пры ФЗМК.

У падшэфных савецкіх установах павінны быць організаваны пры кожным сэктары камісіі садзейнасьці шэфству, якія-б пастаянна дапамагалі ва ўсёй рабоце цэхавым шэфбрыгадам.

Цэхавыя сходы рабочых павінны пэрыодычна заслухоўваць даклады кіраўнікоў падшэфных устаноў і садаклады шэфскай брыгады і соцсумяшчальнікаў, абраных ад гэтага цэху.

Цэхавыя шэфскія брыгады павінны сыстэматычна абнаўляцца і папаўняцца з тым, каб уцягнуць усіх рабочых данага заводу, цэху у шэфскую работу, адначасова захоўваючы і вядучы ўлік асноўнаму шэфактыву з рабочых, якія праяўляюць зацікаўленасьць і здольнасьць да работы па шэфстве.

Партыйныя камітэты, ячэйкі і органы КК-РСІ павінны дапамагаць наладжваньню шэфства на паасобных прадпрыемствах, сыстэматычна заслухоўваць даклады аб становішчы шэфства на тым ці іншым заводзе, установе, прыцягваючы да адказнасьці кіраўнікоў устаноў і грамадзкіх працаўнікоў, вінаватых у зрыве або ігнараваньні шэфскай работы, як за нядбайныя адносіны да важнейшых партый-

ных дырэктыў, адначасова ставячы рашуча пытаньне аб зьняцьці шэфства з тых заводаў і фабрык, якія не спраўляюцца з узятымі на сябе абавязкамі.

## Разгортваньне соцыялістычнага сумяшчэньня

Сацыялістычнае сумяшчэньне можа быць правільна пастаўлена пры захаваньні наступных умоў:

З боку грамадзкіх організацый прадпрыемстваў:

1. Уважлівы адбор кандыдатур соцсумясьціцеляў з лепшых рабочых ударнікаў, праявіўшых сябе на шэфрабоце, на аснове захоўваньня прынцыпу добраахвотнасьці.

2. Неадкладнае аслабаненьне абраных соцсумясьціцеляў ад усякай грамадзкай нагрузкі на прадпрыемстве.

3. Не адрывацца, не забываць вылучаных таварышоў у час іх работы, наадварот, аказваць ім штодзенную дапамогу, пэрыодычна заслухоўваць іх інформацыі.

З боку кіраўніцтва і грамадзкіх організацый савецкай ўстановы:

1. Складаньне каляндарных плянаў работы з кожным соцсумясьціцелем, прыстасоўваючы пляны да яго вольнага часу і выхадных дзён.

2. Дакладнае вызначэньне функцый, правоў і абавязкаў кожнага соцсумясьціцеля, аформленьне гэтага праз загад па ўстанове.

3. Недапушчэньне абязьлічкі ў рабоце з соцсумясьціцелямі і прымацаваньне кожнага з іх да пэўнага адказнага працаўніка.

4. Не перагружаючы сомсумяшчальнікаў канцылярскімі справамі, абежнікамі і лічбамі, дапамагчы ім сапраўды аўладаць тэхнікай работы данай ўстановы, для чаго практыкаваць сыстэму гутарак кіраўнікоў, організацыі спэцыяльных гурткоў, выпіскі часопісаў, пакупкі латаратуры або выдачы культпайку (у прыватнасьці рэкомэндаваць кіруючы часопіс органу ЦКК УсеКП(б) „За тэмпы, якасьць і праверку").

5. Уважлівыя адносіны да яго вольнага часу, які аддаецца рабочым на работу ў савецкім апараце, ні ў якім разе не перагружаючы яго за лік неабходнага адпачынку.

6. Аплачваць тыя выдаткі, якія соцсумяшчальнікі трацяць на трамвай і інш., забясьпечваць іх абедамі ў той час, калі яны, з-за работы ва ўстанове, трацяць свой абед на заводзе.

7. Рашуча змагацца з усякімі спробамі скажэньня ідэі соцсумяшчэньня, як-та: даручэньне рабочым тэхнічнай работы або перакладаньне на іх адразу ўсёй адказнасьці і г. д.

8. Папулярызацыя і поўнае выкананьне пастановы прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) ад 19 ліпня аб разгортваньні соцсумяшчэньня.

## Перабудова масавай работы саветаў

Асноўнымі задачамі і мэтодамі гэтай перабудовы павінны зьяўляцца:

1. Дабіцца максымальнага ўплыву сэкцыі савету на ўсю работу адпаведнага аддзелу, шляхам увядзеньня ў практыку складаньня аб'яднаных плянаў працы сэкцыі і аддзелаў, шляхам вылучэньня пастаянных брыгад са складу сэкцый па паасобных галінах дзейнасьці аддзелу, шляхам абраньня кіраўніка сэкцыі — рабочага ў якасьці соцнамесьніка да кіраўніка аддзелу, шляхам устанаўленьня пэрсанальнай адказнасьці кіраўніка аддзелу перад прэзыдыумам савету; дабіцца

наладжваньня работы сэкцый, паставіўшы сабе мэтай дасягнуць такога становішча, каб аддзелы зьявіліся, галоўным чынам, толькі выконваючым апаратам для сэкцыі, якая праводзіць усю асноўную, опэрацыйную і кіруючую работу па данай галіне дзейнасьці савету.

2. У мэтах дасягненьня большай дзейнасьці пастаноў усіх сэкцый устанавіць, як правіла, што ўсе пастановы сэкцыі савету абавязковы для неадкладнага выкананьня для ўсіх установ і прадпрыемстваў, падпарадкаваных данаму савету, без зацьвярджэньня іх прэзыдыумам. У тых выпадках, калі кіраўнік тэй ці іншай установы ня згодзен з пастановай сэкцыі, ён павінен у пэўна вызначаны тэрмін апротэставаць яе перад прэзыдыумам савету.

3. Для таго, каб організаваць сыстэматычны контроль за выкананьнем усіх пастаноў сэкцыі, аддзелу і прэзыдыуму савету па данай галіне гаспадаркі са складу сэкцыі вылучаецца пастаянная брыгада контролю за выкананьнем.

4. Для вядзеньня пастаяннай організацыйна-масавай работы з дэпутатамі савету, з савецкім актывам, жонкамі і дзецьмі рабочых, для інструктажу дэпутацкіх груп — лічыць неабходным організаваць пры Менскім, Віцебскім і Гомельскім саветах оргмасавыя аддзелы, а пры астатніх гарсаветах—оргмасавыя сэкцыі, якія павінны наладзіць вывучэньне якаснага складу дэпутатаў і савецкага актыву, улічваць іх нагрузкі і падбіраць кандыдатуры для розных мерапрыемстваў, праводзіць сыстэматычныя нарады, абмен вопытам, організоўваць соцспаборніцтва паміж паасобнымі сэкцыямі і дэпутацкімі групамі. Пры оргаддзелах і оргсэкцыях стварыць інстытут па-заштатных інспэктароў са складу дэпутатаў і савецкага актыву, якіх замацаваць для інструктажу і дапамогі да пэўных сэкцый і дэпутацкіх груп. Оргаддзелы і оргсэкцыі павінны організаваць пастаянны ўлік выкананьня наказаў выбаршчыкаў па паасобных прадпрыемствах, даводзячы да іх ведама вынікі выкананьня.

На оргмасавыя аддзелы і оргсэкцыі таксама ўскладаецца, як адна з важнейшых задач—сыстэматычная работа па ўцягненьні ў практычную дзейнасьць савету мясцовых нацменшасьцяй як дэпутатаў савету, так і наогул працоўнага насельніцтва.

5. У мэтах аб'яднаньня і популярызацыі ўсяго лепшага вопыту, які ёсьць у галіне савецкага будаўніцтва і організацыі консультацыі па пытаньнях марксыцка-ленінскай ўстаноўкі аб рабоце саветаў у пэрыод дыктатуры пролетарыяту, стварыць пры Гомельскім і Віцебскім гарсаветах габінэты савецкага будаўніцтва, шырока популярызаваўшы іх работу.

## Організацыя работы дэпутацкіх груп

Дэпутацкія групы павінны быць організаваны пры ўсіх буйнейшых фабрыках, заводах, саўгасах і колгасах і ахапіць сабою ўвесь савецкі актыў, які працуе ў данай установе (камісіі садзейнасьці дзяржкрэдыту, рэўкамісіі, праўленьні ЗРК, упаўнаважаныя страхкасы дэпутаты савету).

Дэпутацкія групы, як органы савету на прадпрыемствах, павінны паставіць сваёй галоўнай задачай барацьбу за выкананьне прамфінпляну і паляпшэньне культурна-бытавых умоў рабочых. Увязваючы свой плян работы з іншымі грамадзкімі організацыямі, дэпутацкая група павінна ўхапіцца толькі за некаторыя асноўныя і конкрэтныя пытаньні і самастойна давесьці іх да канца.

Усе мерапрыемствы, якія патрабуюць дапамогі савету, група праводзіць праз сваіх дэпутатаў, што працуюць у тэй ці іншай сэкцыі савету. Таксама савет усё неабходнае па даным прадпрыемстве (абсьледваньне, атрыманьне вестак, устанаўленьне пастоў) праводзіць праз дэпутацкія групы.

## Абраньне паасобных катэгорый савецкіх работнікаў

Аднэй з важнэйшых форм уцягненьня рабочых у кіраўніцтва сав. апарату зьяўляецца абраньне на рабочых сходах паасобных катэгорый сав. работнікаў, у першую чаргу такіх, як інспэктароў працы, соцыяльнага забесьпячэньня, гандлю, фінансавых, санітарных інспэктароў, работнікаў страхкас. Абраньне гэтых работнікаў робіцца на агульных сходах рабочых, якія зьвязаны з данай галіной работы, або проста на сходзе рабочых шэфствуючых заводаў (інспэктары працы выбіраюцца на конфэрэнцыях профсаюзаў, заг. аддз. гарсавету—на пленумах савету і г. д.).

## Па-за штатныя інспэктары і інструктары

Побач з сумяшчэньнем, як асноўнай формай, неабходна шырока распаўсюджваць практыку абраньня рабочых з падшэфных устаноў, альбо членаў сэкцый савету ў якасьці ўнештатных інспэктароў, інструктароў па пэўных галінах работы. Вопыт, які ёсьць у органах КК-РСІ па рабоце ўнештатных інспэктароў—цалкам сябе апраўдаў. Найбольш гэта форма прымяніма у такіх установах і аддзелах, якія зьвязаны з інспэктаваньнем, праверкай і інструктажам (орг. сэктар, контрольнаплянавае бюро і г. д.). З па-за штатнымі інспэктарамі трэба весьці пастаянную выхаваўчую работу і дапамагаць ім авалодаць тэхнікай работы.

Рабочыя вылучэнцы, пастаянна працуючыя ў апараце, павінны застацца ў цэнтры ўвагі як кіраўнікоў установы, гэтак і парт., проф., орг. Усе даныя раней дырэктывы ЦК і ЦКК-РСІ па пытаньні аб рабоце з вылучэнцамі павінны быць выкананы цалкам і поўнасьцю.

## Уцягненьне работніц і колгасьніц у работу дзяржапарату

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўцягненьне работніц, колгасьніц, жонак рабочых да непасрэднага ўдзелу ў рабоце савецкага апарату. У частцы паляпшэньня культурна-бытавых умоў працоўных па лініі саветаў работніцы і колгасьніцы павінны прыняць асабліва актыўны ўдзел. Указаньне Леніна аб неабходнасьці масавага прыцягненьня да кіраўніцтва дзяржавай і работы РСІ ўсіх працоўных і асабліва жанчын—павінна быць зараз рэальна ажыцьцёўлена.

## Задачы камітэтаў і ячэек КП(б)Б

Роля парт'ячэйкі як на прадпрыемстве, так і ў савецкай установе, павінна заключацца ў ажыцьцяўленьні пастаяннага сыстэматычнага кіраўніцтва і нагляду за выкананьнем гэтай важнейшай партыйнай дырэктывы аб прыцягненьні рабочых мас да ўдзелу ў рабоце савецкага апарату. Для гэтага неабходна весьці масавую політыка-выхаваўчую і растлумачальную работу сярод рабочых і служачых аб значэньні шэфства, соцсумяшчэньня, аб ролі саветаў у пэрыод дыкта-

туры пролетарыяту; пэрыодычна заслухоўваць даклады аб становішчы шэфства і соцсумяшчэньня, сваячасова выпраўляючы тыя прарывы і памылкі, якія дапускаюцца ў гэтай рабоце.

Парткамітэты і ячэйкі павінны асабліва пільна сачыць за недапушчэньнем скажэньняў і дзяляцтва ў гэтай рабоце, узьнімаючы яе ўвесь час на належную палітычную вышыню, як выключна важную палітычную работу і разглядаючы ўсякае адхіленьне ад гэтых дырэктыў, як праваапортуністычную недаацэнку ролі рабочых у кіраўніцтве дзяржавай і як ігнараваньне дырэктыў XVI зьезду УсеКП(б).

### Роля і задачы комсамольскіх організацый

Комсамольскія організацыі могуць і павінны адыграць вельмі важную ролю ў барацьбе за ажыцьцяўленьне гэтых дырэктыў. Вылучэньне соцсумяшчальнікаў з ліку ўдарнікаў з моладзі, узяцьце на комсамольскі буксір адстаючых па шэфстве фабрык і заводаў, організацыя атрадаў „лёгкай кавалерыі“ і мобілізацыя іх на барацьбу з бюрократызмам у савецкім апараце.

Райком і ячэйкі КСМ павінны зараз-жа выпрацаваць каляндарныя пляны свайго ўдзелу ў гэтай рабоце.

### Роля і задачы профсаюзных організацый

Як гэта паказана ў пастанове прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б), для профсаюзаў работа па ўцягненьні рабочых у кіраўніцтва дзяржавай „павінна зьявіцца асноўнай задачай“. Профсаюзныя організацыі павінны стаць штодзеннымі асноўнымі кіраўнікамі і організатарамі ўсёй гэтай работы на мясцох і ў першую чаргу адказваць за правільную яе пастаноўку.

Фабкомы на прадпрыемствах павінны праз сэктары шэфства над савецкім апаратам аказваць штодзенную дапамогу ў рабоце шэфскіх брыгад, падбіраць кандыдатуры кіраўнікоў брыгад, а таксама соцсумяшчальнікаў, аслабаняць іх ад іншай грамадзкай нагрузкі на прадпрыемстве, заслухоўваць індывідуальныя справаздачы выбраных таварышоў і даклады падшэфных устаноў аб рабоце з імі, уцягваць усю масу рабочых у шэф-работу, шляхам масавай пролетарскай дапамогі ў ліквідацыі прарываў у падшэфнай установе.

Організаваць дэпутацкую групу, дапамагаючы скласьці ёй плян працы, адвесьці пэўны дзень для работы і непасрэдна прыняць удзел у ёй.

Мясцкомы савецкіх устаноў павінны мобілізаваць усю масу служачых на аказаньне дапамогі шэфбрыгадам і соцсумяшчальнікам, сачыць за скарыстаньнем рабочых і стварэньнем для іх неабходных умоў, якія паказаны вышэй; організаваць выбары камісій садзейнасьці шэфству, пэрыодычна заслухоўваць даклады адказных работнікаў, да якіх прымацаваны соцсумяшчальнікі. Організаваць абраньне паасобных катэгорый савецкіх работнікаў.

ЦП саюзаў павінны сыстэматычна правяраць работу ў нізавых профячэйках у гэтым напрамку, зьбіраць саюзныя конфэрэнцыі па шэфстве і соцсумяшчэньні, організаваць пры ЦП саюзаў курсы для пэўных груп соцсумяшчальнікаў і шэфскага актыву, працуючых па аднэй галіне (фінансава-банкаўскіх устаноў, коопэрацыйных і г. д.).

На кіраўнікоў савецкіх устаноў ускладаецца пэрсональная і непасрэдная адказнасьць за работу з соцсумяшчальнікамі і стварэньні ўсіх неабходных нормальных умоў для іх работы, а таксама для дзейнасьці шэфбрыгад, незалежна ад прымацаваньня рабочых да пэўных

адказных работнікаў, кіраўнік павінен сам прасачыць за ўсёй гэтай работай і адказваць за ажыцьцяўленьне даных дырэктыў.

### Задачы цэнтральнага друку, шматтыражак і насьценгазэт

Цэнтральны друк павінен зьявіцца важнейшым арганізатарам і штурхачом ва ўсёй гэтай рабоце. Шырока асьвятляючы практыку паасобных колектываў, якія шэфствуюць, работу соцсумяшчальнікаў, масавую работу саветаў і дэпутацкіх груп—неабходна гэтым самым пераносіць станоўчы вопыт ва ўсе астатнія колектывы і адначасова перадаваць на старонках друку грамадзкаму ганьбаваньню ўсіх зрыўшчыкаў гэтай работы. Організуючы супольна з КК-РСІ об'яднаныя рабсельковаўскія рэйды, пераклічкі і г. д., друк павінен мобілізаваць увагу ўсёй масы рабселькораў на барацьбу за выкананьне дырэктывы партыі, аб ўцягненьні рабочых мас у кіраўніцтва дзяржавай.

Шматтыражкі і насьценгазэты павінны зрабіць адным з важнейшых аддзелаў у кожнай сваёй газэце—асьвятленьне практыкі свайго прадпрыемства і ўстановы па шэфстве, соцсумяшчэньні, па рабоце дэпутатаў саветаў і дэпутацкіх груп. Шматтыражкі прадпрыемстваў павінны ўсе артыкулы, якія характарызуюць работу савецкай установы, перасылаць у насьценгазэту апошняй і наадварот.

У прыватнасьці, лічыць неабходным, каб усе газэты БССР уключыліся ва ўсесаюзную пераклічку соцсумяшчальнікаў, якая праводзіцца зараз на старонках „Рабочей газеты“, „Нашай газеты“.

Белдзяржвыдавецтву організаваць выданьне масавай популярнай літаратуры па пытаньні шэфства, соцсумяшчэньня і перабудовы работы саветаў.

### Організацыйная роля органаў КК-РСІ

Органы КК-РСІ на мясцох павінны стаць на чале організацыі ўсёй работы па ўцягненьні рабочых мас ва ўдзел у працы савецкага апарату; дапамагаць наладжваць шэфства і соцсумяшчэньне па буйнейшых прадпрыемствах, прыцягваць шэфбрыгады і соцсумяшчальнікаў да ўсіх мерапрыемстваў, якія КК-РСІ праводзіць у падшэфнай установе. Організоўваць каротка-тэрміновыя курсы-нарады для шэфскага і савецкага актыву, заслухоўваць на прэзыдыуме КК-РСІ даклады паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў аб становішчы гэтай работы; узьнімаць пытаньні аб зьняцьці шэфства з тых прадпрыемстваў, якія не спраўляюцца з узятымі на сябе абавязкамі.

Адначасова з гэтым органы КК-РСІ павінны яшчэ больш узмацніць сваю работу па прыцягненьні самых шырокіх колаў працоўных да ўсёй штодзеннай работы, згуртаваўшы вакол сябе моцны актыў з па-за штатных інспэктароў, „лёгкай кавалерыі“, засядацеляў бюро скарг, жанчын-дэлегатак, рабочых-брыгадзіраў і г. д.

Гэту дырэктыву, а таксама пастанову прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) ад 19/VIII—абгаварыць на масавых рабочых сходах, сходах партыйных, комсамольскіх ячэек, нарадах шэфактыву і соцсумяшчальнікаў—пад кутом погляду вызначэньня далейшых мерапрыемстваў па барацьбе з бюрократызмам і ўцягненьня новых кадраў працоўных у непасрэдную работу савецкага апарату.

Сакратар ЦК КП(б)Б *Шаранговіч.*

Старшыня ЦКК КП(б)Б *Калнін.*

За старшыню ЦСПСБ *Кавалёў.*

# БІБЛІОГРАФІЯ

**І. Нікулін**

## Пропаведзь ураўнілаўкі пад шыльдай барацьбы за зьдзельшчыну

Х. А. Плятнэр—*„Зьдзельшчына ў колгасах“*. Выд. БДВ, Менск, 1931 г., стар. 100, цана 17 кап.

„Няма ніякіх сумненьняў, што колгасная зьдзельшчына зьяўляецца якраз тым зьвяном, ухапіўшыся за якое мы выцягваем і выцягнем увесь ланцуг мерапрыемстваў па пад'ёму вытворчасьці колгаснае працы“ (Перадавая газ. „Соц. Земледелие“ № 188). Гэта як-быццам дасканала ўразумеў сабе і аўтар ацэньваемай работы, лічачы менавіта зьдельшчыну асноўнай умовай організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў і прысьвяціўшы разгляду яе цэлых 100 старонак сваёй работы „Зьдзельшчына ў колгасах“. Але з першых-жа радкоў гэтай работы аўтар паказвае сваю поўную няпісьменнасьць як у трактуемым пытаньні, так і ў разуменьні пытаньня социяльнай прыроды і адзнакі на даным этапе колгасаў ад саўгасаў. Пачынаючы з адзначэньня зьдлельшчыны, аўтар не ўяўляе сабе прынцыповай розьніцы паміж зьдзельшчынай, як формай організацыі колгаснай працы, як адзінай формы, забясьпечваючай ўмову разьмеркаваньня колгасных даходаў выключна па працаднёх і зьдзельнай аплатай працы ў саўгасах і прамысловых прадпрыемствах.

Па думцы Плятнэра зьдзельшчына ў колгасах прадстаўляе сабой ня форму організацыі колгаснай працы, а „...прадстаўляе сабою адну з *форм аплаты (?) колектыўнае працы*“ (стар. 3), выходзячы з чаго аўтар на працягу 18 старонак стараецца нарысаваць малюнак перавагі ня зьдзельшчыны, як організацыі колгаснай працы, а зьдзельшчыны, як формы аплаты працы, упушчаючы пры гэтым зусім з віду тую „драбніцу“, што разьмеркаваньне ўраджаю ў колгасах па працаднёх і зьдзельная аплата працы ёсьць два прынцыпова розныя палажэньні, якія прадстаўляюць адзін з цэнтральных момантаў розьніцы на даным этапе паміж колгасамі і саўгасамі. Утоежсамліваньне гэтых 2-х палажэньняў ёсьць ня што іншае, як забыцьцё розьніцы, маючайся на даным этапе паміж саўгасамі і колгасамі, мэханічнае перанясеньне організацыйных форм саўгасу на колгасы, ад чаго асабліва папярэджваў ў сваім рашэньні XVI партзьезд, называючы антыленінскай усякую гэткую спробу.

Устаноўка-ж, што „...зьдзельшчына ставіць сабой такую форму *аплаты працы, пры якой аплачваецца* [1]) не рабочы час, а колькасьць і якасьць работы“ (стар. 15-16) рэзка падкрэсьліваецца некалькі разоў

[1]) Падкрэсьлена ўсюды намі—І. Н.

і чырвонай ніцьцю праходзіць праз усю яго работу як ва ўстанаўленьні нормы выпрацоўкі, так і ў самай сыстэме організацыі працы.

Пры ўстанаўленьні норм выпрацоўкі Плятнэр ніяк ня хоча ўразумець, што колгасьнік працуе не ў дзяржаўным прадпрыемстве, а ў сваёй колектыўнай гаспадарцы і што адсюль ня можа быць ніякай мовы аб устанаўленьні строга нормпіраванага 8-мі альбо 10-ці гадзіннага працадня; у яго-ж прыкладах, якія ён прыводзіць для пацьверджаньня выстаўляемых палажэньняў, чытаем: „Першы прыклад: падбіраньне бульбы пры капаньні. Праца аднесена да лёгкіх. *Норма выпрацоўкі 0,06 га ў 8 гадзін*“ (ст. 30) і ў другім месцы: „Возьмем якую-небудзь працу, напрыклад, узворваньне коньмі *з сярэдняй нормай выпрацоўкі 0,8 га за 8 гадзін*“ (стар. 52).

Ня кажучы ўжо аб тым, што ў першым выпадку процэс вылічэньня выпрацоўкі патрэбна было-б паказаць ня ў га, а ў цэнтнэрах сабранай бульбы, што зьяўляецца лепшым паказчыкам правільнага вучоту вынікаў прарабленай працы. У сваім вылічэньні пры ўстанаўленьні норм выпрацоўкі аўтар выходзіць ня з колгаснага працадня, а з 8-мі гадзіннага рабочага дня, прыраўноўваючы тым самым колгас да дзяржаўных прадпрыемстваў пасьлядоўна соцыялістычнага тыпу.

Ніводным словам на працягу ўсёй сваёй работы аўтар не абмовіўся аб прынцыповай розьніцы паміж колгаснай зьдзельшчынай і зьдзельнай аплатай працы, нават рэкомэндуючы браць прыклад з саўгасу, ня ўказвае на неабходнасьць вучоту соцыяльнай прыроды колгасу пры перанясеньні туды вопыту прымяненьня зьдзельшчыны ў саўгасах; ён указвае толькі на тое, што „суседнія колгасы і асабліва саўгасы і ў гэтых адносінах (увядзеньне зьдзельшчыны — І. Н.) могуць зрабіць значную дапамогу, асабліва, калі яны ўжо працуюць на прынцыпах *зьдзельнае аплаты працы*, а саўгасы зьдзельшчыну пачалі ўжываць ўжо даволі даўно“ (старонка 21), а калі ў саўгасах існуе ўжо зьдзельшчына, дык патрэбна ўводзіць яе мэханічна па вобразу і падобію саўгасу ў колгасах. Іншага вываду з плятнэраўскіх тлумачэньняў зрабіць ніяк нельга. Гэтае-ж палажэньне ён пацьвярджае і сваім азначэньнем норм выпрацоўкі, як „зьдзельнай расцэнкі работ“( стар. 16). Супроць такога мэханічнага зьмешваньня форм організацыі працы ў колгасах і саўгасах мы павінны павесьці рашучую барацьбу, чотка прытрымліваючыся ў гэтых адносінах ўстаноўкі, данай XVI партзьездам аб тым, што „Антыленінскай зьяўляецца ўсякая спроба перанясеньня на колгасы організацыйнай сыстэмы кіраваньня саўгасамі, бо ў адзнаку ад саўгасу, зьяўляючагася дзяржаўным прадпрыамствам, створаным на сродкі дзяржавы, колгас зьяўляецца дабраахвотным грамадзкім аб'яднаньнем сялян, створаным на сродкі самых сялян з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі“ (з рэзолюцыі XVI партзьезду).

Ня менш важнае месца ў рабоце Плятнэра па праву адведзена пытаньню аб індывідуальнай і групавой зьдзельшчыне. Зьдзельшчына і, на аснове яе, правільнае разьмеркаваньне даходаў зьяўляюцца асноўнай умовай організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, таму патрэбна знайсьці такую форму зьдзельшчыны, якая-б лепш за ўсё забясьпечвала рашэньне стаячай перад ёю задачы. Дасягнуць гэтага магчыма толькі тады, калі з задачамі замацаваньня колгасу будзе ўвязана асабістая зацікаўленасьць кожнага ў паасобку колгасьніка, што лепш за ўсё дасягаецца пры індывідуальнай зьдзельшчыне, дзе асабістыя інтарэсы колгасьніка лепш за ўсё злучаюцца з інтарэсамі ў сяе гаспадаркі ў цэлым. Гэтага становішча ніяк не хацеў ўразумець

Плятнэр, накіроўваючы ўсю сваю работу супроць індывідуальнай зьдзельшчыны.

Мотывамі няпрыгоднасьці індывідуальнай зьдзельшчыны Плятнэр высоўвае тое, што: 1) „... пры аднаасобнай зьдзельшчыне выкананьне асобных работ прыходзіцца падзяляць паміж паасобнымі выканаўцамі і пры прыёмцы ад кожнага прыдзецца прымаць і вымяраць, што значна ўскладняе гэтую справу“.

2) Наяўнасьць розных сродкаў вытворчасьці стварае такое становішча, што аднаму пападаюць добрыя сродкі вытворчасьці, а другому дрэнныя, ад чаго немагчымы правільны ўлік.

Адгэтуль „...Лепшым выхадам з гэтага становішча зьяўляецца пераход да групавое зьдзельшчыны“ (стар. 53), так як па думцы Плятнэра *толькі* ...„*групавая зьдзельшчына* стварае найлепшыя ўмовы для набыцьця навыкаў колектыўнае працы. Тут псыхолёгія аднаасобніка ператвараецца ў псыхолёгію колектывіста“ (стар. 55). Індывідуальная-ж зьдзельшчына, як ня спрыяючая росту колектыўных навыкаў, па думцы Плятнэра, павінна зжывацца.

Такое няпісьменнае тлумачэньне магло зьявіцца толькі ў выніку неразуменьня таго, што самы працэс нараджэньня псыхолёгіі колектывіста ажыцьцяўляецца ў сыстэме самой колгаснай вытворчасьці цалкам і індывідуальная зьдзельшчына, спрыяючы росту вытворчасьці працы і агульнаму замацаваньню колгасу, сумесна з соцыялістычнымі мэтодамі працы, зьяўляюцца асноўнымі паказчыкамі нараджэньня чалавека-колектывіста. Зразумела, штучнае прымяненьне зьдзельшчыны там, дзе яна можа прынесьці толькі шкоду, было-б недарэчнасьцю. Гэта асабліва падкрэсьліваў і т. Якаўлеў на чэрвеньскім пленуме ЦК, рэзка выступаючы супроць штучнага пераводу на індывідуальную зьдзельшчыну тых работ „...дзе тэхніка самой гаспадаркі не дазваляе таго, каб яе шырока прымяняць“ (Якаўлеў—Прамова на чэрвеньскім пленуме ЦК).

Але т. Якаўлеў тут-жа папярэджвае небясьпеку „замены брыгаднай зьдзельшчыны фактычнай ураўнілаўкай“, падкрэсьліваючы, што „...унутры груп паасобныя колгасьнікі атрымліваюць ня толькі ў суадпаведнасьці з колькасьцю, але і ў суадпаведнасьці з якасьцю прапрацы“. Плятнэр, замест таго, каб на вопыце лепшых колгасаў паказаць, як арганізаваць ўлік выпрацоўкі кожнага колгасьніка пры групавой зьдзельшчыне з тым, каб мобілізаваць колгасы на барацьбу з ураўнілаўкай і спрыяць павышэньню вытворчасьці індывідуальнай працы ў брыгадах і ўнядрэньню ў іх працу мэтодаў соцыялістычнай працы, орыентуе колгасы на самую звычайную ўраўнілаўку ўнутры брыгад.

Вось, што мы маем у яго рабоце па гэтаму пытаньню: „...калі ўся група выконвае аднолькавую работу, *усе члены гэтай групы атрымліваюць аднолькавую колькасьць працадзён*“ (стар. 59). „Напрыклад, піша далей Плятнэр, пры ўборцы аўсу рукамі група жанчын у 8 асоб зжала 10 га аўсу. Жніво аднесена да групы цяжкіх работ, дзе дзенная норма выпрацоўкі расцэнена ў 1,25 працадні, а норма выпрацоўкі ўстаноўлена 7 дзён на 1 га. Такім чынам, жніво 1 га аўсу ў працаднёх расцэньваецца ў 7×1,25=8,75 працадня. Усяго зжата 10 га, значыць, уся група выпрацавала 8,75×10=87,5 працадзён, а адна работніца, паколькі іх было 8, прапрацавала 87,5:8=10,9 працадня. Кожнай работніцы, такім чынам, гэта лічба і запісваецца для разьліку ў канцы году пры разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю“ (стар. 59). І далей робіць яшчэ адзін вывад „...калі на зьдзельшчыне

працуе цэлая група... дык колькі выпрацаваў кожны запісваць не патрэбна, а агульны лік прапрацаваных працадзён *дзеліцца паміж усімі пароўну, калі ўсе работнікі працавалі аднолькавы час*" (стар. 87). , гэткая зьдзельшчына, на аснове ўраўнілаўкі, па думцы Плятнэра, „...павінна ўсё больш і больш ужывацца ў практыцы колгаснага будаўніцтва".

Такое няпісьменнае разуменьне зьдзельшчыны патрабуе паставіць перад Плятнэрам пытаньне — пад чыю дудачку высьпеўваеце, т. Плятнэр, выступаючы супроць індывідуальнай зьдзельшчыны, якая па раду работ, дзе лёгка ажыцьцявіць яе ўвядзеньне (прапалка, вязка снапоў, церабленьне ільну ручным спосабам, уход за жывёлай, дойка кароў і інш.) дала надта добрыя вынікі і павінна, *бязумоўна, практыкавацца ў далейшым.* Пад чыю дудачку вы сьпяваеце, калі замест таго, каб паказаць вопыт прымяненьня індывідуальнай зьдзельшчыны на пералічаных работах, замест таго, каб паказаць парадак індывідуальнага падыходу да налічэньня працадзён у групах, заахвочваючы лепшых работнікаў, вы агітуеце за поўную ўраўнілаўку, „...калі ўсе работнікі працавалі аднолькавы час" (стар. 87) — ці не пад кулацкую?

Нельга абыйсьці і плятнэраўскага разуменьня пытаньня аб неабходнасьці ацэнкі выпрацоўкі ня ў грошах, а ў працаднёх. Па яго думцы, гэта вытвараецца таму, што, па-першае „...зараз расцэнка ў грошах забаронена" (стар. 23), але галоўнае таму, што ацэнка працы ў грошах прыводзіць да супроцьстаўленьня колгасьнікаў праўленьню. „У даным выпадку атрымліваецца ўражаньне, што ёсьць прадпрыемец (праўленьне колгасу) і работнікі (колгасьнікі), якія адзін аднаму супроцьставяцца. Колгасьнік работу выканаў, грошы павінны яму выплаціць, а *да ўсяго іншага яму справы мала*" (стар. 23). Значыцца, атрымліваецца, што ў саўгасах і ў нашых дзяржпрадпрыемствах, дзе няма разьмеркаваньня даходаў, а існуе аплата працы, там рабочы супроцьпастаўлен дырэкцыі саўгасу ці заводу, там, выходзіць, рабочаму да ўсяго іншага, акрамя сваёй зарплаты, няма ніякай справы.

Такое тлумачэньне нельга ацаніць інакш, як хлусьню на рабочую клясу, як неразуменьне ўсяе розьніцы, якая існуе паміж рабочым прадпрыемства капіталістычнага і прадпрыемства савецкага. Плятнэр не пастараўся да гэтага часу ўразумець сабе таго энтузыяму, той энэргіі, якую ўкладвае рабочая кляса ў нашых прадпрыемствах толькі таму, што гэтыя прадпрыемствы зьяўляюцца яго, рабочае клясы, уласнасьцю.

Тут магчыма было-б зрабіць і вынік, калі-б работа з такімі грубейшымі памылкамі была ў Плятнэра адзінай.

У канцы 1930 году Плятнэр прадставіў у Навукова-Дасьледчы Інстытут Соцыялістычнай Рэконструкцыі для заўваг і перадачы ў друк сваю работу „Вопыт дасьледваньня колгасаў БССР". НДІ не дапусьціў гэту работу да друкаваньня, як ідэолёгічна шкодную, даючую шкоднае тлумачэньне цэнтральных проблем колгаснага будаўніцтва, але на шырокі суд грамадзкасьці гэта работа вынесена ня была. Цяпер, калі Плятнэр выступіў з іншай поўнай памылак работай таксама па аднаму з актуальнейшых пытаньняў колгаснага будаўніцтва— організацыі працы, замоўкнуць аб той рабоце было-б няверным, бо памылкі работы „Зьдзельшчына ў колгасах" у большай меры азначаюцца злучнасьцю політычна шкодных установак у пытаньнях характарыстыкі становішча колгаснага руху, якую Плятнэр прыводзіць у рабоце „Вопыт дасьледваньня колгасаў БССР".

Поўнае няўменьне, у лепшым выпадку, зрабіць правільны аналіз лічбовага матэрыялу парадзіла ў аўтара данай работы цэлую сэрыю

політычна шкодных вывадаў па раду цэнтральных проблем колгаснага будаўніцтва.

Для аўтара, бязумоўна, нічога ня значыць устаноўка нашай партыі аб тым, што толькі колгасы і саўгасы забясьпечваюць умовы рацыянальнага скарыстаньня, у суадпаведнасьці з спэцыяльным напрамкам, і пашырэньня зямельнай плошчы. Па яго глыбокаму пераконаньню ў рэспубліцы, маючай асноўны напрамак малочна-ільняны і бульбяны, бульба і лён у колгасах скарочваюцца, а расьце плошча хмызьняку і лесу.

Вось што піша па гэтаму поваду сам Плятнэр: „Сад, як адзін з інтэнсыўных ужыткаў, дае павялічэньне разам са зьменай форм колгасаў ад ТСАЗ да комун. Бязупынна ў гэтым-жа напрамку павялічаецца плошча хмызьняку і лесу, адначасова з гэтым зьмяншаецца плошча пахаці. Усе іншыя ўжыткі не даюць правільных замен у сувязі з формай колгасаў, або застаюцца ў аднолькавай пропорцыі“ (стар. 33), і далей, на аснове табліцы аналізу разьмяшчэньня культур у паасобных відах гаспадаркі, аўтар робіць вывады аб тым, што ў колгасах мы наглядаем „...значнае скарачэньне прадзільных культур у колгасах у параўнаньні з сялянскай гаспадаркай... тлумачыцца можа недахопам у дасьледваным годзе ў колгасах сваіх працоўных рук“...

„Некалькі зьменшаны процант мы маем і ў адносінах культуры бульбы ў параўнаньні з сялянскай гаспадаркай“ (стар. 34).

Значыцца, вытворчасьць колгаснай працы паніжаецца са зьменай статутных форм ад ТСАЗ да комуны, што прыводзіць да зьніжэньня такіх працаёмкіх культур, як бульба і лён і таму з разгортваньнем колгаснага будаўніцтва, з пераходам на вышэйшыя формы мы павінны перайсьці ад інтэнсыўнай да экстэнсыўнай гаспадаркі, да замены ільну, бульбы і наогул пахаці хмызьняком і лесам, такава лёгіка Плятнэра.

Вывад сапраўды дасьціпны і самабытны. Ацаніць гэта, інакш як спробу тэорэтычнага абгрунтаваньня прышчэпаўшчыны тады, калі прышчэпаўшчына была ўжо выяўлена, ніяк нельга. Занадта, як відаць, моцная ў Плятнэра ідэолёгічная сувязь з мірам адкінутых і ў гэтай рабоце. Гэтая сувязь выявіла сябе ў поўным росквіту. Яшчэ больш жудасны вывад робіць аўтар па пытаньню забясьпечанасьці колгасаў сродкамі вытворчасьці. Па яго думцы, „Тэорэтычна разважаючы, разам з ростам разьмераў колгасаў трэба было чакаць і павялічэньня ўзброенасьці сродкамі вытворчасьці 1 працаўніка. У прыстасаваньні да дасьледваных колгасаў мы гэтага зазначыць ня можам. Тлумачэньня гэтаму трэба шукаць у неналаджанасьці яшчэ вытворчасьці колгасаў: з аднаго боку, тут магчыма чакаць у некаторых колгасах перагрузку некаторымі сродкамі вытворчасьці, дзякуючы няпоўнаму скарыстаньню іх і астачай нескарыстоўваемай дзяржаўнай маемасьці, якая засталася ад абшарнікаў. З другога боку, тут мажліва адбіваецца і недаўкомплектаванасьць у колгасах людзкога складу“. Але як-бы то ня было, нашы колгасы маюць перагрузку ў сродках вытворчасьці і няма цяпер зусім ніякай патрэбы ў іх тэхнічным пераўзброеньні, бо нават маючыяся сродкі колгас ня мае магчымасьці скарыстаць поўнасьцю. Акрамя таго, у колгасах мы маем недаўкомплектаванасьць рабочае сілы, а адсюль аўтар ні ў першай, ні ў другой рабоце ні словам не абмовіўся аб неабходнасьці выдзяленьня рабочай сілы для разгортваючайся прамысловасьці.

Не застанаўліваючыся на ўсіх шкодных політычных памылках Плятнэра, якімі багата яго работа, патрэбна яшчэ ўказаць на характарыстыку соцыяльнага зьместу колгасаў. На стар. 18-й Плятнэр піша аб тым, што „цяга ў колгасы ў першую чаргу была сярод

іншых соцыяльных груп насельніцтва“, а ўнутры колгасу процэс аграмаджаньня ідзе ў бок узросту прыватнага сэктару ня толькі ў маемасьці, але ў частцы сродкаў вытворчасьці. „Старыя комунары, піша Плятнэр, амаль па ўсіх групах колгасьнікаў маюць ў прыватным карыстаньні большую колькасьць як асноўных сродкаў вытворчасьці, так і ўсяе маемасьці, што тлумачыцца, мусіць, лепшай пастаноўкай у іх справы з тымі галінамі гаспадаркі, якія не абагулены, а таксама большымі запасамі продуктаў і грошай, якія наогул усё-ж нязначныя“.

І ўрэшце, пытаньне вырашэньня нацыянальнай проблемы. Ва ўсялякай рабоце, аналізуючай процэс соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі БССР, як нацыянальнай рэспублікі, гэта пытаньне павінна займаць адно з цэнтральных месц. У рабоце Плятнэра гэта пытаньне ня толькі абойдзена, але ён зьвёў яго да таго, што асноўная маса яўрэйскага насельніцтва, ідучага ў колгасы, складаецца з непрацоўнага элемэнту, галоўным чынам, гандляроў.

„Прыліў непрацоўнага элемэнту ў колгасы быў у 1922/25 годзе, калі разам з НЭП'ам коопэрацыя пачала выцясьняць гандляроў з прыватнага рынку, і самы большы з 1928 году“. Ня кажучы ўжо аб няпісьменнасьці характарыстыкі паказанага пэрыоду, патрэбна падкрэсьліць толькі тое паказаньне аўтара, якое ён у зносцы прыводзіць для характарыстыкі прыведзенай цытаты. „Даная праслойка (непрацоўнага элемэнту—І. Н.) амаль выключна складаецца з насельніцтва яўрэйскай нацыянальнасьці“. Гэтай антысэміцкай характарыстыкай аўтар вычэрпвае ўсю нацыянальную проблему ў рэспубліцы, маючай найбольш, чым дзе-небудзь ў іншым месцы, нацыянальнасьцяй і дзе з прычыны гэтага нацыянальная проблема адыгрывае вялізарнейшую ролю.

Вывад магчыма зрабіць той, што калі праца „Зьдзельшчына ў колгасах“ мае „толькі“ грубейшыя палітычныя памылкі, дык праца „Вопыт дасьледваньня колгасаў БССР“ характарызуе аўтара, як маючага азначанае палітычна шкоднае разуменьне асноўных проблем соцыяльнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, што пацьвярджаецца наяўнасьцю ў аўтара раду работ эпохі панаваньня Прышчэпава і Гарэцкага. Да такіх можна аднесьці хоць-бы „Аб уплыве суб'ектаў апросу на матэрыялы падворных экспэдыцыйных досьледаў сельскае гаспадаркі“ (часопіс „Сельская і Лясная гаспадарка“ № 2, кн. 5, 1928 г.) і „Рахунковасьць ў сельскіх гаспадарках“ (таксама № 2, кн. 3, 1927 г.).

Сэрыя прыведзеных работ аўтара, маючых напрамак чужды пролетарскай палітыцы, тлумачэньне пытаньняў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі ўказвае на тое, што памылкі гэтых работ не выпадковыя, што аўтар мае азначаны сьветапогляд у гэтым пытаньні. А ў той-жа самы час ён зьяўляецца доцэнтам па арганізацыі гаспадаркі б. Горацкай С.-Г. Акадэміі. Сэктару кадраў НКЗ неабходна заняцца гэтым пытаньнем у першую чаргу.

У адносінах работ Плятнэра неабходна сказаць, што НДІ соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі зусім правільна зрабіў, што не дапусьціў да друкаваньня работу „Вопыт дасьледваньня колгасаў БССР“. Два артыкулы 1927-28 г. выняты разам з часопісам— „Сельская і Лясная гаспадарка БССР“.

„Зьдзельшчына ў колгасах“, як маючая грубейшыя памылкі ў актуальнейшых пытаньнях колгаснага будаўніцтва, організацыі працы, павінна быць таксама вынята.

## ДАДАТАК ДА КОНФЭРЭНЦЫІ

**для паступаючых у асьпіранты Інстытуту Гісторыі Партыі пры ЦК КП(б)Б.**

1. Навукова-праверачная конфэрэнцыя склікаецца з 1 па 25 сьнежня.

2. Задачай конфэрэнцыі зьяўляецца:

а) суміраваць маючыяся веды ў паступаючых;

б) праверыць, наколькі кандыдатура паступаючага прыгодна для залічэньня ў асьпіранты Інстытуту.

3. На конфэрэнцыі прапрацоўваюцца наступныя тэмы:

1) Ленінская тэорыя імпэрыялізму.

2) Марксыцка-ленінская тэорыя кляс, клясавага змаганьня, рэволюцыі і дзяржавы.

3) Нацыянальна-колёніяльнае пытаньне.

4) Бальшавізм у рэволюцыі 1905 г.

5) Ад лютага да Кастрычніка (партыя ў пэрыод перарастаньня дэмокр.-рэв. у соцыялістычную).

4. Кожны ўдзельнік конфэрэнцыі павінен выступіць ня менш 3-х разоў па аднэй тэме, па выбару прадставіць кароткія тэзы.

*Увага:* Якасны ўлік вядзецца кіраўнікам, а колькасны старастай групы.

5. На падставе ацэнак кіраўнікоў даецца агульная акадэмічная характарыстыка паступаючых, якая служыць падставай для вырашэньня Праўленьнем Інстытуту пытаньня аб залічэньні ў асьпіранты.

6. Канчаткова зацьвярджаецца кандыдатура сакратарыятам ЦК.

Дадатак: Літаратура да конфэрэнцыі.

Нам. Дырэктара Інстытуту Гісторыі Партыі
пры ЦК КП(б)Б *Поташ.*

## ЛІТАРАТУРА

да ўсіх тэм. Таварышам, якія падалі заявы і дапушчаны да конфэрэнцыі, рэкомэндуецца прачытаць:

Ленін — „Что такое друзья народа и как они воюют против с.-д."
„Что делать".
„Две тактики в дем. рев.".
„Империализм как новейший этап капитализма".
„Государство и рэволюция".
„Детская болезнь левизны", XIX т., 1 выд. (арт. па нац. пытаньню).
Сталін — „Вопросы ленинизма" (навейш. выд.) „Марксизм и нац. вопрос".
Пакроўскі — „Русская история в самом сжатом очерке", ч. I, II і III.
„Марксизм и особенности исторического развития России".
Бубноў — „История ВКП(б)".

Да паасобных тэм: **Папярэдняя літаратура:**

*Да пертай тэмы:*

Ленін — „Империализм". Прадмова да нямецкага і францускага выданьня, т. XIX, выд. 2.
Ленін — „Из речи на VIII с'езде о партийной программе", т. XVI, стар. 112—116. выд. 1922 г.
Ленін — т. XXI, стар. 185—188, 304—310, выд. 2.
Сталін — „О законе неравномерного развития". З дакладаў на XV конфэрэнцыі і VII пленуме ІККІ.
Гільфэрдзінг — „Финансовый капитал", гл. 11, 12, 13, 14, 22.
Бухарын — „Мировое хозяйство и империализм". З прадмовай Леніна, выд. 4, ГІЗ'а.
Ленін — „Заметки на экономику переходного периода", XI зборнік, стар. 350-351, 376—378.
Гільфэрдзінг — „Гл. 8, 9, 10, 13, 15, 20, 21, 22, 23, 24, 25.
Дыскусія на XV конфэрэнцыі і VII пленуме ІККІ „О законе неравномерного развития".
Дыскусія па програмных пытаньнях на VI конгрэсе Комінтэрна о „финансовой политике и империализме".
Бухарын — „Империализм и накопление капитала", гл. 4.

*Да другой тэмы:*

Энгельс — „Антидюринг", аддз. 2, гл. 2, 3, і 4, аддз. III, гл. 1, 2, 5.
Энгельс — „Происхождение семьи, частной собственности и государства".
Маркс — Предисловие к критике политэкономии".
Энгельс — „Положение рабочего класса в Англии". Прадмова і ўводны артыкул.
Энгельс — „Л. Фейербах, гл 4.
Маркс — „Письмо к Вейдемейру от 5/III-1852 г.".
Маркс — „Капитал", т. III, ч. 2, гл. 52.
Ленін — „О либеральном и марксистском понимании классовой борьбы", т. XII, ч. 2.
Ленін — „Великий почин", т. XVI, стар. 248-249.
Ленін — „Партитанская война", т. VII, ч. 2.
Ленін — „О нашей революции", т. XVIII, ч. 1.
Ленін — „Марксизм и восстание", т. XVI, ч. 2.
Ленін — „Что делать", т. IV, гл. 2.
Ленін — „О диктатуре пролетариата", Ленінскі зборнік III.
Сталін — „Вопросы ленинизма", гл. I.
Сталін — „Речь на апрельском пленуме ЦК"—у 1929 г.
Сталін — „Речь на конференции аграрников-марксистов".

Сталін — „Ответ колхозникам".
Сталін — „Вопросы свердловцев и ответ т. Сталина".
Маркс — „18 брюмера".
Маркс і Энгельс — „Коммунистический манифест".
Ленін — „Государство и революция". „Пролетарская революция и ренегат Каутский".
Пашуканіс і Разумоўскі — „Новейшия открытия К. Каутского".

*Да трэцяй тэмы:*

Маркс і Энгельс — „Письма", 3 выд. пад рэд. Адоратскага, № 13, 36, 56, 58, 59.
Маркс — Артыкулы з „Новой рейнской газеты" (спрэчкі па польскаму пытаньню, Вэнгрыя 1849 г. нацыянальныя рэвалюцыі) у зборн. „Маркс и Энгельс в эпоху немецкой революции", Інстытут Маркса—Энгельса.
Ленін — „Национальный вопрос в нашей программе", т. IV, (стар. выд.), т. V (новае выд.).
Ленін — „Критические заметки по национальному вопросу", т. XIX (стар. выд.) т. XVIII (нов.).
Ленін — „О праве наций на самоопределение" (стар. выд.), т. XIX.
Ленін — „Социалистическая революция и право наций на самоопределение". „Итоги дискуссии о самоопределении", т. XIX (стар. выд.).
Ленін — „О брошуре Юниуса", т. XX, ч. I.
Ленін — „Письмо к Шаумяну", т. XX, ч. I.
Ленін — „О национальной гордости великороссов", т. XIX (стар. выд.).
Ленін — „Революционный пролетариат и право наций на самоопределение", т. XVIII (нов. выд.).
Ленін — „Карикатура на марксизм", § 5, т. VIII (стар. выд.).
Ленін — „О рождающемся направлении „импер"-эклектизма" — „Большевик" 1929 г. № 15.
Красавіцкая конфэрэнцыя 1917 г., спрэчкі, стар. 129—143. III Ленінскі Зборнік, стар. 481—487 (як вытваралася выпрацоўка пункту па нацыянальнаму пытаньню ў праграме ВКП).
VIII зьезд партыі, прамова Леніна, т. XIX (стар. выд.) і прамовы Бухарына, Пятакова, протоколы зьезду.
Ленін — „Первоначальный набросок тезисов по национальному вопросу и доклад на II конгрессе", т. XIX (стар. выд.), т. XXV (нов.).
Ленін — „Письмо к коммунистам Грузии", т. XVI, ч. I (стар. выд.).
Сталін — „Марксизм и национальный вопрос" (брошура альбо ў зборніку „Марксизм и национ. проблемы").
Сталін — „Октябрьский переворот и национальный вопрос" (у зборніку).
Сталін — „Об основах ленинизма", гл. VI.
Сталін — „Даклад на X зьезьдзе і рэзолюцыя па дакладу".
Сталін — Даклад на XII зьезьдзе і рэзолюцыя па дакладу.
Сталін — Політсправаздача XVI зьезду, ч. I, даклады і рэзолюцыі (уводзіны і ч. 1).
Тэзы і рэзолюцыі VI конгрэсу аб рэвалюцыйным руху ў колёніяльных і паўколёніяльных краінах. Бауэр, Рэннер і Медзем — артыкулы ў зборніку — „Марксизм и национальный вопрос".
Рэзолюцыя Брусельскага конгрэсу II інтэрнацыяналу аб колёніяльным пытаньні. Перадрук. „В помощь партучебе". выд. МК.
Тэзы аб імпэрыялізьме і нацыянальным прыгнечаньні польскай соцыял-дэмократыі. Дадатак да тв. Леніна, т. XIX (стар. выд.).
Тэзы Бухарына і Пятакова аб нацыянальным „самоопределении". Зборн. „Революция и национальный вопрос". „Очерки по истории Октябрьской революции".
Бухарын — „Мирове хозяйство и империализм", т. V.
Бухарын — „Теория организационной хозяйственности" „Правда" ад 26 мая і 30 чэрвеня 1929 г.

ЛЕНІН:

*Да чацьвертай тэмы:*

1. „Две тактики социал-демократии в демократической революции", творы Леніна, т. VIII.
2. „Социал-демократия и Временное революционное правительство", т. VII.
3. „Картина Временного революционного правительства", т. VII.
4. „Этапы, направление и перспективы революции", т. VIII.
5. „Цель борьбы пролетариата в нашей революции", т. XVI.
6. „Исторический смысл внутрипартийной борьбы в Росии", т. XV.
7. „Сущность аграрного вопроса в России", т. XV.
8. „Аграрная программа с.-д. в русской революции", т. XI.
9. Заключнае слова па аграрнаму пытаньню на IV зьезьдзе. Узяць першыя дзьве старонкі (па пытаньнях аб гарантыях і рэстаўрацыі), т. IX.

10. „Пролетариат и кристьянство“, т. VII.
11. „Бойкот булыгинской Думы и восстание“, т. V.
12. „Мелкобуржуазный и пролетарский социализм“.
13. „О реорганизации партии“, т. VIII.
14. „Доклад о революции 1905 г.“, т. XIX.
15. „Бойкотировать ли гусударственную думу“.
16. „Современное положение Росии и тактика партии“, т. IX.
17. „Победа кадетов и задачи рабочей партии“, т. IX.
18. „Доклад об Об'единенном с'езде“, т. IX.
19. „Обращение к партии большевиков делегатов с'езда“, т. IX.
20. „О бойкоте“, т. X.
21. „Уроки Московского восстания“, т. X.
22. „Социал-демократия и избирательные соглашения“, т. X.
23. „Против бойкота“, т. XII.
24. „Земская кампания и план „Искры“, тв. т. VII.
25. „О Временном революционном правительстве“, там-жа.
26. „Революционно-демократическая диктатура пролетариата и крестьянства“, там-жа.
27. „О боевом соглашении для восстания“, там-жа.
28. „Должны ли мы организовать революцию“, там-жа.
29. „О нашей аграрной программе“, там-жа.
30. „От народничества к марксизму“, там-жа.
31. „Отношение С.-Д. к крестьянскому движению“, там-жа, т. VIII.
32. „Социализм и крестьянство“, там-жа.
33. „Две тактики социал-демократии“, там-жа.
34. „Победа кадетов“, там-жа, т. IX.
35. „Тактическая платформа большевиков к Об'единительному с'езду“, там-жа, т. IX.
36. „Кризис меньшевизма“, там-жа, т. X.
37. „Платформа революционной социал-демократии“, там-жа, т. X.
38. „Рабочая партия и ее задачи при современном положении“, там-жа, т. IX.

## ТРОЦКІ:

1. 1905 г. Прадмова (першыя тры старонкі).
2. 1905 г. „Пролетариат и русская революция“, стар. 257—269.
3. 1905 г. „Наши разногласия“, стар. 270—286.
4. „Итоги и перспективы“, гл. зборнік артыкулаў Троцкага „Наша революция“ выд. 1906 г.
5. „Революция и ее силы“, тв., т. II. ч. I.
6. „Перспективы дальнейшего развития революции“, т. II, ч. I.
7. Мартынаў „Две диктатуры“.
8. Каутскі — „Движужие силы и перспективы русской революции“, пад. рэд. і з прадмовай Леніна, ГІЗ, 1926 г.
9. Пляханаў — „Дневник с.-д., № 4“, тв., т. XV.
10. Пляханаў — Артыкулы з „Товарища“: „Открытое письмо к сознательным рабочим“; „Гласный ответ одному из читателей“; „Пора об'ясниться“, т. XV.
11. „Проекты и резолюции IV и V партс'ездов“, гл. дадатак да твораў Леніна.
12. Тэзы „Культпропа ЦК ВКП(б) и Института Ленина о 25-ти летии 1905 г. (гл. „Правда“ ад 10/X-1930 г.).
13. М. Пакроўскі — „Русская история в самом сжатом очерке“, в. III.
14. А. Бубноў — „История ВКП(б)“, адпаведныя главы.
15. „История ВКП(б)“, пад рэд. Яраслаўскага, т. II.
16. Зборнік „1905 г.“, выд. Гістпарта, т. I, артыкул Гайсьцера Ванага.
17. А. Шастакоў — „Крестьянская революция 1905—1907 гг.“.
18. Ем. Яраслаўскі — Воруженное восстание в декабре 1905 г.“, зб. „1905 г.“, выд. Гістпарта, т. III, п. 2.
19. „Большевик“ №№ 7, 8, 9, 30-31 г., арт. Горына, Яраслаўскага і рэд „Большевика“.

*Да пятай тэмы:*

Ленін—1. „Письма из далека“, пісьмо 1-е, тв. XX т. (стар. 13—20).
„ 2. „О задачах пролетариата в революции“, там-жа, стар. 89—90.
„ 3. „Письма о тактике“, там-жа, стар. 99—108.
„ 4. „К лозунгам“, тв., т. XXI, стар. 33—38.
„ 5. „О конституционных иллюзиях“, там-жа, т. XXI, стар. 48—59.
„ 6. „Уроки революции“, там-жа, стар. 65—77.
„ 7. „О выступлении Каменева в ЦИК'е“, там-жа, стар. 78-79.
„ 8. „О компромиссах“, там-жа, стар. 132—136.
„ 9. „Большевики должны взять власть“, там-жа, стар. 193-194.

Ленін 10. „Марксизм и восстание", там-жа, стар. 196—199.
„ 11. „Из дневника публициста", там-жа, стар. 215—220.
„ 12. „Кризис назрел", там-жа, стар. 235—241.
„ 13. „Речи на заседаниях ЦК 23(10) 29(16) октября", там-жа, стар. 326—333.
„ 14. „Два письма о штрейкбрехерстве" Каменева і Зіноўева, там-жа, стар. 350—356.
„ 15. „К четырехлетней годовщине Октябрьской революции", тв., т. XXVII, стар. 24—31.
„ 16. „Быборы в учредительное собрание и диктатура пролетариата", т. XXIV.
„ 17. „Пролетарская революция и ренегат Каутский": глава „Прислужничество буржуазии под видом экономического анализа", т. XXIII, стар. 386—407.
„ 18. „Речь о годовщине революции", т. XXIII стр. 249—261.
„ 19. „О нашей революции, т. XXVII, стар. 398—401.
„ 20. „Письма из далека", пісьма 2-е, 5-е, тв., т. XX.
„ 21. „Доклад о текущем моменте на Петроградской конференции", там-жа.
„ 22. „Материалы о пересмотре партийной программы", там-жа.
„ 23. „Речь на с'езде крестьянских депутатов и проект резолюции", там-жа.
„ 24. „Переход контр-революции в наступление", там-жа.
Сталін 25. „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов", прадмова да кнігі „На путях к Октябрю" (гл. Сталіна „Вопросы Ленинизма").
„ 26. „Троцкизм или ленинизм". гл. 1—11, тв. „Об оппозиции". стар. 101—117 (гл. той-жа зборн., стар. 627—633).
„ 27. „О лозунге диктатуры пролетарвата и беднейшего крестьянства в период подготовки Октября",—глядз. „Вопросы ленинизма" стар. 313—323.
„ 28. Брошура „Каменеў і Зіноўеў у 1917 г." выд. „Московский Рабочий". 1927 г.

Да пятай тэмы:

Ленін. 29. „К вопросу об об'единении интернационалистов", тв., т. XX.
„ 30. „10-е июня", там-жа.
„ 31. „Куда привели революцию эсэры и меньшевики", там-жа.
„ 32 „Начало бонапартизма", т. XXI.
„ 33. „Крестьяне и рабочие", там-жа.
„ 34. „О героях подлога", там-жа.
„ 35. „Задачи революции", там-жа.
„ 36. „Письмо Смилге", там-жа.
„ 37. „Удержат ли большевики государственную власть". там-жа.
„ 38. „Письмо к большевикам—участникам северного с'езда советов", там-жа.
„ 39. „Грозящая катастрофа", там-жа.
„ 40. „Луиблановщина", тв., т. XX.
„ 41. „Протоколы ЦК РСДРП", ГІЗ 1929 г. аддз. I і II.

42. Троцкий—„Уроки Октября".
43. Даклад Леніна і садаклад Каменева аб бягучым момандзе і заключнае слова па гэтых дакладах на красавіцкай конфэрэнцыі 1917 г. гл. „Петроградская общегородская конференция РСДРП в апреле 1917 г.", ГІЗ, 1925 г.
44. „VI с'езд РСДРП—доклады и прения по текущему моменту", гл. „Протоколы".
45. Зиновьев.—„Ленинизм", главы 4 і 6.
46. Э. Генкина—„Февральский переворот" в „Очерке по истории Октябрьской революции", т. II.
47. Д. Кін—„Борьба против „Об'единенного угара" в 1917 г., „Пролетарская революция" № 6 (65), за 1917 г.
48. Сталін—„Речь на Петроградской июльской конференции „большевиков", зборн. „На путях к Октябрю".

Увага: Пажадана прачытаць цалкам „Очерки по истории Октябрьской рэволюции" под ред. Пакроўскага, т. 1 і 2.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 356. Заказ № 3634. Тыр. 2680 экз. 5 арк.